Рэдактарская група:
І.Александровіч,
В.Садыкава,
Г.Фатыхава.

Рэдакцыя "Байрама" выказвае шчырую

п а д з я к у

прафесару Паулю Сутару з Швейцарыі,
мусульманіну Нурулле Вахітаву з Чувашыі
за сродкі, якія яны даслалі нам на выданне
квартальніка;

мусульманіну Мурату Якубоглу ( Якубоускаму ).
з Турцыі, навукоуцу Валерыю Буйвалу з Менска,
энцыклапедыстам з Татарстана, якія даслалі
нам вельмі цікавыя і патрэбныя для рэдакцыі
публікацыі — кнігі, часопісы і газеты.

Надрукавана у Навагрудку

أَعُوذُ بِاللّٰهِ مِنَ الشَّيْطَانِ الرَّجِيمِ

بِسْمِ اللّٰهِ الرَّحْمٰنِ الرَّحِيمِ

أَلسَّلَامُ عَلَيْكُمْ وَرَحْمَةُ اللّٰهِ تَعَالَى وَبَرَكَاتُهُ

Ассаляму алейкум, спадарыні і спадары,
супляменнікі-татары, усе мусульмане !

Сёлета спаўняецца 50-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Родныя і блізкія аплаквалі загінуўшых на франтах і ў партызанах, трывожыліся за жыццё тых, хто адразу пасля вызвалення пайшоў у дзейную армію — ад 50-гадовых дзядоў да 17-гадовых юнакоў. Многія сем"і татараў асірацелі і ў 1945 годзе, калі паклалі свае галовы сыны татар, дабіваючы фашысцкага звера ў яго ўласнай бярлозе, некаторыя на Далёкім Усходзе, амаль каля Татарскага праліва.

"Ніхто не забыты, нішто не забыта !" Добрыя словы, але ці не усё і скончылася гэтай фразай ? Без належнай увагі дажываюць свой век воіны — удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, параненыя і хворыя, удовы загінуўшых, пажылыя людзі, якія заўчасна састарыліся і захварэлі ў выніку цяжкіх выпрабаванняў — голаду, недаядання, псіхічных стрэсаў у час вайны і ў першыя пасляваенныя пяцігодкі. З сумам глядзяць гэтыя людзі на тое, як дзялкі-прыхватызатары будуюць сабе палацы, купляюць тое, аб чым перадае радыё і паказвае тэлебачанне ў сваіх рэкламах. Ці ж за гэта аддалі сваё здароўе і жыццё людзі ў вайне, ці за гэта працавалі яны на палях і на прадпрыемствах, каб былыя партыйцы, а цяпер начальнікі нахабна рабавалі сумленных людзей. Няшчырасць сучасных кіраўнікоў бачаць усе, не выпрасіць ім даравання за грахі нават цалаваннем рук святароў, адзетых у пышныя рызы.

У гэтым годзе спаўняецца 200 гадоў з пачатку паўстання Тадэвуша Касцюшкі ў Польшчы, Беларусі і Літве супроць царскай Расіі, супроць Кацярыны II. Ненажэрны двухгаловы арол імкліва пашыраў усё новыя захопы. У 1783 г. Расія захапіла Крымскае ханства, пазней знайшлася зачэпка ў Кацярыны II яшчэ раз умяшацца ў справы Польшчы. Для царскага ўрада патрэбны былі новыя землі, новыя

мажлівасці запрыгоньваць людзей і раздаваць іх рускім памешчыкам. Прагрэсіўныя людзі Польшчы, Літвы і Беларусі паўсталі супроць царскага войска. Разам з паўстанцамі аказаліся і нашы татары, хоць і бачылі яны, што з Расіяй наўрад ці ўдасца справіцца. Але ні ў гэтым паўстанні, ні ў паўстаннях 1831 і 1863 гадах ( паўстанні Каліноўскага ) татары не сталі на бок мацнейшага, Расіі, а разам з палякамі, беларусамі і літоўцамі змагаліся з агульным ворагам і падзялілі з імі іх лёс. Фізічна паўстанцы былі перamoжаны́мі двухгаловым арлом-драпежнікам, але маральна яны аказаліся мацнейшымі, бо змагаліся за справядлівую справу. На месцы зацятай бойкі паўстанцаў Касцюшкі, якія абаранялі прадмесце Варшавы — Прагу, стаіць помнік тым, хто загінуў, абараняючы Радзіму і Вольнасць. Гэта помнік палякам, беларусам, літоўцам і татарам. І я ганаруся тым, што і мой продак загінуў там, а не быў разам з галаварэзамі "чудо-богатырями" Суворава.

І яшчэ адны, 50-я ўгодкі падзеі, падзеі жахлівай у жыцці татар. 18 мая споўніцца сумная гадавіна гвалтоўнай дэпартацыі татар з іх радзімых месцаў — з Крыма. Вывезлі іх на загубу. На працягу першых гадоў ад голаду, хвароб памерла іх амаль палова. І хоць пасля многіх гадоў былі абвешчаны указы Вярхоўнага Савета СССР, што абвінавачванне ўсіх татар было беспадстаўным, але кляймо "здраднік радзімы" сталінскія памагатыя пакінулі ў памяці ўсіх тых, каму гэта выгадна па нейкіх меркаваннях, пакінулі ў псіхіцы пацярпелых на ўсё жыццё. Як жывецца крымскім татарам цяпер наш чытач даведаецца са скупых радкоў у гэтым нумары "Байрама".

Пра тое, як жывуць татары ў Татарстане, мы амаль нічога не ведаем. Радыё і тэлебачанне Масквы амаль нічога не перадаюць пра жыццё ў былых аўтаномных рэспубліках, татарскамоўныя перадачы з Германіі, якія ў нас чутно, не можам мы зразумець, а хоць бы скарочаны пераклад гэтых перадач казанскімі татарамі, якія жывуць у Менску, мы зрабіць яшчэ не здагадаліся.

7 студзеня 1994 г. адбылася важная падзея — другі з"езд мусульман Беларусі. На з"ездзе было утворана Мусульманскае рэлігійнае аб"яднанне, прыняты Статут, абрана кіраўніцтва, аб чым паведамляецца больш падрабязна ў гэтым нумары квартальніка.

У гэтым годзе адбудуцца выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Татар-выбаршчыкаў будзе 0,1 % ад колькасці ўсіх, хто пажадае выбраць главу дзяржавы. Не мае практычна ніякага значэння, за каго прагаласуюць татары. Гэта будзе мець значэнне толькі для самога

татарына і татаркі, для яго дзяцей. Калі ён і яна могуць сказаць самаму сабе і сваім дзецям: "Я галасавау за прыстойнага чалавека, за вольную Беларусь, за незалежную дзяржаву", то гэта і будзе тое, што патрабуе сумленне мусульманіна, абавязак грамадзяніна нашай Айчыны — Беларусі.

Няўмольная смерць напамінае нам, што усе нашы справы — гэта толькі мітусня. Трэба працаваць так, як быццам ты будзеш жыць вечна, але жыць так, як быццам сёння памрэш і ужо нічым не паправіш сваіх правінкау-грахоу.

Памерлі Ганна Мелетава і Эмір Гембіцкі, памерлі нашы добрыя сябры-беларусы — дырэктар Руднянскай васьмігадовай школы Капыльскага раёна Анатоль Бельскі ( 4 лютага 1994 г. ) і доктар гістарычных навук, пісьменнік Генадзь Каханоускі ( 15 студзеня 1994г. Няхай жа Рай Светлы будзе усім ім !

Набліжаецца вялікае гадавое свята — Ід аль-Адха — Курбан-Байрам. Сталася так, што у гэтым годзе яно адзначаецца ва усіх мусульман у адзін дзень, па арабскім мусульманскім і турэцкім мусульманскім календары, а па еурапейскім — 21 трауня ( мая ). Рэдакцыя квартальніка Беларускага згуртавання татарау-мусульман "Аль-Кітаб" віншуе усіх мусульман Беларусі з надыходзячым святам, жадае усім спакою, упэуненай і плённай працы, адраджэння Ісламу на Беларусі. Каб нам усім наступнага свята прычакаць і здаровымі быць.

اَلسَّلَامُ عَلَيْكُمْ وَرَحْمَةُ اللّٰهِ تَعَالَى وَبَرَكَاتُهُ

Мір вам, міласць Аллага Усявышняга і Яго благаслауленне.

Пішыце у "Байрам" артыкулы, прапановы, заувагі. Наш адрас: 220086, г.Менск, вул.Славінскага, д.21, кв. 8, Якубу Якубоускаму Тэл.: 63-37-89; 61-84-93; 31-26-12.

قُرْآنْ
سورة النِّسَآءِ

# КУР"АН

## Сура Аль-Ніса
## (Жанчыны)

1. У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага !

2. О людзі, бойцеся Уладыкі свайго, Каторы стварыў вас з адзінай душы, і з яе стварыў сяброўку ёй, і ад іх двaіх распаўсюдзіў мноства мужчын і жанчын, шануйце Аллага, імем Якога вы ўпрошваеце адзін другога, і ўлонне, вас вынасіўшае. Аллаг — сторaж над вамі !

3. І аддавайце сіротам іх маёмасць, і не змяньвайце добрае на благое, і не прысвойвайце маёмасць іх разам са сваім уласным. Сапраўды, гэта — вялікі грэх !

4. І калі вы баіцеся, што вы не будзеце справядлівымі ў вашым абыходжанні з сіротамі, то вазьміце ў жонкі сабе з жанчын, колькі вам пажадана, двух, трох або чатырох *; а калі вы баіцеся, што не будзеце абыходзіцца па справядлівасці, то бярыце за жонку толькі адну, або з тых, каго вы ўзялі ў палон. Гэта — найкарацейшы шлях для вас, каб пазбегнуць несправядлівасці.

---

* Магчыма што ў гэтай суры разглядаецца праблема, з якой сутыкнулася мусульманская абшчына адразу пасля бітвы пры Ухудзе, у якой загінула і было паранена многа мужчын, у выніку чаго засталося многа сірот, удоў і паненак без жаніхоў. Востра паўстала пытанне аб сацыяльнай і матэрыяльнай абароненасці жанчын, афіцыйнай легалізацыі палігаміі ( мнагажонства ) як адзінай магчымасці забяспечыць жанчын маральным правам мець сям"ю і дзяцей ( Валерыя Парахава, заўвага 196 да кнігі „Коран, переводы смыслов", Масква, 1991. )

بِسْمِ اللّٰهِ الرَّحْمٰنِ الرَّحِيمِ (١)

يٰٓأَيُّهَا النَّاسُ اتَّقُوا رَبَّكُمُ الَّذِى خَلَقَكُم مِّن نَّفْسٍ
وَاحِدَةٍ وَخَلَقَ مِنْهَا زَوْجَهَا وَبَثَّ مِنْهُمَا رِجَالًا كَثِيرًا
وَنِسَآءً وَاتَّقُوا اللّٰهَ الَّذِى تَسَآءَلُونَ بِهِۦ وَالْأَرْحَامَ
إِنَّ اللّٰهَ كَانَ عَلَيْكُمْ رَقِيبًا (٢)

وَآتُوا الْيَتٰمٰىٓ أَمْوٰلَهُمْ وَلَا تَتَبَدَّلُوا الْخَبِيثَ بِالطَّيِّبِ
وَلَا تَأْكُلُوٓا أَمْوٰلَهُمْ إِلٰىٓ أَمْوٰلِكُمْ إِنَّهُۥ كَانَ حُوبًا
كَبِيرًا (٣)

وَإِنْ خِفْتُمْ أَلَّا تُقْسِطُوا فِى الْيَتٰمٰى فَانْكِحُوا مَا طَابَ
لَكُم مِّنَ النِّسَآءِ مَثْنٰى وَثُلٰثَ وَرُبٰعَ فَإِنْ خِفْتُمْ
أَلَّا تَعْدِلُوا فَوٰحِدَةً أَوْ مَا مَلَكَتْ أَيْمٰنُكُمْ ذٰلِكَ
أَدْنٰىٓ أَلَّا تَعُولُوا (٤)

К у р а н . Сура Аль-Ніса, аяты I -- 4 .

5. І аддавайце жанчынам іх пасаг дабравольна[жж]. Але калі яны, па уласнаму жаданню адмовяцца ад часткі яго, то прыміце гэта у свае карыстанне.

6. І не давайце неразумным маёмасць вашую, якую Аллаг даравау вам як сродак на пражыццё; але трацце з маёмасці на ежу і вопратку іх і звяртайцеся да іх са словамі добразычлівай парады.

7. І выпрабуйце сірот, пакуль яны не дасягнуць шлюбнага узросту; тады, калі вы выращыце, што яны разважлівыя, аддайце ім маёмасць іх; і не трацце яго па-шахрайску і паспешна, пакуль яны не пасталелі. І хто багаты, няхай устрымаецца; а хто бедны, — няхай траціць на сябе з яго па справядлівасці.

8. Мужчынам належыць частка таго, што пакідаюць бацькі і блізкія родзічы; жанчынам належыць частка таго, што пакідаюць бацькі і блізкія родзічы; многа гэта ці мала — частка прадвызначаная.

9. І калі іншая радня і сіроты і бедныя прысутнічаюць пры раздзеле спадчыны, дайце ім што-небудзь з яе і звяртайцеся да іх з ласкавым словам.

10. І няхай баяцца Аллага апекуны сірот, нібы пакідаюць пасля сябе слабых нашчадкау сваіх, баяцца за іх. Няхай яны адчуваюць Аллага і кажуць слова праведнае.

11. Сапрауды, прысвойваючы маёмасць сірот, яны нічога не прысвойваюць, акрамя агню у жываты свае; і будуць яны гарэць у полымі.

12. Аллаг загадвае вам адносна вашых дзяцей: дзіця мужчынскага полу атрымлівае долю двух дзяцей жаночага полу; калі ж дзеці толькі жаночага полу, і іх больш, чым двое, то яны атрымаюць дзве траціны са спадчыны; калі ж іх толькі адна, яна атрымае палавіну. І бацькі яго атрымаюць, кожны з іх, шостую частку спадчыны, калі у яго ёсць дзіця; але калі ён бяздзетны і бацькі яго спадкаемцы яго, тады маці

---

жж Такая норма права вядома у праве Беларуска-Літоускай дзяржавы Пэуная сума ( в е н а ) муж запісвау пад залог пэунай часткі сваёй маёмасці для забеспячэння цэласнасці пасагу жонкі.

яго атрымае шостую частку, пасля аплаты завешчаных ахвяраванняў і даўгоў. Бацькі вашы і дзеці вашы: не ведаеце вы, хто з іх бліжэй да вас, як устаноўлена Аллагам. Сапраўды, Аллаг Усёвед і Мудры !

I3. I атрымаеце вы палавіну таго, што жонкі вашы пакінуць пасля сябе, калі яны бяздзетныя; але калі у іх ёсць дзіця, вы атрымаеце чвэрць пакінутага імі пасля уплаты завяшчаных ахвяраванняў або даўгоў. I яны атрымаюць чвэрць пакінутага вамі, калі вы бяздзетныя: калі ж у вас ёсць дзіця, яны атрымаюць восьмую частку пакінутага вамі, пасля аплаты завешчаных ахвяраванняў або даўгоў. I у выпадку смерці мужчыны або жанчыны, спадчына якіх падлягае падзелу, калі ён ці яна не маюць ні бацькоў, ні дзяцей, і ён ці яна маюць зводнага брата ці сястру, тады кожны з іх атрымае шостую частку. Калі ж іх больш таго, яны пароўну падзеляць паміж сабою трацціну, пасля аплаты завешчаных ахвяраванняў ці даўгоў, не крыўдзячы адзін аднаго. Гэта — прадпісанне Аллага, і Аллаг — Мудры, Доўгацярплівы !

I4. Такія рубяжы, устаноўленыя Аллагам, і таго, хто слухаецца Аллага і Пасланніка Яго, увядзе Ён у сады, праз якія цякуць ручаі; там будзе жыллё іх; і гэта — вялікая раскоша.

I5. А хто не паслухаецца Аллага і Пасланніка Яго і парушыць запаведзі Яго, таго Ён укіне у агонь; там ён будзе знаходзіцца; і атрымае ён ганебнае пакаранне.

I6. I калі жанчыны вашыя вінаватыя у блудзе, прывядзіце чатырох сведак супроць іх; і калі яны пасведчаць, замкніце іх у дамах, покуль не напаткае іх смерць ці Аллаг не адчыніць для іх выйсце.

I7. I калі двое мужчын сярод вас павінны у тым жа, пакарайце іх абаіх. Калі ж яны раскайваюцца і выправяцца, пакіньце іх: сапраўды, Аллаг прыймае пакаянне і міласэрны !

18. Сапрауды, Аллаг абяцае прыняць пакаянне толькі тых, хто робіць зло па нятведанні і неузабаве пасля гэтага раскайваецца. Да такіх Аллаг звяртаецца з міласэрнасцю; і Аллаг Усёвед, Мудры !

19. Не прымаецца пакаянне тых, хто працягвае тварыць зло, покуль, калі смерць стаіць перад адным з іх, ён не скажа: "Цяпер я каюся", таксама да тых, каторыя паміраюць у няверʼі. Для іх прыгатавана Намі нясцерпнае пакаранне.

20. О вы, вернікі, несправядліва для вас атрымліваць у спадчыну жанчын супроць волі іх; і не можаце вы несправядліва трымаць іх, каб адабраць частку таго, што вы далі ім, акрамя як, калі яны павінны у гнюсным злачынстве; і жывіце з імі лагодна; і калі вы адчуваеце непрыязнь да іх, быць можа, вы адчуваеце і непрыязнасць да таго, у што Аллаг уклау многа добрага.

21. І калі вы хочаце узяць адну жонку узамен другой і вы далі скарб адной з іх, не бярыце нічога з таго. Ці ж возьмеце вы яго шляхам ілжы і яўнага граху ?

22. І як можаце вы узяць яго, калі вы былі адзін на адзін, і яна ( жанчына ) узяла у вас урачыстае абяцанне.

23. І не бярыце у жонкі жанчын, якія былі жонкамі вашага бацькі. Брудная і мярзотная гэта справа і дрэнны шлях.

24. Забаронены вам маці вашыя і дочкі вашыя, і сёстры вашыя, і сёстры бацькі вашага і сёстры маці вашай, і дочкі братоу вашых, і дочкі сясцёр вашых, і карміцелькі вашы, якія кармілі вас грудзямі, і малочныя сёстры вашы, і маці жонак вашых, і падчарыцы вашы, якія пад апекай вашай, дочкі жонак вашых, з якімі вы уступілі у шлюбныя адносіны ( але калі вы не уступілі у такія адносіны, то на вас не будзе грэх узяць шлюб з імі ); з жонкамі сыноу вашых, якія ад вашага семя; забараняецца мець жонкамі разам двух сясцёр; застаюцца такія шлюбы, калі яны ужо адбыліся раней. Сапрауды, Аллаг Прабачлівы, Міласэрны !

25. І забаронены вам замужнія жанчыны, акрамя тых, што належаць вашым правым рукам. Так прызначыў вам Аллаг. А жанчыны акрамя гэтых дазваляюцца вам, каб вы шукалі іх праз маёмасць вашу, уступалі ў законны шлюб з імі і не тварылі блуд. І за тое, што вы будзеце карыстаць у жанчын, давайце ім аддзяку, як устаноўлена, і не будзе для вас грэху ў тым, аб чым вы ўзаемна пагадзіліся па ўстанаўленні пасагу. Сапраўды, Усёвед і Мудры Аллаг!

26. І калі хто з вас не мае сродкаў узяць у жонкі вольную, веруючую жанчыну, няхай бярэ ў жонак тых, якія належаць правай руцэ, а менавіта на вашых веруючых прыслужніцах. І Аллаг лепш ведае веру вашу. Усе вы пайшлі адны ад другіх; дык бярыце іх у жонкі з дазволу гаспадароў іх і давайце ім пасаг ( вена ) іх па справядлівасці, калі яны цнатлівыя, не ідуць у блуд і не бяруць сабе тайных палюбоўнікаў. І калі, пасля шлюбу, яны правіняцца ў блудзе, яны павінны атрымаць палавіну кары, прызначанай для свабодных жанчын.. Гэта тым з вас, которыя баяцца граху. І калі вы ўстрымаецеся, гэта будзе лепш для вас; і Аллаг Усёдаравальны, Міласэрны !

27. Аллаг хоча вам растлумачыць і накіраваць вас на шлях тых, хто быў раней вас, і звярнуцца да вас з міласэрнасцю. І Аллаг Усёвед, Мудры!

28. І жадае Аллаг звярнуцца да вас з міласэрнасцю; але тыя, якія прагавітыя, — жадаюць, каб вы збочылі і далёка адышлі ад шляху справядлівага.

28. Аллаг хоча аблегчыць бярэмя вашае, бо чалавек створаны слабым.

30. О вы, вернікі, не карыстайцеся маёмасцю вашай, атрыманай беззаконным шляхам, выключаючы тое, што вы нажылі гандлем па ўзаемнай згодзе. І не забівайце свае душы: сапраўды, міласэрны да вас Аллаг.

31. І калі хто робіць гэта шляхам беззаконня і несправядлівасці, таго Мы ўкінем у агонь; і лёгка гэта зрабіць Аллагу.

32. Калі вы ўстрымаецеся ад найбольш грахоўнага, што забаронена вам, Мы збавім вас ад меншых грахоў і прымем вас пры ўваходзе высакародным.

33. І не зайздросціце таму, чаму Аллаг узвысіў адных з вас перад другімі. Атрымаюць мужчыны долю з заслужанага імі, і жанчыны долю з заслужанага імі. І прасіце Аллага ласку Яго. Сапраўды, Аллаг ведае ўсё ў дасканаласці!

34. І кожнаму назначылі Мы спадкаемцаў таму, што пакінуць бацькі і крэўныя, а таксама тыя, з кім вы заключылі клятвеннае пагадненне. Дык дайце ім долю іх. Сапраўды, вас бачыць Аллаг!

35. Мужчыны — апекуны жанчын, бо Аллаг стварыў іх вышэй адных над другімі, бо яны ( мужчыны ) трацяць з маёмасці сваёй. Такім чынам шчаслівыя тыя жонкі, якія слухаюцца і захоўваюць тайны мужоў сваіх пад апекай Аллага. Што ж датычыцца тых, ад каторых можна чакаць непаслушэнства, пераконвайце іх і пакіньце іх адзінокімі на ложках іх, і пакарайце іх. Тады, калі яны будуць паслушнымі вам, старайцеся не ўжываць прымус. Сапраўды, Аллаг Усявышні і Вялікі!

36. І калі вы баіцеся разладу паміж імі, прызначце пасрэдніка з яго радні і пасрэдніка з яе радні. Калі яны ( пасрэднікі ) хочуць прымірэння, Аллаг здзейсніць гэта паміж імі. Сапраўды, Аллаг Усёвед, Усёмагутны!

37. І пакланяйцеся Аллагу, і не дадавайце нікога да Яго, і праяўляйце клопат да бацькоў, да крэўных, да сірот, да абяздоленых, да суседа, які блізкі вам, да суседа, які далёкі вам, і блізкага сябра, і падарожнага, і тых, якія належаць правым рукам вашым ( нявольнікам ). Сапраўды, не мае ласкі Аллаг да ганарыстых і пыхлівых!

38. Тых, якія скупыя і заклікаюць людзей да скупасці, і хаваюць тое, што Аллаг даў ім ад шчодрасці Сваей, прыгатавалі Мы нявернным ганебнае пакаранне.

39. І тым, якія ахвяруюць з багацця свайго на паказ людзям і не веруюць у Аллага і Апошні Дзень. І таму, у каго сябар Шайтан, няхай памятае, што нядобры ён сябар.

40. І ці ні была б шкода ім, калі б яны верылі у Аллага і Апошні Дзень, і ахвяравалі з таго, што даравау ім Аллаг ? І Аллаг у поунай меры ведае іх !

41. Сапрауды, не пакрыудзіць Аллаг нікога нават на пылінку. І усялякую добрую справу памножыць Ён і даруе ад Сябе вялікую узнагароду.

42. І як гэта будзе, калі Мы прыдзем са сведкамі ад кожнага народа і прывядзём цябе як сведка супроць іх ?

43. У той дзень тыя, якія не верылі і не паслухалі Пасланніка, захочуць, каб іх зямля схавала, але нічога не могуць яны утаіць ад Аллага.

44. О вы, вернікі, не пачынайце Малітву, калі вы п"яныя, пакуль не будзеце разумець, што мовіце, а не будучы нечыстымі — хіба толькі, калі вы у дарозе — пакуль не памыецеся. І калі вы хворыя альбо знаходзіцеся у падарожжы, альбо калі хто-небудзь з вас прышоу з прыбіральні, альбо калі вы дакраналіся да жанчыны і не знайшлі вады, то знайдзіце чысты пясок і абатрыце сабе твар і рукі. Сапрауды, Аллаг Спагадлівы, Усёдаравальны!

45. Ці ты не бачыш тых, каму даравана Аллагам частка Кнігі ? Як яны купляюць памылковы погляд і хочуць, каб вы таксама збіліся са шляху.

46. І Аллаг добра ведае ворагау вашых. Аллага дастаткова як Апекуна! Аллага дастаткова як Памочніка!

47. Ёсць некаторыя сярод габрэяу, якія перакручваюць словы з належнага месца іх. Яны кажуць: "Мы чуем і не павінуемся, выслухай нячутае і барані нас" — перакручваючы словам сваімі языкамі і наносячы удары рэлігіі. І каб яны сказалі: "Мы чуем і павінуемся", або "Слухай ты", і "Унзурна"[ж], то было бы лепш і больш правільна для іх. Але Аллаг пракляу іх за няверʼе; такім чынам, малаверныя яны.

---

ж Слова азначае: "адносцеся да нас з павагай".

( працяг суры у наступным нумары квартальніка )

## З ХАМАІЛА

"Байрам" працягвае друкаванне матэрыялаў з Хамаіла — нійетаў, якія чытаюцца перад малітвай — сурай ЯСІН і пасля гэтай суры. Перадачу арабскіх літар беларускімі (транскрыпцыю) зрабіў мусульманін Ісмаіл Александровіч. Для тых, хто ўмее чытаць па-арабску, Ісмаіл нійеты напісаў арабскімі літарамі.

Заўвага для тых, хто чытае толькі па-беларуску:
'А — мяккае А; Ґ — выбуховае Г ( рускае );
Г — мяккае Г ( беларускае ).

### НІЙЕТ ЗА ЎСІХ ПАМЕРЛЫХ, СВАІХ РОДНЫХ:

ІЛЯ́ГІ Я РЭ́ББІ НІЙЕ́Т ІТДЫ́М 'АЗІ́З УА-ШАРЫ́Ф ЯСІ́Н СЮРЭСІ́НЬ УКУ́МАҐА АЛЛА́Г РЫЗА́ СІ́ЧУНЬ РАСЮ́ЛЮ-Л-ЛА́ГУ ПАКІ́ РУХЫ́ЧУНЬ АЎЛЯДЫ́ АСХА́БІ АЗЬВА́ДЖЫ Э́ГЛІ БЕ́ЙТЫ РУХЫ́ЧУНЬ ДЖЫГА́Р ПАР ЛЕР ХАСЕ́НЬ ХУСЕ́ЙІН НІК ПАКІ́ РУХЛЕРЫ́ЧУНЬ УЛУ́Т АТАМУ́КЬ РУХЛЕРЫ́ЧУНЬ ДУ́СЬТ ЯКЫ́Н КАРДА́Ш ЛЕРЫ́ МУ́КЬ РУХЛЕРЫ́ЧУНЬ ТАКСЫ́Р ЛІК БІРЛЕ́ САГВІ́ ХАТАСІ́ БІРЛЕ́ УКУДУГУ́М Я РЭ́ББІ СЕНЬ КАБУ́Л УА-МЕКБУ́Л ХА́ЛІСАН МУ́ХЛІСАН ЛІЛЛЯ́ГІ ТА'АЛЯ́.

### НІЙЕТ ДЛЯ ЯСІНА ЗА ЧЫЁ-НЕБУДЗЬ ЗДАРОЎЕ:

ІЛЯ́ГІ Я РЭ́ББІ НІЙЕ́Т ІТДЫ́М 'АЗІ́З УА-ШАРЫ́Ф ЯСІ́Н СЮРЭСІ́Н УКУ́МАҐА СЕНЮ́НЬ РЫДА́НЬ УЧУ́НЬ РАСЮ́ЛЮЛ-ЛА́ГУ РУХЫ́ЧУ́НЬ Я РЭББАНА́ Я АЛЛА́Г БІХУ́РМЕТЫ ЯСІ́Н СЮРЭСІ́Н БАНЮ́М ( тут трэба назваць імя і імя маці, за чыё здароўе ЯСІН будзеш пець ) БІН КІМ У́ШБУРЫ ІЗА́ МА НІНДА́Г САФА́Р-ДА́Г ЮЛЬМАКА́ АНЛЕРҐА́ ШЫФА́ УА-СЕЛЯ́МАТ УА-КЮ́НДУВУ́Н КЯН БІРКІЛЬ ДАХЫ́ БАЛЯ́ ЛЕР-ДА́НЬ УА-КАДА́ ЛЕР-ДА́НЬ УА-ШАРРЫНДА́НЬ САФЛЯГЫ́ЛЬ СЕНЬ ЭЙЛЕЕ ХА́ЛІСАН МУ́ХЛІСАН ЛІЛЛЯ́ГІ ТА'АЛЯ́.

НІЙЕТ ЗА ЎВЕСЬ МІЗАР ( ЗІРЭЦЬ ):

ІЛЛЯГІ Я РЭББІ НІЙЕТ ІТДЫМ ХАТЫМ ІТМЕККЯ СЕЧЮНЬ РЫДАНЬ УЧУНЬ РАСЮЛЮЛ-ЛАГУ РУХЫЧУНЬ УШБУ ЗІЯРЭТ ЛЯТАНЬ МЕЙІТ ЛЕРЫНІК РУХЛЕРЫЧУНЬ Я РЭББІ СЕНЬ МУСЬТЭДЖАБ ЭЙЛЕЯ ХАЛІСАН МУХЛІСАН ЛІЛЛЬГІ ТА 'АЛЯ.

ПАСЛЯ ЛЮБОГА НІЙЕТА ПЕРАД ЯСІНАМ ЧЫТАЮЦЬ:

ПЕЙГАМБЕР МУХАММЕД МУСТАФА РУХЫНЕС-САЛЕВАТ АЛЛАГУММА САЛЛІ 'АЛЯ САЙІДЫНА УА-НАБІЛЮНА МУХАММАДЫН УА- 'АЛЯ АЛІ МУХАММЕД ВА-СЕЛЛЕМ ТАСЛІМА.

АУЗЮ БІЛЛЯГІ МІН--А-ШШАЙТАНІ-Р-РАДЖЫМ

БІСМІЛЛЯГІ-Р-РАХМАНІР-РАХЫМ.

АЛЬХАМДУ ЛІЛЛЯГІ РЭББІЛЬ- 'АЛЯМІН. АРРАХМАНІР-РАХЫМ. МАЛІКІ ЯУМІД-ДЫНЬ. ІЙЯКЯ НАУБУДУ УА-ІЙЯКЯ НАСТАЫНЬ. ІГДЫНАС-СЫРАТАЛЬ МУСЬТАКЫМА СЫРАТАЛЬ-ЛЯЗІНА АНЬ 'АМТА АЛЕЙГІМ. ГАЙРЫЛЬ МАГДУБІ 'АЛЕЙГІМ УА-ЛЕД-ДААЛЛІН. АМІН.

БІСМІЛЛЯГІ-Р-РАХМАНІ-Р-РАХЫМ.

УА-ІЛЯГУКЮМ ІЛЯГАНЬ УА-ХЫДАНЬ ЛЯ ІЛЯГА ІЛЛЯ ГУВАР-РАХМАНУ-Р-РАХЫМ. АЛЛАГУ ЛЯ ІЛЯГА ІЛЛЯ ГУВАЛЬ ХАЙЮЛЬ КАЙЮМУ. ЛЯ ТА'ХУЗУ-ІУ СІНАТУУ-УА-ЛЯ НАУМУЛЬ-ЛЯГУ МА ФІС-СЕМАВАТЫ УА-МА ФІЛЬ-ЭРДЫ. МАН ЗАЛЬ-ЛЯЗІ ЯШФАУ ЫНДАГУ ІЛЛЯ БІІЗНІГ. ЯУЛЯМУ МА БЕЙНА ЭЙДЫ-ГІМ УА-МА ХАЛЬФАГУМ, УА-ЛЯ ЮХЫТУНА БІШАЙІН МІН ЫЛЬМІГІ ІЛЛЯ БІМА ШАА. ВАСІА КЮРСІЙЮГУ-С-СЕМАВАТЫ ВАЛЬ-ЭРДА, УА-ЛЯ ЯУДУГУ ХЫФЗУГУМА, ВА ГУВАГЬ 'АЛІЙЮЛЬ 'АЗЫМ.

Я 'АЛІМ Я 'АЗЫМ Я РЭББУМ АЛЛАГ ДАФА 'А БАЛЯІ УА-КАДАІ ФІД-ДУНЬЯ ВАЛЬ-АХЫРАТЫ.

---

А ЦЯПЕР ЧЫТАЮЦЬ ЯСІН: "БІСМІЛЛЯГІ-Р-РАХМАНІР-РАХЫМ.

ЯСІН. ВА-ЛЬ-КУР"АНІЛЬ ХАКІМ ... і г. д.

( гл. "Байрам". № І -- 2, 1993 г. )

ПАСЛЯ ЯСІНА ТРЭБА ЧЫТАЦЬ:

Я АЛЛÁГУ Я АЛЛÁГУ Я АЛЛÁГУ Я РЭ́ББІ Я РЭ́ББІ Я РЭ́ББІ Я ВÁСІУ-Р-РЭ́ХМЕТУ ВÁІЬ - МАГФІ́РАТЫ КЮ́ЛЛІ ШÁЙІН ГÁЛІКЯ ІЛЛЯ́ ВÁДЖГАТУ ЛЯГУ́-ЛЬ-ХУ́КЬМУ УА-ІЛЕ́ЙГІ ТУ́РДЖАУ́Н. МÁ ФАТАВАЛЛЯ́ ÁНЫГУМ ХАТТÁ ХЫ́НЬ. ВА-АБСЫ́РГУМ ФАСÁУФА ЮБСЫРУН. ÁФАБІ́АЗА БІНÁ ЯСЬТÁУДЖЫЛЮ́Н. ФАІЗÁ НÁЗЯЛЯ БІСÁХАТЫГІМ ФАСÁ-А САБÁХУЛЬ МУНÁЗЯРЫН. ВА-ТАВÁЛЛЯ́ ÁНЫГУМ ХАТТÁ ХЫ́НЬ. ВА-АБСЫ́Р ФАСÁУФА Ю́БСЫРУ́НЬ. СЮБХÁНЯ РЭ́ББІКЯ РЭ́ББІЛЬ-ІЗЗЯТЫ 'АММÁ ЯСЫФУ́Н.

ВА-СЕЛЯ́МУН 'АЛЯ́-ЛЬ-МУ́РСЯЛІН.

ВАЛЬХÁМДУ ЛІЛЛЯ́ГІ РЭ́ББІЛЬ- 'АЛЯМІ́Н.

---

НЕКАТОРЫЯ МУСУЛЬМАНСКІЯ ІМЁНЫ

| арабская графіка | беларуская графіка | паходжанне слова | значэнне слова |
|---|---|---|---|
| نياز | Ніяз | персідскае | міласць, муж |
| پولاد | Пулад | персідскае | сталь, булат |
| رجب | Раджаб | арабскае | нарадзіўся ў месяцы Раджаб |
| رمضان | Рамадан | арабскае | нарадзіўся ў месяцы Рамадан |
| رسول | Расул | арабскае | пасланнік ( Аллага ) |
| رحمان | Рахман | арабскае | міласцівы ( адзін з эпітэтаў Аллага ) |
| رشيد | Рашыд | арабскае | кіраўнік, правадыр |

НІЙЕТ ЗА ЎСІХ ПАМЕРДЫХ, СВАІХ РОДНЫХ:

الٰهي يا ربّ نيّت اتديم عزيز وشريف يس
سورسن اوقومغه الله رضاسيچون رسول الله پاك
روحيچون اولادي اصحاب ازواج اهل بيته روحيچون
چهاريارلر حسن حسيننك پاك روحلري چون
اولوغ اتامونك روحلري چون دوسته يقين قرداش
لرمنك روحلري چون تقصيرلق برله سهوي خطاسي
برله اوقودغم يا ربّ سن قبول ومقبول خالصا مخلصا
لله تعالى ❀

НІЙЕТ ДЛЯ ЯСІНА ЗА ЧЫЁ-НЕБУДЗЬ ЗДАРОЎЕ:

الٰهي يا ربّ نيّت اتديم عزيز وشريف يس سورسن
اوقومغه سنڭ رضان اوچون رسول الله روحي اوچون يا
ربّنا يا الله بحرمة يس سورسن بنم (імя і імя маці)
بن كم اوشبو اذا ايتدم سفرده يولمق انلرغه شفا
وسلامة وكندون كان برجيل دجي بلالردن وقضا
لردن وشرندن صقلاغيل سن ايليه خالصا مخلصا
لله تعالى ❀

НІЙЕТ ЗА ЎВЕСЬ МІЗАР ( ЗІРЭЦЬ ):

اِلٰهِي يَارَبِّ نِيَّتْ اِتْدِيمْ خَتِيمْ اِتْمَكْ سَنُونْ رِضَاتْ
اُوچُونْ رَسُولُ اللّٰهْ رُوحِيچُونْ اُوشْبُو زِيَارَتْ لَيْطَانْ
مَيِّتْ لَرِبِنِيكْ رُوحْلَرِي اُوچُونْ يَارَبِّ سَنْ مُسْتَجَابْ
اَيْلَيَهْ خَالِصًا مُخْلِصًا لِلّٰهِ تَعَالٰى ❀

ПАСЛЯ ЛЮБОГА НІЙЕТА ПЕРАД ЯСІНАМ ЧЫТАЮЦЬ:

پَيْغَمْبَرْ مُحَمَّدْ مُصْطَفٰى رُوحِينَ اَلصَّلٰوةُ اَللّٰهُمَّ صَلِّ عَلٰى
سَيِّدِنَا وَنَبِيِّنَا مُحَمَّدٍ وَعَلٰى اٰلِ مُحَمَّدٍ وَسَلِّمْ تَسْلِيمًا ❀

اَعُوذُ بِاللّٰهِ مِنَ الشَّيْطَانِ الرَّجِيمِ

بِسْمِ اللّٰهِ الرَّحْمٰنِ الرَّحِيمِ

اَلْحَمْدُ لِلّٰهِ رَبِّ الْعٰلَمِينَ ❀ اَلرَّحْمٰنِ الرَّحِيمِ ❀ مٰلِكِ يَوْمِ
الدِّينِ ❀ اِيَّاكَ نَعْبُدُ وَاِيَّاكَ نَسْتَعِينُ ❀ اِهْدِنَا الصِّرَاطَ
الْمُسْتَقِيمَ ❀ صِرَاطَ الَّذِينَ اَنْعَمْتَ عَلَيْهِمْ ○ غَيْرِ الْمَغْضُوبِ
عَلَيْهِمْ وَلَا الضَّآلِّينَ ❀ اٰمِينْ ❀

بِسْمِ اللّٰهِ الرَّحْمٰنِ الرَّحِيمِ

وَاِلٰهُكُمْ اِلٰهٌ وَاحِدٌ لَا اِلٰهَ اِلَّا هُوَ الرَّحْمٰنُ الرَّحِيمُ ❀ اَللّٰهُ لَا اِلٰهَ
اِلَّا هُوَ اَلْحَيُّ الْقَيُّومُ لَا تَأْخُذُهُ سِنَةٌ وَلَا نَوْمٌ لَهُ مَا فِي السَّمٰوَاتِ
وَمَا فِي الْاَرْضِ مَنْ ذَا الَّذِي يَشْفَعُ عِنْدَهُ اِلَّا بِاِذْنِهِ يَعْلَمُ مَا
بَيْنَ اَيْدِيهِمْ وَمَا خَلْفَهُمْ وَلَا يُحِيطُونَ بِشَيْءٍ مِنْ عِلْمِهِ

إِلَّا بِمَا شَآءَ وَسِعَ كُرْسِيُّهُ السَّمٰوٰتِ وَالْأَرْضَ وَلَا يَؤُدُهُ
حِفْظُهُمَا وَهُوَ الْعَلِيُّ الْعَظِيمُ ۞
يَا عَلِيمُ يَا عَظِيمُ يَا رَبِّ اللّٰهُ دَفَعَ بَلَاءً وَقَدَاءً فِي الدُّنْيَا
وَالْآخِرَتِ ۞

ПАСЛЯ ЯСІНА ТРЭБА ЧЫТАЦЬ:

يَا اَللّٰهُ يَا اَللّٰهُ يَا رَبِّ يَا رَبِّ يَا وَاسِعَ الرَّحْمَتِ
وَالْمَغْفِرَتِ كُلُّ شَيْءٍ هَالِكٌ إِلَّا وَجْهَهُ لَهُ الْحُكْمُ وَإِلَيْهِ
تُرْجَعُونَ ۞ فَتَوَلَّ عَنْهُمْ حَتَّىٰ حِينٍ ۞ وَأَبْصِرْهُمْ
فَسَوْفَ يُبْصِرُونَ ۞ أَفَبِعَذَابِنَا يَسْتَعْجِلُونَ ۞ فَإِذَا نَزَلَ
بِسَاحَتِهِمْ فَسَاءَ صَبَاحُ الْمُنْذَرِينَ ۞ وَتَوَلَّ عَنْهُمْ حَتَّىٰ
حِينٍ ۞ وَأَبْصِرْ فَسَوْفَ يُبْصِرُونَ ۞ سُبْحَانَ رَبِّكَ
رَبِّ الْعِزَّةِ عَمَّا يَصِفُونَ ۞ وَسَلَامٌ عَلَى الْمُرْسَلِينَ ۞
وَالْحَمْدُ لِلّٰهِ رَبِّ الْعَالَمِينَ ۞

---

ЗАТЫМ МОЖНА ЧЫТАЦЬ ЯШЧЭ НЕКАЛЬКІ ДУА І КАРОТКІЯ СУРЫ З КУР"АНА.

( мяркуем надрукаваць гэтыя дуа і суры у наступных нумарах нашага квартальніка "Байрам" )

# СВЯШЧЭННЫ МЕСЯЦ РАМАЗАН

## М у с у л ь м а н с к а я к н і ж а ч к а

7-га рамазана ( 18 лютага ) выйшла у свет невялічкая мусульманская кніжачка. Грошы на выданне ахвяравалі арабскія студэнты. Адбор матэрыялу, некаторыя артыкулы, арабскую графіку выканалі таксама нашы браты-мусульмане. Па просьбе нашых спонсарау мы надрукавалі кнігу на рускай мове: мусульмане з некаторых краін Афрыкі, Пакістана, мусульмане з Расіі не ведаюць ні арабскай, ні беларускай мовы , таму выдалі мусульманскае слова па-руску.

## Т а р а в і х у М е н с к у

26-га рамазана ( 9 сакавіка ) сабраліся мусульмане, якія жывуць у Менску, у арандаваным памяшканні — Доме мастацтвау, каб прачытаць вячэрнія малітвы — Магрыб, Іша і малітву для душы у месяц Р а м а з а н — Таравіх. Планавалася правядзенне адной з начэй Прадвызначэння — Лейлят аль-Кадр ( Кадыр-ноч, як называюць беларускія татары ) напрыканцы свяшчэннага месяца. На вялікі жаль мы не здагадаліся, што арэнду памяшкання на усю ноч трэба было замовіць у самых найвышэйшых асоб дзяржавы за некальк і дзён. Атрымалі дазвол толькі на некалькі гадзін, але і за гэта дзякуй.

Сабралася шмат мусульман — маладых, сталых і пажылых. Чыталі Кур"ан, Хадзісы пра нашага прарока Мухаммеда ( мір яму ). Тарафіх завяршыуся раздачай садагі. Пілі чай і елі смачныя татарскія нацыянальныя стравы ( для тых нашых чытачоу, хто не ведае, скажам, што у свяшчэнным месяцы Рамазан мусульмане трымаюць пост, не п"юць і не ядуць у светлую пару сутак, а разгауляюцца вечарам. Напрыканцы Рамазана вечарам моляцца разам, ядуць салодкія стравы. Моляцца да самага ранку. )

Па заказу Міністэрства культуры робіцца кароткаметражны відэафільм. На гэтым Таравіху правадзіуся відэазапіс. Іншалла ( калі будзе на тое ласка Аллага ), татары і усе, хто цікавіцца жыццём татар, пагледзяць вэдэафільм на тэлеэкране.

## Іфтар у Іуі

У пятніцу 28 рамазана ( 11 сакавіка ) братамі-мусульманамі з арабскіх краін была арганізавана вячэра ( Іфтар ) у Іуі. З Менска прыехала амаль 40 студэнтаў з мусульманскіх краін і татар з Менскага джаміяту.

Прыехаўшых цёпла прывіталі кіраўнікі Іуеўскага джаміяту — М.Радкевіч і М.Шабановіч. У джаміі адбылося маленне — Салят-Магрыб. Імамам быў студэнт з Марока Ахмед Мжыдзіла.

Адметна тое, што сёлета у малітве прымала удзел многа моладзі — вучні мусульманскай школы ( амаль 20 чалавек ). Былі таксама і паважаныя аксакалы — мулла М.Шабановіч, мязім І.Шабановіч, шмат мужчын і жанчын. Затым была вячэра. задушэўная гутарка аб жыцці мусульман і шляхах адраджэння Ісламу на беларускай зямлі. Шкада што трэба было ад"язджаць дамоў. Але наперадзе нас чакала свята Ід аль-фітр ( Рамазан-Байрам ).

У заключэнне дадам, што у арганізацыі і правядзенні Іфтара вельмі пастараліся сям"я Аміні Аліеўны і Мустафы Юх"янавіча Шабановічаў. Шчыравалі таксама Алія Аліеўна, Халіма Халільеўна, Айша Аліеўна, Мяр"ема Якубаўна і іншыя. Была вельмі смачная мусульманская страва — палючастае, калдумы. Усім даспадобы былі татарскія булкі, якія спякла Халіма Халільеўна.

Добрага здароўя і вялікі дзякуй вам усім, дарагія браты і сёстры з Іуя.

## ІД АЛЬ-ФІТР — РАМАЗАН-БАЙРАМ У МЕНСКУ

У дзень вялікага гадавога свята — свята разгаўлення, якое сёлета прыйшлося на 13 сакавіка, а 6-й гадзіне раніцы сабраліся мусульмане Менска у Палац прафсаюзаў на святочны намаз. Усеўшыся радамі-сафамі на намазлыках і посцілках яны пачалі рэцытаваць з і к р . Паступова да іх далучаліся тыя, хто прыехаў пазней. Добрыя словы, рытм і мелодыя паступова агортвалі свядомасць усіх прысутных. Адыходзілі прэч думкі пра дробязнае. Мусульмане думалі пра вечнае.

Да узыхода сонца быў прачытаны Салят-Ід ( святочны намаз ). Імамам быў Ахмед Мжыдзіла. Ён прачытаў Хутбу., у якой была аб"яўлена сапраўднасць поста мусульман у месяцы Рамазан. Быў заклік да мусульман быць сапраўднымі вернікамі увесь час.

Актывісты "Аль-Кітаба" і Муфтэята наведалі вядомага вучонага, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Ібрагіма Смольскага і павіншавалі Яго з паважаным векам, пажадалі Яму добрага здароўя і плённай працы.

## НАЙЛЕПШАЕ, ШТО АЛЛАГ ПАСЫЛАЕ МУЖЧЫНЕ, —
## Г Э Т А   Д О Б Р А Я   Ж О Н К А

П р а в ы   ж а н ч ы н ы . Перш за усё, я лічыла і працягваю сцвярджаць, што няма жанчыны больш забяспечанай у сваіх правах, чым жанчына у мусульманскай сям"і, бо у Свяшчэнным Кур"ане прадпісана абавязковае і поунае матэрыяльнае забеспячэнне жонкі і сям"і. Калі юнак ці мужчына няздольны забяспечыць хоць бы мінімальна нармальныя умовы жыцця для сваей сям"і, то не след асуджаць сябе і будучую жонку на горкую жабрацкую долю. Абяшчаючы пра свой намер узяць шлюб, малады чалавек падкрэслівае перад грамадствам не толькі сваю біялагічную, але, што больш важна, сацыяльную, матэрыяльную і грамадзянскую спеласць.

А б а в я з к і   ж о н к і   у мусульманскай сям"і не менш пекныя і значныя. Трымаць дом у чысціні, бо чысціня з"яуляецца неад"емнай часткай Ісламу, гадаваць і выхоуваць дзяцей добрымі, здаровымі і працавітымі, забяспечваць лад сям"і і прывеліяванае становішча мужа у доме. У добрай жонкі муж і дзеці зауседы дагледжаны, накормлены, аблашчаны, што з"яуляецца зарукай шчасця. Найбольш характэрным і свяшчэнным абавязкам любой жанчыны з"яуляецца яе шлюбная вернасць. Любое адступленне жорстка караецца. Мусульманцы таксама забаронены алкаголь, курэнне, наркотыкі, зласлоуе, парнаграфія, пакушэнне на уласнае здароуе і здароуе другіх людзей.

М н а г а ж о н с т в а ( палігамія ) не забаронена Богам ні у адной рэлігіі. Толькі Кур"ан з усіх папярэдніх пісанняу — Торы Мусы ( Майсея ) і Евангелля Ісы ( Ііcуса ) настойвае на адзінажонстве ( манагаміі ), але пры надзвычайных абставінах Іслам дазваляе мнагажонства, аднак строга абмяжоувае іх колькасць да чатырох, пры абавязкова роуных і справядлівых адносінах мужа да сваіх жонак.

" ... а калі вы баіцеся, што не будзеце абыходзіцца па справядлівасці, то бярыце за жонку толькі адну ..."
( Кур"ан, сура 4 — Аль-Ніса, аят 4 ).

Няздольнасць выканання шлюбных абавязкау жонкай у сувязі з яе хваробай ці іншымі абставінамі, а таксама сацыяльна-дэмаграфічная сітуацыя ствараюць умовы, калі мнагажонства не так па-

жадана, як абавязкова для маральнай чысціні і маральнага дабрабыту грамадства. Гэта мера працідзеяння блуду, мане і хваробам.
У вопратцы мусульманскай жанчыны таксама ёсць свая асаблівасць і непаўтаральная прыгажосць. Адзенне, у якім мусульманская жанчына выходзіць на вуліцу, не павінна аблягаць цела і адкрываць інтымныя зоны, каб не прыцягваць мужчын, але гэта зусім не азначае, што вопратка павінна быць чорнай, пакамечанай ці бруднай. Дэкальтэ, майкі-сукні, міні-спадніцы, пляжная раздзетасць недазволены для мусульманкі.

Нашэнне чадры ( паранджы ) — гэта зусім не прыкмета мусульманства, а вынаходства турэцкага султанства. Твар жанчыны павінен быць адкрыты, бо яна павінна чуць, бачыць і добра адчуваць пах акаляючага асяроддзя, паразумявацца з людзьмі, інакш гэта можа быць фізічна небяспечна для яе, напрыклад, пры пераходзе вуліцы і г.д. А вось валасы, як правіла, прыкрытыя. Дарэчы, гэта ахоувае валасы жанчыны ад разбуральнага уплыву пылу, сонечных промняу, прамысловых і аутамабільных выхлапных газау.

Затое усе гэтыя забароны поунасцю здымаюцца дома, перад мужам, якога жонка сустракае з усмешкаю, дагледжаная, нават падрумяненая, з распушчанымі валасамі, у любой сукні, у тым ліку і адкрытай. З мужам мусульманскай жанчыне усё дазволена, што дае ім і сям"і радасць і шчасце.

---

Дарагія чытачы ! Давайце крыху паразважаем. У сярэднія вякі у Еурапе, пасля спустошальных войн, калі вельмі мала заставалася мужчын, нават каталіцкая царква дазваляла мнагажонства, бо трэба было адрадзіць насельніцтва у вёсках і гарадах.

У СССР, пасля Вялікай Айчыннай вайны, засталося некалькі мільёнау маладых дзяучат, бяздзетных удоу. Не было за каго выйсці замуж, а завадзіць дзіця без бацькі мала хто адважвауся. Так і засталіся многія сціплыя дзяучаты векавухамі. І сёння яны дажываюць свой век у адзіноце. Дзяржава наша таталітарная не падумала пра людзей. Каб жа да знядоленых гэтых дзяучат паставіліся па-чалавечы, маральна і матэрыяльна падтрымалі маці і іх дзяцей, а у мусульманскіх рэспубліках дазволілі мнагажонства, то можна было бы злагодзіць цяжкое становішча. Толькі усё гэта ужо запозненыя шкадаванні.

ПАХАВАНЫ НА ТАЛАЧЫНШЧЫНЕ

На паўднёвым усходзе Віцебскай вобласці размешчаны Талачынскі раён. Займае плошчу 1,5 тыс. кв. км. Цэнтр раёна — горад Талачын( вядомы з першай палавіны 15-га ст. ), гарадскі пасёлак Коханава, 10 сельсаветаў, 280 населеных пунктаў.

Нямецка-фашысцкія захопнікі знішчылі ў раёне каля 9 тысяч мірных жыхароў, вывезлі ў фашысцкае рабства 2526 чалавек. На франтах Вялікай Айчыннай вайны загінула больш за 4,3 тысяч ураджэнцаў Талачыншчыны, у партызанах і падполлі загінула каля 580 чалавек.

Гісторыкі-даследчыкі, краязнаўцы, супрацоўнікі выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя" ў выніку шматгадовай працы вывучылі гісторыю гэтага цікавага кутка нашай Бацькаўшчыны, выпусцілі ў свет у 1988 г. кнігу "Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка Талачынскага раёна".

У гэтым годзе спаўняецца 50 гадоў вызвалення Талачыншчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Будуць грамадскія паніхіды каля магіл 514 воінаў Чырвонай Арміі, магіл партызан і падпольшчыкаў, магіл цывільнага насельніцтва. Будуць маліцца святары розных канфесій.

А ці ёсць сярод палеглых нашы адзінаверцы-мусульмане ? На падставе аналізу прозвішчаў, імёнаў, месца нараджэння воінаў вылучана больш за 20 чалавек. Прозвішчы і звесткі аб палеглых мы друкуем.

Няхай даруюць нам тыя, каго мы ўключылі ў гэты спіс як мусульман, хоць яны былі атэістамі ці належалі да іншых канфесій. Няхай нам даруюць тыя, каго мы не ўключылі ў гэты спіс ( савецкая ўлада веравызнаннем чалавека не цікавілася і ў дакументах гэты пункт не пазначала ).

Няхай вернікі-мусульмане, молячыся за душы палеглых на вайне, памянуць імёны пахаваных на Талачыншчыне.

АЛІМАЎ, радавы, загінуў 29.6.1944. Пахаваны ў г.Талачын.

АНІЛІКАЎ Ахмет, нарадзіўся ў 1909 г. у Аягузскім раёне Сяміпалацінскай вобласці; радавы, кулямётчык 3-й гвардзейскай танкавай брыгады. Загінуў 7.7.1944. Пахаваны ў в.Жураулі Азерацкоўскага сельсавета.

БАЙТАМАЛІЕЎ Анвар, радавы мотабатальёна аўтаматчыкаў 19-й гв. танкавай брыгады. Загінуў 27.6.1944. Пахаваны ў в.Еўлахі Плоскаўскага сельсавета.

ВАХІДАЎ Манон, ст. сяржант 2-га танкавага батальёна. Загінуў 26.6.1944. Пахаваны ў г.Талачын.

ГАБЕТДЗІНАЎ Талгат Маркасімавіч, нарадзіўся ў 1912 г. ў г.Уфа; лейтэнант. Загінуў 1.7.1944. Пахаваны ў в.Заднева Азерацкага сельсавета.

ГАЙКУЛІН Магамедзян Хайрулавіч, нарадзіўся ў Арскім раёне Татарскай АССР; радавы 4-й гв. мотастралковай брыгады. Загінуў 29.6.1944. Пахаваны ў в.Галошава Коханаўскага пасялковага сельсавета.

ДЫРКІМБАЕЎ Кусейн, сяржант мотабатальёна аўтаматчыкаў 19-й гв. танкавай брыгады. Загінуў 27.6.1944. Пахаваны ў в.Еўлахі Плоскаўскага сельсавета.

ЕРМАКАЕЎ Хатмула Казімханаў, старшына. Загінуў 30.6.1944. Пахаваны ў в.Заднева Азерацкага сельсавета.

ЗАКІРАЎ Муталін, нарадзіўся ў 1925 г. ў Кунашакскім раёне Чэлябінскай вобласці; мал. сяржант, зараджальнік гарматы 32-й танкавай брыгады 29-га танкавага корпуса. Загінуў 28.6.1944 каля в.Бутары. Пахаваны ў в.Валосава Валосаўскага сельсавета.

КІСАКПАСАЎ Кабал, нарадзіўся ў г.Муйнак Муйнакскага раёна Каракалпакскай АССР; радавы. Загінуў 29.6.1944. Пахаваны ў в.Варанцэвічы Воўкавіцкага сельсавета.

КУСЕЙНАЎ Кусейн Арыфавіч, нарадзіўся ў 1921 г. ў г.Нахічэвань Азербайджанскай ССР; сяржант мотабатальёна аўтаматчыкаў 19-й гв. танкавай брыгады. Загінуў 27.6.1944. Пахаваны ў в.Булахі Плоскаўскага сельсавета.

МАКСІМАЎ Ібал Азатавіч, нарадзіўся ў 1925 г. ў Азербайджанскай ССР; радавы мотабатальёна аўтаматчыкаў 19-й гв. танкавай брыгады. Загінуў 27.6.1944 ў Талачыне. Тут і пахаваны.

МУРЛАЕЎ Махком, нарадзіўся ў 1924 г. ў в.Заўрам Пенджыкенцкага раёна ў Таджыкістане; радавы. Загінуў 29.6.1944. Пахаваны ў в.Заднева Азерацкага сельсавета.

МУХТАЕЎ Салям, нарадзіўся ў 1897 г. ва Усходне-Казахстанскай вобласці; радавы 252-га стралковага палка 83-й гв. стралковай дывізіі. Загінуў 27.6.1944 у раёне в.Сальнікі. Пахаваны ў в. Рамашкавічы Коханаўскага пасялковага савета.

НУРБАЕЎ Казыгель, нарадзіўся ў 1911 г. у Джалалгашскім раёне Кзыл-Ардзінскай вобласці Казахскай ССР; радавы. Загінуў 28 чэрвеня 1944 года. Пахаваны ў в.Заднева Азерацкага сельсавета.

НУРГАЛІЕЎ Хісмат, нарадзіўся ў 1918 г. у Татарстане; радавы мотабатальёна аўтаматчыкаў 19-й гв. танкавай брыгады. Загінуў 26.6.1944. Пахаваны ў в.Еўлахі Плоскаўскага сельсавета.

САНДЫБЕКАЎ Кайпан, нарадзіўся ў Казалінскім раёне Кзыл-Ардзінскай вобласці Казахскай ССР; радавы 18-й гв. танкавай брыгады. Загінуў 26.6.1944. Пахаваны ў гар. пасёлку Коханава.

СІТДАТУЛІН Гатаула Сібхатулавіч, лейтэнант, камандзір узвода 175-га мотастралковага палка. Загінуў 15.7.1941 у раёне гар. пасёлка Коханава. Быў воінам 1-й маскоўскай пралетарскай мотастралковай дывізіі.

ФАТАХАЎ Фаіс, нарадзіўся ў 1925 г. у г.Мензелінск Татарскай АССР; радавы 1-га мотастралковага батальёна 8-й гв. механізаванай брыгады. Загінуў 26.6.1944 у в.Высокі Гарадзец. Пахаваны ў в.Рыдамля Серкавіцкага сельсавета.

ХАСАНАЎ Ахмеджан, нарадзіўся ў 1921 г. у Наманганскай вобласці Узбекскай ССР; ст. сяржант, камандзір аддзялення матацыклістаў матарызаванага батальёна аўтаматчыкаў 18-й гв. танкавай брыгады 3-га гв. танкавага корпуса. Загінуў 25.6.1944. Пахаваны ў гар. пасёлку Коханава.

ХАМАТАЎ Імір Хаматавіч, нарадзіўся ў 1918 г. у Мензелінскім раёне Татарстана. Загінуў 26.6.1944. Пахаваны ў г.Талачын

ЮСУПАЎ Максум Калімулавіч, нарадзіўся ў 1923 г. у Татарстане; радавы. Пахаваны ў в.Заднева Азерацкага сельсавета.

## ДЗЕНЬ ЖАЛЬБЫ КРЫМСКАТАТАРСКАГА НАРОДА

18 мая 1994 года споўніцца 50 гадоў з таго дня, як таталітарны рэжым былога СССР здзейсніў злачынную акцыю — гвалтоўную дэпартацыю крымскіх татар са сваей Радзімы у аддаленыя раёны Сярэдняй Азіі, Казахстана і Сібіры.

З часу акупацыі Крыма Расіяй ( 1783 г. ) расправа над татарамі адбывалася шмат разоў, але генацыд 1944 года нельга ні з чым параўнаць. Цяжка сабе уявіць праз якія выпрабаванні прайшоў мой народ.

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна на фронце і у партызанскіх атрадах ваявалі больш за сто тысяч крымскіх татар, у тым ліку больш за пяць тысяч жанчын. За свабоду і незалежнасць краіны аддалі сваё жыццё больш за 55 тыс. чалавек, г.зн. 44% удзельнікаў вайны. Шмат крымскіх татар было узнагароджана ордэнамі і медалямі. Усім вядомы шэсць Героаў Савецкага Саюза — крымскіх татар ( Амет-Хан Султан атрымаў гэтае званне двойчы ), два кавалеры найвышэйшай салдацкай узнагароды — трох ордэнаў Славы. Бясстрашная крымскататарская савецкая разведчыца Аліме Абдэнанава была схоплена, катавана і расстраляна у засценках гестапа.

У перыяд акупацыі Крыма фашыстамі гарэлі татарскія вёскі, асабліва у горнай частцы Крыма. Тысячы татар былі выгнаны і вывезены у Германію на прымусовыя работы, многія загінулі у лагерах смерці.

Увесь крымскататарскі народ — старыя, дзеці і інваліды чакалі вызвалення ад фашысцкай акупацыі і радаваліся, калі яно наступіла. Народ прыступіў да аднаўлення разбуранай вайной гаспадаркі, але адбылося непрадбачанае. 18 мая 1944 года ( літаральна пасля тыдня са дня вызвалення усяго паўвострава ) кожны дом крымскіх татар быў акружаны. Пад штыкамі салдат ноччу увесь народ быў сагнаны, пагружаны у таварныя вагоны і вывезены з Крыма. Гвалтаўнікі не далі узяць з сабою самага неабходнага. Нішто не прымалася да увагі: ні сем"і Герояў Савецкага Саюза, ні сем"і партызан, ні сем"і воінаў, што змагаліся на фронце, ні дзеці, ні хворыя, ні старыя.

Шматпакутны беларускі народ перанёс многа бед — Курапаты, Хатынь ... У крымскататарскага народа таксама ёсць свае Курапаты. Хто быў у Крыме, той напэўна ведае, што ад Генічаска да Арабац-

кага заліва цягнецца вузкая Арабацкая стрэлка даўжынёю больш за 100 км. Там жылі пастухі, якія пасвілі авечак. Жылі там таксама людзі, якія нарыхтоўвалі соль на тамтэйшых саланчаках. У час агульнага выселення пра гэтых людзей забыліся. 19 мая, калі аб іх успомнілі, усіх гэтых людзей ( больш за тысячу чалавек ) загналі ў старыя баржы і патапілі ў Азоўскім моры. Кіраваў усім гэтым бліжэйшы памочнік ка́та Лаўрэнція Берыі — Багдан Кабулаў. Потым ён жа даносіў свайму шэфу аб поўным ачышчэнні Крыма ад карэннага насельніцтва — крымскіх татар. Выканаўцы генацыду за паспяховае выкананне ўказанняў "бацькі народаў" Іосіфа Сталіна былі ўдастоены ўрадавых узнагарод.

За адну толькі ноч 18 мая 1944 года крымскататарскі народ быў абрабаваны на 4,4 млрд. рублёў ( па курсу 1975 года ), было захоплена 80350 дамоў крымскіх татар, знішчаны татарскія могілкі ( мізары ), разбураны амаль усе мячэці.

Амаль палова выселеных з родных мясц крымскіх татар загінулі ад голаду і хвароб. Гінулі цэлыя сем'і. Ваеннаслужачыя з крымскіх татар, нягледзячы на іх заслугі, выганяліся з арміі і станавіліся так званымі спецперасяленцамі. Працаздольнае насельніцтва зганялася ў працоўную армію, дзе ўмовы былі горшыя, чым у лагерах для зняволеных. У гэтых умовах знайшлі сваю пагібель шмат хто з крымскіх татар. Каб паменшыць колькасць ахвяр сярод крымскіх татар, афіцыйная статыстыка дае звесткі крыху іншыя. Але цяпер ужо вядома, што перапіс насельніцтва, які быў праведзены пасля калектывізацыі і вялікага галадамору ў СССР, каб схаваць страшэнную колькасць ахвяр сталінскай клікі, быў яшчэ да апублікавання абвешчаны памылковым, праведзены нанова, які даў тыя вынікі, якія былі патрэбны Сталіну. Усім яшчэ на памяці, колькі разоў змяншалася лічба ахвяр СССР у час Вялікай Айчыннай вайны. Каб зняць з сябе адказнасць таталітарны рэжым прыхаваў многа многа мільёнаў загінуўшых.

Невыносныя ўмовы жыцця былі і ў месцах выгнання татар. Размяшчаліся яны ў хлявах і зямлянках, у курніках мясцовых жыхароў, на панадворках. Перад усяленнем крымскіх татар мясцовых людзей папярэдзілі, што крымскія татары здраднікі і злодзеі. На месцах перасялення крымскіх татар быў устаноўлены лагерны, ваенна-камендацкі рэжым. Людзі кожны месяц хадзілі распісвацца ў тым, што абавязваюцца не парушаць рэжым. А хто спрабаваў

Але ніводнай сям"і не вярнулі іх домауладанне у Крыме, а аб кампенсацыі матэрыяльных страт, панесеных пры гвалтоуным перасяленні кожнай сям"і не можа быць і гаворкі, хоць гэтага патрабуюць элементарныя нормы прававой дзяржавы.

Чаму у 1944 годзе, у складаных ваенных умовах, за 24 гадзіны выслалі увесь крымскататарскі народ з роднага Крыма, а сёння за доугія гады, нягледзячы на розныя дзяржауныя і міждзяржауныя пагадненні аб правах народау і чалавека, мала што робіцца для вяртання правоу крымскататарскага народа. У той жа час, стараннямі акупантау, якія жывуць у нашых дамах і на нашай зямлі прыдуманы для татар абразлівыя словы — "самозахват", "самострой" і г.д. У некаторых месцах спецыяльна праваkуюцца супроць крымскіх татар крывавыя расправы, незаконныя арышты, разгром новабудоуляу.

Імперыі рана ці позна развальваюцца, каты і тыраны паміраюць, толькі нацыі працягваюць жыць і шукаць шляхі свайго выратавання ад прыгнёту. Думаецца, што толькі шляхам чэснага, праудзівага узаемапаразумення, шчырай дружбай паміж народамі, узаемнай дапамогай і павагай, адраджэннем лепшых крымскататарскіх традыцый мы здолеем палепшыць сваё становішча, у якім апынуліся у выніку антычалавечных дзеянняу бальшавіцкага, таталітарнага рэжыму. Толькі пераадолеушы хаос у нашым духоуным жыцці, адрадзіушы узаемапавагу і прыхільнасць можна разлічваць на нармальнае жыццё і развіццё усіх народау, вялікіх і малых.

## ДУМКА БЕЛАРУСКАГА ІНТЭЛІГЕНТА ПРА ТРАГЕДЫЮ КРЫМСКІХ ТАТАР

У сувязі з набліжэннем 50-годдзя гвалтоунага высялення татар з Крыма карэспандэнт квартальніка "Байрам" звярнууся да Яугена Сяргеевіча Гучка — кнігавыдавецкага работніка, паэта і публіцыста з просьбай адказаць на некалькі пытанняу.

Кар.: Ці ведаюць на Беларусі аб тым, якая цяжкая доля напаткала крымскататарскі народ у 1944 годзе ?

Я.С.Г.: Дэпартацыя татар адбывалася у той час, калі большая частка Беларусі была пад нямецка-фашысцкай акупацыяй. Зазначыце, Беларусь, як і Крым, як і іншыя тэрыторыі з іх этнасамі, былі кінуты маскоуска-бальшавіцкімі імперыялістамі, кінуты па-шкурніцку пад ногі і гусеніцы сіл трэцяга рэйху. Пазней

выйсці за межы устаноўленыя камендантам, тут жа арыштоўваўся. Па гэтай прычыне бацькі не маглі наведваць сваіх дзяцей, дарослыя дзеці, якія пры дэпартацыі апынуліся ў іных чым бацькі месцах, не мелі права іх наведаць, нават калі яны хварэлі ці паміралі.

Пасля смерці ката Сталіна ў 1953 годзе становішча крымскіх татар павалі палепшылася, але фальсіфікацыя, ганьбаванне крымскіх татар жывуць і сёння. За год да смерці Сталіна ў 1952 годзе ў Сімферопалі была праведзена спецыяльная сесія Інстытута філасофіі і права АН СССР, якая "навукова" абгрунтавала, што "как таковой крымскотатарский народ не существовал и его сегодня нет, а просто была разношерстная шайка разбойников". Вось так проста гэта "навуковая сесія" выкрасліла з гісторыі крымскататарскую нацыю — карэннае насельніцтва Крыма. Назвы населеных пунктаў былі перайменаваны, былая Крымская АССР была ліквідавана адразу пасля вайны. Цэнзура па ўсёй краіне забараніла тады пісаць і ўжываць у афіцыйных дакументах само азначэнне — крымскі татарын. Вось чаму сёння вельмі цяжка разбурыць стэрэатып недаверу і яшчэ больш складана знайсці шлях да даверу. І цяпер людзі, якія жывуць у нашых дамах, занялі нашыя гарады і вёскі аб трагедыі крымскататарскага народа нічога не хочуць ведаць. Больш таго, калі-нікалі ў перыядычным друку, у розных выказваннях некаторых адказных асоб, дэпутатаў, мясцовых кіраўнікоў мана і паклёп у адрас крымскататарскага народа працягваецца і сёння. Карыстаючыся гэтым, экстрэмісты рознага тыпу імкнуцца распаліць міжнацыянальную варожасць.

Але нягледзячы на ўсё гэта крымскатататарскі народ працягваў барацьбу за вяртанне на сваю гістарычную радзіму — у Крым. У 70-я і 80-я гады тых, хто спрабаваў вярнуцца на радзіму, ізноў гвалтоўна высылалі, судзілі, не пускалі ў Крым, не прапісвалі. Якія толькі перашкоды не прыдумвалі ўлады для перасяленцаў ! У гэты ж час праводзілася ўзмоцненая работа па пасяленні ў Крыме рускамоўнага насельніцтва.

Сёння, калі прызнана незаконнасць дэпартацыі народаў, ніякіх мер па арганізаванаму вяртанню крымскіх татар на сваю гістарычную радзіму не праводзіцца. Крымскія татары самі, па сваёй ініцыятыве, без якой-небудзь матэрыяльнай дапамогі з боку дзяржаўных органаў вяртаюцца ў Крым. На сённяшні дзень у Крым вярнулася толькі палова крымскіх татар ( каля 260 тыс. чалавек ).

кожны чалавек, які апынуўся на акупаванай тэрыторыі, быў пад падазрэннем, нават дзеці ( а раптам яны дзеці ворага народа ?) Атрымалася так, што цывільныя людзі аказаліся вінаватымі за тое, што не абаранілі радзіму ад ворага.

У час дэпартацыі татар, а таксама пасля хадзілі пра гэта розныя чуткі, якія чарнілі крымскіх татар. Нашы беларускія татары знялі аб гэтых падзеях больш, асабліва у Заходняй Беларусі, таму некаторыя з іх, як былыя грамадзяне Польшчы, скарыстала з права выезду і пераехалі за межы СССР, каб не апынуцца пазней у Сібіры. Трэба сказаць, што калі б беларусы як народ не былі такімі шматлікімі, то іх усіх за тое, што жылі на акупаванай тэрыторыі чэкісты выслалі б у аддаленыя раёны. Хоць ім і тут устраівалися, устраіваюцца і цяпер этнічныя чысткі з боку імперскіх і праімперскіх сіл ( пераважная большасць афіцэрау у войску — не беларусы ). Чаго варты адны Курапаты ? Учарашнія каты сёння адмаўляюцца ад таго, што нарабілі...

Веды нашых людзей пра Крым вельмі мізэрныя. У падручніках па гісторыі упамінаецца пра Баспорскае царства і паустанне Саумака, у старшых класах па гісторыі ёсць урок пра Крымскую вайну і абарону Севастопаля, пра Нахімава, Карнілава, Істоміна храбрага матроса Кошку і санітарку Дар"ю Севастопальскую. Час грамадзянскай вайны адзначаны расказам аб штурме Перакопа і пераходам цераз Сіваш. У гісторыі Вялікай Айчыннай вайны расказваецца пра гераічную абарону Севастопаля.

Па геаграфіі звестак яшчэ менш. Відавочна, Міністэрства асветы лічыла, што кожны чалавек сам можа паехаць у Крым і пахадзіць па мясцінах, дзе бывау А.С.Пушкін, Максім Горкі ( дарэчы раней знакамітая "Песня пра Сокала" пазначалася, што гэта крымскататарская казка ).

Цікаўны беларускі вучань можа ведаць, што у Ялце пахаваны наш паэт Максім Багдановіч, які памёр у маладосці ад сухотау. Яшчэ многія завучылі радок-лесвічку Маякоўскага аб тым, што "жалко тех, которые не были в Евпатории".

Кар.: што можна сказаць пра жыццё тых татар, якіх вывезлі на чужыну, пазбавілі радзімы ?

Я.С.Г. : Як жылі высланыя, беларусы знялі не ад чужых людзей

Іх высылалі царскія улады у Сібір пасля падаўлення паўстання Касцюшкі ( у гэтым годзе адзначаецца на Беларусі 200-годдзе гэтага гераічнага паўстання і жудаснага яго падаўлення царскімі уладамі, а катам быў Суворау ), пасля падаўлення паўстання 1831 г. і 1863 г. — паўстання Каліноўскага. Толькі за тое, шт чалавек меў кнігу на беларускай ці польскай мове, за рукапіс на беларускай мове улады да 1905 г. маглі саслаць і ссылалі беларусаў у Сібір. Але больш за усё пацярпелі беларусы пры сталінскім рэжыме. Няма поўных звестак, колькі беларусаў НКУС вывез з радзімы у 30-я гады, колькі іх памерла у дарозе і высылцы. Ва усякім разе не менш за 200 тыс. Яшчэ адна вялікая хваля дэпартацыі была у 1940 і пачатку 1941 г., калі шмат людзей вывезлі з Заходняй Беларусі, уключанай у склад СССР па дамове 1939 г. Рыбентроп — Молатаў.

У час Вялікай Айчыннай вайны нямецка-фашысцкія акупанты забілі больш чым 2,2 млн. жыхароў Беларусі. Але пасля вайны дабравольна-прымусова выехала на лесараспрацоўкі у Карэлію і Комі, на шахты у Данбас, на асваенне цалінных і аблажных зямель, на будаўніцтва БАМа многа беларусаў. Больш за 1 млн. маладых людзей, якія маглі б жыць на радзіме, нарадзіць і выгадаваць дзяцей, засталіся на чужыне. Большасць з іх, іх дзеці згубілі сувязь з беларускай культурай.

Давяршылася наша бяда вялікай катастрофай на Чарнобыльскай АЭС, якая адбылася 8 гадоў таму па віне крымінальнай неахайнасці улад. Адшкадаванне страт наша рэспубліка ад віноўнікаў катастрофы не атрымала. Ды і сусветная грамадскасць не вельмі нам дапамагла. Наадварот, такія міжнародныя установы як МАГАТЭ у адну дудку з маскоўскімі бонзамі і нашымі мясцовымі гауляйтэрамі спрабавалі прыменшыць, схаваць бяду беларускага народа. Праўда, асобныя добразычлівыя людзі і некаторыя арганізацыі і фірмы аказваюць дапамогу пацярпелым, але большая частка гэтых сродкаў раскрадаецца посткамуністычнымі дзялкамі. Мімаволі прыходзіць думка, ці не выпрабоўвае Усявышні народ Беларусі на вытрымку, на маральнасць, ці не экзаменуе на права людзьмі не толькі звацца, але і быць імі ? Трэба зазначыць, што беларуская нацыя сёння вельмі хворая. Назва галоўнай хваробы — манкуртыя-манкуртызм. Гэта страта гістарычнай памяці, абыякавасць да уласнай годнасці і іншая мярзоціна.

Кар.: Каго б Вы маглі назваць з тых свядомых людзей, хто адважыўся выступіць у абарону крымскіх татар ?
Я.С.Г.: Перш за ўсё генерала Пятра Грыгарэнку, які свядома заступіўся за татар, ахвяраваўшы сваю кар"еру. А мог бы, як некаторыя генералы ў Афганістане, атрымаць зорку Героя, знішчаючы тых, хто недастаткова любіць савецкую ўладу. Назаву яшчэ А.Дз. Сахарава, гісторыкаў А.М.Некрыча і В.Я.Базгрына, якія шмат зрабілі для таго, каб сусветная грамадскасць, а ад яе ўжо па радыё праз глушылкі-перашкоды дасягнула гэта праўда да тых савецкіх людзей, якія хацелі пачуць праўду. Добрае слова пра крымскіх татар сказаў дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі, лідэр БНФ Зянон Пазьняк.

Але як жа добра не ведаць пра гора іншых. Цяпер нярэдка ў горадзе ў адным доме, у адным пад"ездзе могуць гуляць вяселле, калі суседзі за сцяной развітваюцца з памерлым чалавекам. Наогул, так на жаль было і раней, калі вялікія гуманісты заплюшчвалі вочы, затыкалі вушы і замыкалі сэрца. Згадайце цудоўныя вершы Пушкіна і Міцкевіча пра прыроду Крыма, нават пра рамантычныя слёзы ханскіх жонак і каханак. Але аб тым, што зусім нядаўна, напрыканцы ХУШ ст. двухгаловы арол пакарыў і далучыў Крым да Расіі, пагубіў, выгнаў у эміграцыю больш за палавіну крымскататарскага народа, простага народа, а не ханаў, іны маўчалі.

Ёсць версіі, згодна з якімі некаторым вельмі "своечасова" пры Кацярыне II удалося "знайсці" "Слова пра паход Ігаравы" як ідэалагічнае апраўданне барацьбы з "паганымі". Тут жа да месца прыйшоўся знойдзены камень, на якім былі выбіты словы пра тое, што русічы змерылі Керчанскі праліў. Ну, раз змерылі, тады ўсё, ужо законна давядзена, што Крым быў спрадвеку рускім, толькі часова захоплены злымі татарамі. Але гэта, паўтараю, толькі версіі, хоць ...

За тое, што рускія прайгралі Крымскую вайну, вінаўнікамі аказаліся ... крымскія татары. Пасля гэтага іх гвалтоўна выганялі з Крыма, напалову паменшала колькасць карэнных жыхароў — крымскіх татар. І вялікі гуманіст, удзельнік Крымскай вайны Леў Талстой неяк не заўважыў гэтай несправядлівасці. У "Хаджы Мурацеʺ ж аб мусульманах Перадкаўказзя можна знайсці асуджэнне царскіх улад за гвалт, але ўжо так далікатна, што толькі некаторыя

і змаглі гэта заувяжыць. Але талстоускага Хаджы Мурата я усё ж разглядаю як прыхаваную самапраекцыю аутара Л.М.Талстога, які у прыступе мацёрай, звышчалавечай гардыні змагаецца з царом і уласнай жонкай. І яшчэ: Жылін і Кастылін — героі "Каукаэскага палоннага" прадстаулены нам як ахвяра татар, а не як заваёунік Кауказа. Наогул руская літаратура не уздымае свой голас у абарону заваяваных і прыгнечаных Расіяй народау. Выключэннем можа служыць толькі А.Прыстаукін з яго "Начавала хмарка залатая" аб дэпартацыі чачэнцау. Выдаущы таксама не паклапаціліся. Чаму б не надрукаваць тыя творы Джэка Лондана пра заваяванне рускімі Сібіры і Аляскі, якія не перакладзены на рускую мову ?

"Усім бы добры быу Крым, калі б не татары" — так гаварылі тыя рускія патрыёты, якія пабудавалі тут сабе шыкоуныя будынкі, ці збіраліся іх пабудаваць.

Ажыццявілася іх мара ( прауда, не усе дажылі да гэтай пары ) 18 мая 1944 г., калі увесь татарскі народ быу пад канвоем вывезены на пагібель. Вопыт у дэпартацыі у савецкай улады быу вялікі — гэта вываз карэйцау з Далекага Усходу, немцау з Паволжа, кабардзінау, балкарцау, чачэнцау, карачаеуцау, лезгінау, многіх і многіх з заходніх раёнау Беларусі і Украіны, з Прыбалтыкі і Малдовы да чэрвеня 1941 года. Дарэчы, у ХУШ ст. у Расійскай імперыі існавала амаль аутаномія сербау, якія уцяклі ад туркау у Расею да большага брата. Але большаму брату не спадабалася тое, што сербы не хацелі стаць прыгоннымі рускіх памешчыкау і царскі урад хуценька ліквідавау іх аутаномнае утварэнне. А знаходзілася яно па ніжнім цячэнні Дняпра.

<u>Кар.</u>: Як, на Вашу думку, будуць развівацца падзеі у Крыме, ці вернуцца крымскія татары на сваю гістарычную радзіму ?

<u>Я.С.Г.</u>: Даунішні рускі прынцып забаранць і не пускаць, запазычылі сучасныя чыноунікі і перашкаджаюць пад рознымі зачэпкамі для татар вярнуцца дамоу. За некалькі дзесяцігоддзяу пасля дэпартацыі татар у Крым на сталае пражыванне прыехала больш за 1 млн. розных людзей, пераважна рускіх. Для іх мейсца знайшлося. Ведаеце, цяжка вырваць ахвяру у драпежніка, асабліва калі драпежнік дужы. Вельмі сумніцельна, каб Краучук сапрауды хацеу дапамагчы татарам ( усе памятаюць флірт прэзідэнта Украіны з немцамі Паволжа, а што з гэтага атрымалася ? ).

Рускаязычнікі аюць моцныя пазіцыі у Крыме, яны супроць татар. Але есць вышэйшая сіла — Бог, ці, як гавораць татары-мусульмане — Аллаг. На что ўся надзея. Але адначасова і самім не паддавацца. Успомнім вечнае: калі дзіця не можа само сабе дапамагчы, то крыкам заве ўвесь свет на дапамогу. Гэта азначае, што татары ні на хвіліну не павінны спыняць свой зварот да чалавецтва, да сусветнага грамадства аб дапамозе.

Кар.: Вялікі Вам дзякуй, Яуген Сяргеевіч за тое, што Вы знайшлі час і сілы, каб адказаць на нашыя пытанні.

## НЕЧАРГОВАЯ СЕСІЯ КУРУЛТАЯ

24 лістапада мы ўтраіх выехалі з Менска у Сімферопаль на нечарговую сесію курултая. Было зімна, маразы дасягалі 15 градусаў. Спадзяваліся, што ў Крыме будзе цяплей. Прыехалі ноччу, прыйшлося доўга чакаць на тралейбус, але быў такі мароз, такі вецер, што мы змерзлі і прыйшлося ехаць на таксі, а каштавала гэта ...

У гасцініцы не цяплілі, з кранаў цякла толькі летняя вада. Амаль усю ноч не спалася, хоць нацягнулі на сябе усё, што можна. Ранкам каб пагрэцца мы шпаркім крокам прайшліся па гарадскіх вуліцах.

Адкрыццё нечарговай сесіі курултая адбылося ў будынку Палаца прафсаюзаў 27 лістапада 1993 года. Тут таксама было зімна і каб дэлегаты не застудзіліся іх папрасілі апрануць свае п літо і курткі.

Парадак дня быў наступны:

1. Надыходзячыя выбары у Вярхоўны Савет Крыма.
2. Інстытут прэзідэнцтва у Крыме.
3. Аб неадкладных мерапрыемствах па дапамозе крымскім татарам ва уладкаванні на радзіме.
4. Рознае.

Нас з Беларусі выклікалі толькі на 27 і 28 лістапада, а таму мы не ўдзельнічалі ў разглядзе трэцяга і чацвертага пунктаў абвесткі сесіі.

Пасля абрання прэзідыума сесіі з прывітальным словам да дэлегатаў і гасцей выступіў старшыня Меджліса ( пастаянна дзейны орган курултая, які кіруе крымскімі татарамі паміж сесіямі курултая ) спадар Мустафа Джамілёў. Затым была заслу-

хана кароткая справаздача аб рабоце Меджліса за чатыры месяцы, якія прайшлі пасля апошняй сесіі курултая. Пасля гэтага разглядалася галоўнае пытанне — аб маючых адбыцца выбарах Вярхоўнага Савета Крыма.

Старшынёй прэзідыума сесіі курултая абралі спадара Р.Чубарава. Ён пазнаёміў прысутных з тым, што Вярхоўны Савет Крыма і Меджліс дамовіліся аб тым, што на сесіі курултая, як нацыянальным з"ездзе крымскататарскага народа, згодна з прынятым Вярхоўным Саветам Крыма дапаўненнем аб выбарах можна вылучыць татар-кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета Крыма. Дапаўненне да палажэння аб выбарах Вярхоўнага Савета Крыма гарантуе прадстаўніцтва ў будучым складзе парламента Крыма крымскіх татар і іншых народаў, якія былі гвалтоўна вывезены савецкімі ўладамі з іх радзімы. Для крымскіх татар вылучана 14 дэпутацкіх мандатаў. Далей ён сказаў, што Меджліс лічыць, што такое рашэнне не можа адразу забяспечыць поўнае вырашэнне усіх праблем, звязаных з аднаўленнем іх правоў. Акрамя гэтага, 14 мандатаў значна меней за той узровень, які б мог дазволіць крымскім татарам эфектыўна прадстаўляць і абараняць іх інтарэсы.

Затым дэпутаты курултая прыступілі да абмеркавання кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета Крыма. У ходзе абмеркавання гэтага пытання былі выказаны думкі, што колькасць дэпутатаў у Вярхоўным Савеце не галоўнае, галоўнае — гэта выбраць дастойных людзей, якія будуць прадстаўляць і абараняць інтарэсы крымскіх татар. Абмяркоўвалася больш за 40 кандыдатур на 14 дэпутацкіх пасад ( спіс усіх кандыдатаў быў загадзя апублікаваны у крымскататарскай прэсе ). Пасля таго, як некаторыя кандыдаты самі адмовіліся ад уключэння іх у спіс для тайнага галасавання, колькасць прэтэндэнтаў скарацілася да 29 чалавек.

Абмяркоўвалася пытанне аб тым, каб не усе самыя актыўныя татары — члены Меджліса не пакінулі сваю работу, стаўшы дэпутатамі Вярхоўнага Савета Крыма. Гэта было б не на карысць нашай агульнай справе.

У наступным нумары "Байрама" надрукуем імёны і кароткія звесткі пра крымскіх татар — дэпутатаў Вярхоўнага Савета Крыма.

# УДЗЕЛ Т. ГАРАУ-МУСУЛЬМАН У ПАЎСТАННІ 1794 ГОДА ПАД КІРАЎНІЦТВАМ Т.КАСЦЮШКІ

У сакавіку 1994 года спаўняецца 200 гадоў з пачатку паўстання у Польшчы, на Беларусі і у Літве пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі. Гэта паўстанне — трагічная старонка нашай гісторыі. Доўга і настойліва нас прызвучалі да таго, што гэта выключна польскае паўстанне. Аднак полымем касцюшкоўскага паўстання былі ахоплены не толькі этнічна польскія землі, але і значная тэрыторыя Беларусі, сучаснай Літвы і частка Латвіі.

Чым жа было гэтае паўстанне для беларускіх татар ? Якое месца яно павінна заняць у нашай гісторыі ? Паўстанне 1794 года для беларускіх ( тады іх называлі літоўскія) татар пацвердзіла накірунак выпрацоўкі уласнай нацыянальнай самасвядомасці: падтрымка і дапамога іншым народам у змаганні з тыраніяй і захопамі не выключае, а заўсёды ставіць на першае месца змаганне за лепшую долю сваей Бацькаўшчыны.

У ХУШ стагоддзі, як і у больш раннія перыяды, татарская шляхта служыла у войску як Вялікага княства Літоўскага, так і у войску Кароны ( Польшчы ). Для мусульманіна у той час гэта была практычна адзіная магчымасць зрабіць кар"еру ( усе дзяржаўныя пасады займалі хрысціяне, пераважна католікі ). Будучы прафесійнымі вайскоўцамі татары-мусульмане удзельнічалі ва усіх баявых аперацыях другой палавіны ХУШ — пачатку XIX ст., выступалі супроць акупацыі Рэчы Паспалітай, якой яны прысягалі. Падчас руска-польскай вайны 1792 года татарскае насельніцтва аднадушна заявіла аб сваей падтрымцы законнай улады. Як адзначала "Газэта народова і обца", "... народ татарскі, праз трох высланых ад яго дэпутатаў паведаміў на правінцыяльнай сесіі Вялікага княства Літоўскага, што як у Варшаве, так і у правінцыях адважныя яго салдаты, сабраўшыся да сваіх імамаў ( святароў ), прысягалі на Кур"ане бараніць Караля, Бацькаўшчыну і Канстытуцыю".

Хроніка вайны 1792 года захавала нямала эпізодаў з удзелам татарскіх атрадаў, напрыклад, аб дзеяннях ротмістра Райжэўскага каля Глыбокага. Корпус татарскай конніцы на чале з генерал-маёрам Юсуфам ( Юзафам ) Белякам па загаду галоўнакамандуючага лі-

тоускай арміі прынца Людвіка Вюртэмбергскага быу разбіты на невялікія атрады, размешчаныя уздоуж усёй граніцы. Гэта ускладняла іх дзеянні, таму Ю.Беляк пратэставау, прадчуваючы, што такія невялікія фарміраванні здольны толькі весці разведку і не змогуць супрацьстаяці колькі-небудзь значным сілам непрыяцеля. Аднак да яго не прыслухаліся. Беляк спрабавау сабраць свае атрады пад Барысавам. З паяуленнем 33-тысячнай рускай арміі генерал адышоу у бок Менска, спаліушы мост цераз раку Бярэзіну. 29 мая ён з 400 татарамі і атрадам "нарадовай" конніцы у 300 шабель дасягнуу Смалявіч. З уступленнем войск у Менск высветлілася, што камандаванне адмовілася ад думкі абараняць горад і аддало загад перамясціцца да Койданава. Татары Беляка павінны былі прыкрываць адступленне і пасля бою з рускім авангардам адышлі да Койданава. 10 чарвеня ім удалося разбіць атрад рускіх драгунау, які перапраулялся праз Неман каля Стоубцау. У выніку сутыкнення з праціунікам каля Міра конніца Беляка апынулася пад Наваградкам, затым адышла у лагер літоускіх войск у Гродна і разам з імі працягвала адступленне пасля няудалых сутычак з рускімі. У ліпені татарскія атрады прынялі удзел у бітве паблізу Брэста. Нягледзячы на тое, што яна не прынесла ім поспеху і зноу давялося адысці, татарская конніца Беляка змагалася мужна.

Становішча на фронце заставалася цяжкім, аднак вайна яшчэ не была прайграна. Агульнавядома, што войны прайграюць не салдаты, а палітыкі. 24 ліпеня 1792 г. кароль, страціушы надзею на поспех супраціулення, заявіу аб сваім далучэнні да таргавіцкай канфедэрацыі і аддау загад спыніць ваенныя дзеянні. Прыхільнікі рэформау мусілі пакінуць краіну. Канфедэраты святкавалі перамогу, але нядоуга.

Расія і Прусія падрыхтавалі новы падзел Рэчы Паспалітай. У 1793 годзе Расія атрымала большую частку Беларусі ( з Менскам, Слуцкам, Пінскам ). Многім татарам, як і астатнім тутэйшым жыхарам, належала стаць падданымі самауладнай імператрыцы Кацярыны II. На тэрыторыі Рэчы Паспалітай, дзе яшчэ захоувалася дзяржауная незалежнасць, па загаду прадстаунікоу Расіі і Прусіі належала скарачіць армію да 15 тысяч чалавек.

Аднак лідэры канстытуцыйнага лагера, апынуушыся у эміграцыі, пачалі рыхтаваць выступленне. Яго здзейснілі рэгулярныя часці арміі Кароны, якіх чакала расфарміраванне. Пасля вываду з Кракава рускіх войск 24 сакавіка 1794 года гарнізон горада прынёс прысягу Тадэвушу Касцюшку, які узначаліу паустанцау. "Акт паустання", абвеш-

чаны ім, заклікау да барацьбы за незалежнасць.

Адносіны да выступлення былі неаднолькавыя нават сярод патрыятычна настроеных людзей. Наудача паустання пагражала краіне гібеллю. Спачатку адрэагавалі на паустанне стрымана і татары. Камандзіры некаторых атрадау — палкоунік Мустафа Бараноускі ды і генерал-маёр Юсуф Беляк — не жадалі далучацца да выступлення, не бачачы шанцау на поспех ( зрэшты, такую пазіцыю займалі і іншыя афіцэры ). Калі 16 красавіка 1794 г. генерал-маёр Антон Хлявінскі прыслау эмісара у полк Мустафы Бараноускага, які размяшчауся у Ваукавыску, той не пагадзіуся уступаць у змову. Акрамя гэтага ён сцвярджау, што "лічыць неабходным прыглуміць змову усюды, дзе яна выбухне". Паводле "Вольнай газэты варшаускай": "Падначаленыя палкоуніка М.Бараноускага, бачачы гэту прыязнь яго да Масквы і неахвоту ратаваць уласную Айчыну, у сваёй большасці адыйшлі ад яго і пайшлі да паустаушых на абарону Бацькаушчыны". Неузабаве таксама і палкоунік, каб выратаваць свой гонар, пайшоу услед за сваімі салдатамі. Храбра ваюючы з рускімі, ён дачыніуся да кароткачасовага вызвалення Літвы.

Таксама і камандзір татарскіх палкоу Юсуф Беляк не адразу выказауся за падтрымку паустання. Спачатку нават не хацеу і слухаць аб падпарадкаванні загадам каменданта паустання у Варшаве генерала Станіслава Макраноускага. Да барацьбы з акупантамі прыступіу толькі у другой палавіне красавіка 1794 г. пад уплывам караля Станіслава Аугуста.

Першыя універсалы Тадэвуша Касцюшкі выклікалі разгубленасць не толькі сярод беларускіх мусульман, але і у шэрагах патрыятычна настроеных польскіх афіцэрау і салдат. Калі 16 красавіка выбухнула паустанне у Шаулях ( цяпер Шауляй на Літве ), частка размешчаных там вайсковых адзінак была настроена нерашуча. Кіраунікі выступлення звярталіся па чарзе да афіцэрау, начальнікау асобных атрадау з просьбай падтрымаць паустанне. Некаторыя тут жа далучаліся да паустання, іншыя доуга вагаліся. Згаданы генерал-маёр Антон Хлявінскі у час перамовау з паустанцамі даводзіу, што "паустанне немагчыма у гэты момант, яно можа быць для Масквы найлепшай зачэпкай для захопу рэштак Рэчы Паспалітай. Найлепш будзе пачакаць да больш спрыяльных абставін у Еуропе. А калі паустанне будзе паспяховым у Кароне, то тады будзе досыць

часу для паустання у Літве". З довадамі А.Хлявінскага не пагадзіліся многія, а палкоунік Антон Прозер сказау: "Удасца ці не, мусім паустаць, каб не было на сумленні, што не удалося у Кароне таму, што Літва не падтрымала". Пад пагрозай арышту генерал А.Хлявінскі не толькі падпісау акт паустання, але з часам стау яго горача падтрымліваць *.

У ноч з 23 на 24 красавіка паустанне выбухнула у Вільні і захопленыя знянацку многія рускія часці не маглі сабраць сілы. Частка салдат уцякла, другія здаліся у палон. Але горад абстраляла руская артылерыя і толькі пасля паведамлення аб набліжэнні польскага войска пад началам генерала Паула Грабоускага непрыяцель мусіу адысці. У час артылерыйскага абстрэлу моцна пацярпеу прыгарад Лукішкі, дзе жылі татары.

Пра удзел беларускіх мусульман у паустанні у Вільні зберагліся некалькі гістарычных пераказау. Вядома, у прыватнасці, што паручнік Аляксандр Ахматовіч удзельнічау у арышце самазванага гетмана, кіrауніка таргавіцкай адміністрацыі у Літве Шымона Касакоускага. Сярод камандзірау, якія першымі падтрымалі паустанне на Літве, быу палкоунік Якуб Азулевіч. Ён камандавау з 1781 года палком татарскай конніцы, якая уваходзіла у склад Авангарднай аховы войска Вялікага княства Літоускага. Гэты вопытны афіцэр, які паходзіу са старадауняй татарскай сям"і, заслужанай у Рэчы Паспалітай, быу дауно звязаны з рухам, які змагауся за незалежнасць. Сведчыць пра гэта давер, якім ён карыстауся у паустанцау на Літве. Калі 9 мая 1794 года шляхта Гродзенскага павета, сабраная у Саколцы, абвясціла аб далучэнні да паустання, Найвышэйшая народная літоуская рада накіравала туды для аховы сходу Я.Азулевіча. Праз некалькі дзён Гродзенская ахоуная камісія абвясціла адозву да мусульманскага насельніцтва Падляшша рыхтавацца да абароны Айчыны. 22 мая 1794 г. камісія загадала афіцэрам Авангарднага палка завербаваць на працягу месяца некалькі дзесяткау сваіх землякоу у армію паустанцау. У вярбоуцы добраахвотнікау удзельнічау полк Я.Азулевіча. Спачатку гэты полк дзейнічау у наваколлях Гродна і Брэста, а у ліпені 1794 г. ён уліуся у корпус Мацея Франкоускага, які быу пасланы на дапамогу акружанай рускімі войскамі Вільні.

Пры абароне горада Якуб Азулевіч загіну. Цела яго было перавезена у родную вёску Студзянку і пахавана на мясцовым мізары пры мячэці ( дарэчы, яшчэ да 1940 г. адна з вуліц у Вільні насіла яго імя ).

Не менш драматычны быў лёс 4-га палка Авангарднай аховы войска Вялікага княства Літоўскага. Гэтае злучэнне, якое амаль цалкам складалася з мусульман, узначальваў з 1764 года Юсуф Беляк. Напачатку мая 1794 года Беляк быў пастаўлены на чале брыгады, якая складалася з некалькіх палкоў лёгкай конніцы. У сярэдзіне месяца брыгада была уліта ў корпус князя Францішка Сапегі. Малады камандуючы не меў ваеннага вопыту і хутка быў адхілены ад пасады. Корпус узначаліў Беляк, але яму не надарылася на гэты раз праявіць свой талент палкаводца: неўзабаве стары генерал памёр. xx

Амаль усё жыццё г. .лага афіцэра конніцы, першага сярод мусульман генерала Рэчы Паспалітай, вопытнага камандзіра было праведзена ў баях і паходах. Храбры воін, ён шанаваўся сучаснікамі як чалавек вытрыманы і дабрадушны. Кароль Станіслаў Аўгуст, ацэньваючы яго баявыя якасці і лаяльнасць, меў звычай называць яго "добры Беляк".

Пасля смерці Беляка камандаванне палком прыняў Мустафа Ахматовіч. Менавіта пад яго началам гэта вайсковая часць прыняла ўдзел у дзвюх важных і разам з тым трагічных бітвах паўстання Т.Касцюшкі. 17 верасня 1794 г. татары-мусульмане палкоўніка М.Ахматовіча заслanілі левае крыло корпуса Караля Сераkоўскага, які адступаў пад націскам шматтысячнага войска А.Суворава з-пад Крупчыц, што на Палессі. Вялікую адвагу мусульман ахарактарызаваў у сваім рапарце генерал Сераkоўскі наступным чынам: "Наступаючая з левага фланга на польскую пяхоту непрыяцельская конніца была адважна атакавана палкоўнікам М.Ахматовічам, які узначаліў атаку і прымусіў праціўніка адступіць".

А праз няпоўны месяц 10 кастрычніка 1794 г. Мустафа Ахматовіч браў удзел у бітве пад Мацяёўцамі. У гэтай бітве полк панёс вялікія страты, а яго камандзір, цяжка паранены, неўзабаве памёр. Ён быў перавезены салдатамі ў Лоўчыцы ( каля Навагрудка ) і пахаваны на мясцовых мусульманскіх могілках ( мізары ). Рэшткі 4-га палка Авангарднай аховы войска Вялікага княства Літоўскага дасягнулі Варшавы, каб бараніць сталіцу Рэчы Паспалітай ад войск Суворава.

Тым часам на Беларусі і ў Жамойці дзейнічалі і іншыя татарскія або мяшаныя часці, у тым ліку і 1-ы полк Авангарднай аховы, неўзабаве сфарміраваны мусульманінам Аляксандрам Уланам.

У складзе корпуса палкоўніка Стэфана Грабоўскага яны удзельнічалі ў экспедыцыі на беларускія землі, захопленыя Расіяй у выніку другога падзелу Рэчы Паспалітай. Пад Менскам не здолелі разбіць сілы непрыяцеля, але нечаканай атакай занялі Бабруйск і нават прымусілі капітуляваць тамтэйшы рускі гарнізон. Аднак у рэшце рэшт корпус Грабоўскага мусіў скласці зброю пад мястэчкам Любань на Арэсе ( верасень 1794 г. ), а ў рускім палоне апынулася больш за тысячу салдат і афіцэраў, у тым ліку і татар. Умовы, на якіх паўстанцы згадзіліся капітуляваць, неўзабаве былі рускімі парушаны. Салдат уключылі ў расійскія часці, а афіцэраў кінулі ў вязніцы.

Пасля серыі паражэнняў, разбітыя і расцярушаныя татарскія падраздзяленні сталі прабівацца да Варшавы. 11 верасня 1794 г. першым з"явіўся ў сталіцы эскадрон ротмістра мусульманіна Талькоўскага з палка Я.Азулевіча. Неўзабаве рэшткі палка прывёў палпаручнік Эліяш Сабалеўскі. Амаль у гэтым жа часе з"явіўся ў Варшаве ў няпоўным складзе мусульманскі полк Мустафы Ахматовіча і полк Людвіка Лісоўскага. Паводле звестак П.Бараўскага, атрады мусульман налічвалі 318 вершнікаў. 193 татарскія коннікі засталіся пад камандаваннем генерала Зайончыка.

Татарскія палкі стаялі на ўсходнім беразе Віслы, у варшаўскім прадмесці Прага пад началам генерала Якуба Ясінскага. У лістападзе 1794 года рускія войскі пад камандаваннем А.Суворава ўзялі Прагу штурмам, які завяршыўся крывавай разнёй. Вось як апісвае тыя падзеі выдатны знаўца гэтае праблемы польскі гісторык Генрык Масьціцкі: "Раз"юшаныя салдаты, натрэніраваныя ў марадзёрствах у Ізмаіле ( 1790 г. ), устроілі крывавую разню. Не шкадавалі нікога. У маціярок адбіралі ад грудзей немаўлят, каб не выраслі і не адпомсцілі. Манашак, што былі ў кляштары бернардзінак, згвалцілі і зарэзалі. 19 бернардзінцаў і 7 старых калек, якія жылі пры манастыры, панеслі пакутніцкую смерць. З дамоў выцягвалі няшчасных кабет для п"янай уцехі, гвалцілі і забівалі. Неўзабаве плошчы былі засцелены трупамі, без адзення, у адной жудаснай масе... Разам з людскімі целамі былі награмаджаны кучы бязладна раскіданых рэчаў, трупы коней, сабак, катоў, бо раз"юшаныя відам крыві рускія салдаты не выпускалі жывымі нават

жывёл. Падпаленая ядрамі і казацкімі паходнямі Прага стаяла у полымі ї дыме, дахі развальваліся з трэскам. Усё гэта суправаджалася праразлівымі крыкамі пераможцау".[xx]

Салдаты з татарскіх палкоу Авангарднай аховы падзялілі лёс іншых абаронцау Прагі. Страты абаронцау былі велізарныя. Невядомы мусульманін, якому пашанцавала застацца жывым, запісау на палях свайго Хамаіла ( малітоуніка ), што "на шанцах Прагі загінула шмат мусульман, адных толькі афіцэрау некалькі дзесяткау".

Праз год, калі рускія улады правялі перапіс насельніцтва на захопленых землях, у многіх татарскіх ваколіцах Віленскага і Трокскага ваяводствау часта траплялiся запісы імёнау ужо з прыпіскай: "А муж яе пад Прагай загінуу". Побач значыліся ветэраны, якія служылі у войску літоускім або каронным — хто 5, хто 10, а хто і болей гадоу, — з паметай: "Служыу да Прагі", г.зн. да самага канца, да апошніх мінут паустання, да той пары, пакуль існавала яшчэ дзяржава "абодвух народау".

Але не усе татарскія воіны загінулі, некаторым пашчасціла выратавацца ад расійскай няволі. Так, група падначаленых Эліяша Сабалеускага выратавалася і зберагла нават харугву свайго палка. Гэта харугва некаторы час вісела у мячэці у Студзянцы, роднай вёсцы Якуба Азулевіча ( загінула у пач. першай сусветнай вайны ). Частка салдат татарскіх палкоу эмігравала у Турцыю. У 1796 годзе, паводле звестак П.Бараускага, у Філіпоуцах, у турэцкай Валахіі, сярод польскіх эмігрантоу знаходзілася значная група беларускіх мусульман. Тут былі падпалкоунік С.Карыцкі, ротмістры Самуэль Сабалеускі, Якуб Бараноускі, Аляксандр Мелех, амаль 20 паручнікау, падпаручнікау і харунжых, некалькі дзесяткау салдат з дауніх палкоу Авангарднай аховы.

Мусульманскія эмігранты найчасцей ішлі на службу у султанскую армію або станавіліся асаднікамі на тэрыторыі Валахіі і Дабруджы. Многія з іх былі звязаны з польскай эміграцыяй, вялі работу на карысць сваёй Радзімы як эмісары, кур"еры, альбо ваюючы са зброяй у руках з акупантамі на Каукасе, у Італіі і Францыі. Адзін з такіх эмісарау М.Ахматовіч у 20-х гадах XIX ст. аб"язджау польскія двары на Украіне і заклікау да паустання супроць захопнікау. Падчас нелегальных сходак змоушчыкау ён часта з напеуным беларускім акцэнтам усхваляванна казау: "У сталіцы Зыгмунта тлее агонь падземны, кіпіць лава і неузабаве яна

разальецца па усіх польскіх і літоускіх землях. Так хоча Аллаг, інакш быць не можа. Паустань, люд Божы". xxxx

Мужнасць беларускіх татарау-мусульман і пралітвя кроу у абароне Рэчы Паспалітай спрычыніліся да таго, што польска-літоускае грамадства прызнала іх за сваіх, за паунапрауных і паунавартасных грамадзян ( паводле Канстытуцыі 3 Мая 1791 г. ). Ян Дуклян Ахоцкі у сваіх мемуарах, успамінаючы пра розныя этнічныя роды Оуруцкай зямлі, так пісау пра беларускіх мусульман: "... ёсць татары перакопскія, кыпчакі, што былі на службе Рэчы Паспалітай, некаторыя засталіся у Оуруцкай зямлі, прынялі хрысціянскую веру, а большасць у Літве трымаецца пры сваёй дауняй веры, маюць мячэці і святароу ( муллау ). З такой вось сям"і і бын той слауны генерал Беляк xxxxx і нямала вышэйшых афіцэрау: Ахматовіч, Азулевіч і г.д., каторыя да скону верна служылі для абранай Радзімы... Трэба аддаць належнае ус'м сем"ям без выключэння ..., натуралізаваная у краіне новая шляхта палюбіла новую Айчыну і верна ёй служыла".

x *Piotr Borawski. Tatarzy w dawnej Rzeczypospolitej. Warszawa, 1986, s. 235–237.*

xx А. Энгель. Описание дел, хранящихся в архиве Виленского генерал-губернаторства. Т.І, ч.І. Вильна, 1868, С.927 — 929, Т.2, ч.І, С.53, 54, 103.

xxx *H. Mościcki. Dzieje porozbiorowe Litwy i Rusi. Wilno, 1911, s. 193–194.*

xxxx *Piotr Borawski.* Указ. твор, С. 245 — 246.

xxxxx Стэфан ( Мустафа ) Беляк у маладосці меу, відаць, іншае прозвішча. Гэтае прозвішча пайшло ад караля Аугуста ІІІ. Беляк быу вельмі смуглы. Кароль сказау: "Які ж ты у мяне беленькі". Гэта мянушка і замацавалася за храбрым воінам: чорненькі стау беленькім ( па-польску беляк ).

# ГІСТОРЫЯ ДЗЯРЖАВЫ ІДЭЛЬ-УРАЛ

## Ідэль-Урал пад рускім ігам

### Першы раздзел — Змаганне за самастойнасць
### (працяг)

"Новокрещенская контора", якая мела узброеныя атрады, чыніла вялікі гвалт над мусульманамі, такі як выяленне з вёсак, дзе было хоць бы некалькі ахрысціўшыхся ( пад выдуманай прычынай аховы новаахрышчаных ад уплыву мусульман ці язычнікаў), перакладванне падаткаў ахрышчаных на неахрышчаных, адбіранне дзяцей у мусульман "для воспитания их в духе православия " ( Цит. Воробьева. Материальная культура казанских татар. С.32 ). Дастаткова указаць, што, згодна з пастановай гэтай "Новокрещенской конторы" у 1742 годзе толькі ў адным Казанскім павеце з 546 мячэцяў было разбурана 418. Мусульманскае святарства стала бяспраўным элементам краіны.

Становішча гандлёва-прамысловых слаёў цюрка-татар таксама было вельмі цяжкае. Існавалі законы, згодна якім гандаль маглі весці толькі прыпісаныя да купецкага саслоўя. Але прыпісацца да гэтага саслоўя было вельмі цяжка. Напрыклад, вядома, што толькі ў адной Казані ў 1762 г., пад выглядам непрыналежнасці ўласнікаў да купецкага саслоўя, зачынены былі 24 цюрка-татарскія крамы ў адным толькі Гасціным двары; акрамя гэтага гандляваць харчовымі прадуктамі, старым адзеннем і наогул "таварамі татарскімі" цюрка-татарам было сурова забаронена ( Габайдуллин. Материалы по истории Татарстана. С. 95 ).

У галіне прамысловасці наогул і металаапрацоўчай, у прыватнасці, справы былі яшчэ горшымі. Цюрка-татарам былі забаронены кавальскія і слясарныя работы ( як, напрыклад, выраб нажоў, шабляў, кінжалаў і нават падкоў і цвікоў ).

Цюрка-татары востра адчувалі неймавернае ўніжэнне і прыгнёт Масквы ва ўсіх галінах жыцця і цяжар ненавіснага ім іга. Усё гэта стварала псіхалагічную глебу для новага паўстання. Трэба зазначыць пры гэтым, што "Новокрещенская контора" была адкрыта спецыяльна для хрысціянізацыі цюрка-татар, бо "татары в обычаях весьма замерзелые и к святому крещению не идут". Гэта кантора дала адчуць сябе і фіна-вугорскаму і чувашскаму насельніцтву былога Казанскага

ханства, якое у эпоху самастойнасці края было паунапраўным і карысталася поўнай свабодай рэлігіі і культуры. Пасля ж акупацыі края рускімі, асабліва у ХУШ стагоддзі, фіна-вугорскае і чувашскае насельніцтва, як "инородцы", падзяліла лёс цюрка-татар. Такія абставіны паслужылі асновай яшчэ большага збліжэння "инородческого населения" былога ханства. Калі у часы самастойнасці Казанскага ханства фіны і цюрка-татары паступова і механічна пераймалі адзін ад другога шэраг культурных уласцівасцей, то у часы расійскага прыгнёту і гвалтоўнай хрысціянізацыі фіна-вугорскае насельніцтва свядома пачало пераймаць норавы і звычаі цюрка-татар у імя апазіцыі рускім. Так, напрыклад, марыйцы ва Уфімскай губерні, застаючыся язычнікамі, прынялі мову і вопратку цюрка-татар. Такіх прыкладаў можна прывесці вельмі многа ( мардва-каратаі, удмурты і інш.), чувашы ж пераняли не толькі норавы і звычаі цюрка-татар, але у многіх выпадках пераходзілі нават у магаметанства. Такім чынам, замест гвалтоўна адабраных адзінаверцаў і крэўных ( "крашэнаў" ), цюрка-татары прыдбалі новых сяброў. Гэта падтрымлівала іх у барацьбе з рускімі. А таму, калі пачалося Пугачоўскае паўстанне, цюрка-татары уступілі з Пугачовым у перамовы з мэтай выкарыстаць паўстанне для аднаўлення страчанай самастойнасці. Пугачоў у прынцыпе згадзіўся прызнаць самастойнасць Казанскага ханства, таму усе нярускія края, на чале з цюрка-татарамі, у красавіку 1774 года далучыліся да Пугачова і агульнымі сіламі узялі Казань. Назіраючы з высокага месца рух пугачоўцаў ( пад Казанню ) купецкі сын Сухарукаў, паводле гісторыка Фукса, добра мог бачыць, што "войска Пугачова у большасці складалася з татараў, башкіраў, чувашаў і казакаў" ( Габайдуллин. Из прошлого татар. С.96 ). З гэтай прычыны у бітвах з урадавымі войскамі цюрка-татары неслі вялікія страты як забітымі, так і параненымі. Пры узяцці урадавымі войскамі Казані было знойдзена больш за дзве тысячы забітых цюрка-татар. Памяць пра Салавата Юлаева да гэтай пары жыве у памяці народа.

Хоць цюрка-татары панеслі вялікія страты, але усё ж паўстанне не засталося без вынікаў. Кацярына П, хоць і засталася у прынцыпе вернай палітыцы Пятра I, усё ж вымушана была змякчыць свае адносіны да татар. Яна сама прыехала у Казань, асабіста дала дазвол на пабудову першай мячэці, бо усе мячэці былі разбу-

раны па загаду ўрада. Гэта мячэць, упершыню пабудаваная пасля пакарэння Казанскага ханства, па злой іроніі лёсу, савецкай уладай была раней за усе іншыя ператворана ў клуб. Кацярына II таксама скасавала закон, які забараняў жыць цюрка-татарам бліжэй 30 верст ад Казані ( хоць да гэтага часу усё наваколле Казані ужо было заселена рускімі ).

Указам 1784 г. яна аднавіла ў правах мурз, хоць і не вярнула ім канфіскаваных зямель і адабраных прыгонных сялян, і дала шырокія правы цюрка-татарскім купцам, якія вялі гандаль з Туркестанам, Кітаем і Персіяй. Трэба адзначыць, што з прычыны былых забарон і перашкод у галіне гандлю і прамысловасці ў межах Расійскай імперыі, цюрка-татары вымушаны былі займацца гандлем, большай часткай, у Туркестане, Кітаі і іншых усходніх краінах. Кацярына II дазволіла цюрка-татарам займацца і прамысловасцю. Указам ад 1788 года афіцыйна было прызнана права існавання мусульманскай веры і мусульманскаму святарству цюрка-татар было дазволена стварыць асобную установу, якая была названа "Мусульманскім Духоўным Сабраннем". Такім чынам, бяспраўнае мусульманскае духавенства атрымала правы.

Цюрка-татары скарысталі гэтыя рэформы. Купцы з вялікай энергіяй заняліся сваёй справай, пашыраючы гандлёвыя здзелкі. Не менш энергічнымі былі і прамыслоўцы, якія прыняліся будаваць шматлікія заводы і фабрыкі.

З прычыны рэпрэсіўных загадаў расійскага ўрада гарадское і прыгараднае насельніцтва цюрка-татараў вымушана было перасяліцца ў глыб краіны, дзе пачыналі стварацца новыя цэнтры накшталт Атні, Алат, Цюняр, Мачкала і інш. Пры гэтым прамысловыя цэнтры ствараліся ў самай гушчыні пасялення цюрка-татар, а таму, калі ўмовы палепшыліся ( законы Кацярыны II ), то Казанская губерня пакрылася сеткай ткацкіх, гарбарных і мылаварных фабрык. Ды і сама Казань, як гандлёва-прамысоовы цэнтр, расла надзвычай хутка. У вытворчасці паркалю ( кумач ), паводле сведчання гісторыка Фукса, Казань мела вялікія дасягненні, выпускаючы у год 609,8 тыс. аршынаў ( каля 490 тыс. м ), што складала 75,2 % усерасійскай вытворчасці. Зразумела, што такі хуткі прагрэс цюрка-татар у гандлёва-прамысловай вобласці не мог застацца не заўважаным і канкурэнтамі рускімі. Сапраўды, "многія старонкі пратаколаў

Кацярынінскай Заканадаўчай Камісіі поўныя матэрыялаў барацьбы рускага купецтва з ясачнымі і служылымі татарамі, якія перайшлі ў гандлёвую дзейнасць" ( Губайдуллин. "Из прошлого татар", С.94) Напрыклад, адзін з купцоў у сваей скарзе піша: "У розных месцах многія татары і іншыя інаверцы заснавалі ў вёсках гарбарныя, мылаварныя і тлушчавыя заводы, а некаторыя з іх баваўняныя і палатняныя фабрыкі, вырабы якіх яны афарбоўваюць і ў кітайку" ( Сб.русск. ист. общ. Т.УШ, С.290 ).

Такім чынам, да апошняй чвэрці ХУШ стагоддзя край не можа супакоіцца. Прычына гэтага ў тым, што "тут сустрэліся дзве самастойныя культуры, якія знаходзяцца ў антаганізме. Таму рускі урад акрамя эканамічнага прыгнёту ў адносінах да пераможаных пачынае наступ культурны, імкнучыся зрусіфікаваць насельніцтва шляхам пераводу яго ў хрысціянства. У сувязі з гэтым барацьба цягнулася доўга, і гісторыя татарскага нар( )а пад рускім панаваннем з'яўляецца гісторыяй барацьбы не толькі за эканамічны дабрабыт, але і за культурную самастойнасць, у якой народ бачыў заруку зберажэння сваей нацыянальнасці. Гэта барацьба з боку татар не была толькі пасіўным супрацiўленнем. Татарская буржуазія увесь час умацоўвала асновы нацыянальнай "усходняй" культуры, усімі сіламі імкнучыся давесці да свядомасці шырокіх мас насельніцтва і дзе магчыма нават наступаючы і адваёўваючы ў рускіх місіянераў тую частку татарскага насельніцтва, якая была ўжо пераўтворана ў крашэн ( у хрысціян ). Згадаем масавы адыход крашэн ад хрысціянства ў XIX і XX стагоддзях, аб якіх ёсць значныя матэрыялы ў місіянерскай літаратуры" ( Воробьев. Материальная культура казанских татар. С.31 ).

Гісторыя цюрка-татар у XIX стагоддзі адкрываецца новым відам дзейнасці, звязаным з ідэйнымі імкненнямі. Гэта — кнігадрукаванне. У 1799 годзе цюрка-татары звярнуліся да ўрада з просьбай дазволіць ім друкаваць рэлігійныя і малітоўныя кнігі. На падставе гэтай просьбы урадам быў абвешчаны указ аб пераводзе ў Казань Усходняй тыпаграфіі, якая да гэтага знаходзілася ў Санкт-Пецярбургу. Тыпаграфія гэта падпарадкоўвалася Казанскай гімназіі, абавязкам якой быў цэнзарскі нагляд. Кнігі друкаваліся ў вельмі абмежаванай колькасці, а таму каштавалі вельмі дорага. Напрыклад, Кур"ан прадаваўся па 25 рублёў.

Спачатку друкаваліся выключна рэлігійныя кнігі, але пазней

пачалі друкаваць і творы старадаўніх аўтараў, фантастычныя казкі і рыцарскія раманы. Усё гэта мела вялікае значэнне ў развіцці духоўнай культуры народа. У 1811 годзе была ?ват надрукавана інструкцыя па прышчэпліванню воспы, а ў 1857 г. выданы першы каляндар, які ў далейшым стаў друкавацца кожны год. У саракавых гадах XIX стагоддзя ў руках цюрка-татар было некалькі тыпа-літаграфій, а таму нічога дзіўнага, што на працягу дзесяцігоддзя ( 1855 — 1864 ) было выдана больш за I млн. паасобнікаў кніг. Такі хуткі рост выдавецкай прадукцыі выклікаў нападкі з боку рускага друку. Так, напрыклад, у 1867 годзе у "Московских ведомостях" паявіўся артыкул, у якім аўтар піша, што ці можна было думаць, што тры стагоддзі таму разбітая "варварская" дзяржава зноў адродзіцца. "Православный собеседник" таксама далучыўся да гэтага ( гл. выданне за 1868 г., С.318 ).

Трэба адзначыць і тое, што ў руках цюрка-татар у 1812 г. у Вяцкай губерні былі дзве папяровыя фабрыкі, а ў Казанскай губерні ( у 1814 г. ) была пабудавана яшчэ адна папяровая фабрыка.

З атрыманнем некаторай рэлігійнай свабоды ў гады царавання Кацярыны II ва ўсіх цюрка-татарскіх вёсках за ўласныя сродкі будуюцца мячэці, а пры іх медрэсе ( вучылішчы ). У вялікіх гарадах, такіх як Казань, Уфа, Арэнбург і інш., а таксама ў прамысловых цэнтрах, як Цюнцяр, Мачкара, Атня і інш. былі пабудаваны вышэйшыя навучальныя установы для падрыхтоўкі муллаў, муэдзінаў ( мязімаў ) і настаўнікаў. Праўда, у гэтых багаслоўскіх школах панавала схаластыка з логікай Арыстоцеля ў арабскім перакладзе, але яны усё ж рабілі сваю справу, выпускаючы муллаў і настаўнікаў. У 1844 г. толькі ў Казані было ўжо 4 медрэсе. Колькасць школ павялічылася ў вёсках, так што ў 1860 г. на 442 тыс. цюрка-татар было 408 мектэбаў ( школ ). Колькасць школ ва ўсёй Расіі у месцях, падпарадкаваных Мусульманскаму Духоўнаму Сабранню, было 1859. Але таму што ў гэтых мектэбах вучыліся толькі хлопчыкі, то да гэтага ліку трэба дадаць і тых дзяўчынак, якія вучыліся у жонак муллаў. Усё гэта сведчыць аб тым, што пісьменнасць была высокая ( афіцыйная руская статыстыка пісьменнымі лічыла толькі тых, хто чытаў і пісаў па-руску — заўвага рэд. ). І таму немец-падарожнік барон Гакстаўзен мог сказаць пра цюрка-татар, што "татары валодаюць вялікімі разумовымі здольнасцямі, але іслам

дапускае іх развіццё толькі да пэўнай ступені, у іх многа школ, яны амаль усе ўмеюць чытаць і пісаць, у іх ёсць некаторая літаратура, якую яны руплiва вывучаюць, ды каб гэты багата надзелены здольнасцямі народ прыняў хрысціянства, то ён не толькі стаў бы адным з першых цывілізаваных народаў, але пашырыў бы хрысціянства і цывілізацыю па ўсёй Азіі" ( Приволжские города в Казанской губернии. Издат. Каз.-стат. комитета. 1892 г. )

Духоўная культура цюрка-татар, нават пры цяжкіх палітычных абставінах, за вельмі кароткі час дасягнула вялікіх поспехаў і цюрка-татарскія вучоныя багасловы-рэфарматары, як Абдул-Насыр Курсаві, Шыгабетдзін Марджані і інш. праславіліся на ўвесь мусульманскі свет. Цюрка-татарская моладзь атрымлівала таксама адукацыю ў Туркестанскіх медрэсе.

Кацярынінскай ільготай у галіне замежнага гандлю цюрка-татарскія купцы карысталіся з вялікай выгадай для сябе. "У архівах ратушы ( гор. Казані ) ёсць даволі многа дакументаў, якія сведчаць, што купцы вазілі саф"янавыя скуры, выробленыя ў гарбарнях Казані, у Азію і абменьвалі на кітайскія тавары. Напрыклад, татарскі купец першай гільдыі Кітаеў у 1814 г. прывёз у Кяхту на абмен саф"янавых скур на суму больш за 80 тыс. рублёў, што было не малой сумай у той час, калі у Казані ў 1800 годзе карова каштавала 3 рублі" ( Губайдуллин. Из прошлого татар ). "Некоторые татарскія купцы ў самым Чугучаку бралі па тысячы скрынак чаю і прадавалі казанскім купцам" ( Лаптев. Казанская губерния в 1858 году ). Такім чынам, мы бачым, што і нацыянальны капітал таксама рос даволі інтэнсіўна. Зазначым і тое, што ў выніку аслаблення рэпрэсій з боку ўрада, у першай палавіне XIX ст. не было і якіх-небудзь паўстанняў цюрка-татар. Першая палавіна XIX стагоддзя прайшла спакойна, у мірнай працы.

# НАШ ДАРАГІ БРАНІСЛАЎ СІЛЬВЕСТРАВІЧ СМОЛЬСКІ

Першы сярод беларускіх татар вучоны-музыказнавец, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Б.С.Смольскі унёс значны уклад не толькі ў беларускую, але і ў сусветную культуру. Ён адзін з тых, хто сваей працай на карысць мастацтва уславіў і свой нявялікі на Беларусі народ, аб кроўнай еднасці з якім ніколі не забываў..

Б.С.Смольскі нарадзіўся 85 гадоў таму — І красавіка 1909 года ў цяперашняй сталіцы Беларусі — горадзе Менск, у паважанай татарскай сям"і, карані якой паходзяць з не менш слаўнай, хоць і былой сталіцы — старажытнага Наваградка. Бацька Б.С.Смольскага — Салех нарадзіўся недалёка ад Наваградка, а маці разам з бацькамі жыла ў Наваградку, яе звалі Франя. Пасля шлюбу будучыя бацькі Б.С.Смольскага пераехалі ў Ашмяны, а затым у Менск, дзе жылі ў Татарскай слабадзе ( на татарскіх агародах ). Бацька вельмі любіў музыку, спяваў беларускія, рускія і украінскія песні, марыў аб тым, каб яго дзеці сталі музыкантамі.

У пошуках заробку бацька, як і многія жыхары Беларусі ( у тым ліку і татары ), паехаў у Амерыку. Праз некаторы час туды пераехала і жонка з чатырма дзецьмі. Старэйшай дзяўчынцы тады было 10 гадоў, , а Браніславу — 5 гадоў. У памяці Браніслава Сільвестравіча захоўваецца воблік і быт Менска тых часоў, як у дзяцінстве з маці хадзіў у мячэць на Вялікай Татарскай вуліцы памятае і смак булачак, якія там дзялілі на садагу. Добра памятае і свайго настаўніка — дзядзьку Міхаіла Смольскага, які вучыў яго ужо падлетка праз дзесяць гадоў пасля вяртання на радзіму са Злучаных штатаў. Б.С.Смольскі валодае чысцюткай, не пакалечанай сталінскімі рэформамі беларускай мовай, рускай і англельскай мовамі.

У 1924 годзе у Менску адкрыўся Беларускі музычны тэхнікум і Браніслаў стаў адным з першых яго студэнтаў. Для таго, каб паступіць на вучобу, трэба было вытрымаць экзамен у такіх вядомых спецыялістаў як кампазітара-этнографа Я.Прохарава.( вучня Рымскага-Корсакава), В.Сямашкі ( вучаніцы прафесара Б.І.Сафонава), А.Бяссмертнага ( выпускніка Пецярбургскай кансерваторыі ) і інш.

У ліку першых студэнтаў тэхнікума былі будучыя народная артыстка СССР Ларыса Александроўская, будучы кампазітар І.Любан, будучы дырыжор П.Кавалёў, будучы прафесар кансерваторыі М.Бергер.

З вялікай павагай Б.С.Смольскі называе сваіх настаўнікаў — М.І.Аладава і Ю.М.Дрэйзіна. У 1927 годзе знакаміты філолаг, гісторык, музыказнаўца, перакладчык са старажытнагрэчаскай мовы Ю.М.Дрэйзін параіў Б.С.Смольскаму перайсці з класа скрыпкі на тэарэтычнае аддзяленне.

У 1930 — 1931 гадах Браніслаў Сільвестравіч працаваў музычным рэдактарам на беларускім радыё. У 1931 годзе пачалася вучоба ў Маскоўскай кансерваторыі, якую ён скончыў разам з такімі знакамітымі дзеячамі музычнага мастацтва, як Ігар Бэлза, Юрый Келдыш, Ізраіль Несцьеў. Сябрамі па кансерваторыі былі яркія музычныя дараванні — Якаў Фліер, Марыя Грінберг, Якаў Зак, Ціхан Хрэннікаў, Барыс Макравусаў, Мар"ян Каваль.

Пасля кансерваторыі Б.С.Смольскі завочна вучыўся і скончыў Дзяржаўны інстытут тэатральнага мастацтва імя Луначарскага ( тэатральны факультэт ).

З вяртаннем у Менск пачалася педагагічная дзейнасць у Беларускай кансерваторыі і ў Музычным тэхнікуме ( пазней сталі называць вучылішчам ).

У гады Вялікай Айчыннай вайны Б.С.Смольскі быў у эвакуацыі ў Ташкенце. Там ён зноў блізка сутыкнуўся з жыццём татарскай сям"і і пад дахам сваей хаты яго прытуліў узбекскі татарын, называў Браніслава Сільвестравіча "мой брат", кожны дзень частаваў садавінай са сваіх дрэў.

Затым Браніслаў Сільвестравіч жыў у Маскве, а пасля, у першыя дні вызвалення Менска ад нямецка-фашысцкіх акупантаў, паехаў на радзіму. Тут ён быў прызначаны начальнікам аддзела навучальных устаноў Міністэрства культуры БССР. Яго праца на гэтай ніве пакінула добры след і стала прыкладам кампетэнтнага і добразычлівага кураратарства вельмі далікатнай справы — адносін з творчай інтэлігенцыяй. Браніслаў Сільвестравіч напісаў многа запрашэнняў на вучобу і працу ў Беларускую кансерваторыю і музычныя вучылішчы тым, хто ў час вайны аказаўся ў розных кутках СССР. Ён клапаціўся пра збор адпаведных музычных інструментаў.

Каля 30 гадоў жыцця аддаў Браніслаў Сільвестравіч працы ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Займаўся музычна-асветніцкай дзейнасцю, выступаў як музычны крытык, рэцэнзент, лектар, аўтар цікавых радыёперадач. Яго таленавітых артыкулаў хапіла б на тамы. Сярод найбольш значных навуковых прац кніга "Беларускі музычны тэатр", якая была выдадзена ў Менску ў 1963 годзе. Гэта ўнікальная праца. У ёй упершыню была навукова даследавана музычна-тэатральная культура беларускага народа ад вытокаў да цяперашняга часу. Ім напісана некалькі дзесяткаў артыкулаў пра беларускіх оперных спевакоў. Для фундаментальнай 5-томнай працы — энцыклапедыі "Гісторыі музыкі народаў СССР", якая была завершана ў 1974 годзе і набыла сусветную вядомасць, Б.С.Смольскі напісаў важкія артыкулы. Яго артыкулы упрыгожваюць таксама многія энцыклапедычныя выданні.

Строгія, але заўсёды добразычлівыя водгукі Браніслава Сільвестравіча з вялікім хваляваннем чакалі як славутыя артысты, так і пачаткоўцы. Ён быў першым сведкам і слухачом многіх рамансаў Рыгора Пукста, 4-й сімфоніі Яўгена Цікоцкага, оперы "Кастусь Каліноўскі" Дзмітрыя Лукаса, 24-й прэлюдыі Пятра Падкавырава, шматлікіх песень, у тым ліку Уладзіміра Алоўнікава "Радзіма мая дарагая", з якім Смольскія пражылі ў адной камунальнай кватэры 9 гадоў.

З вялікім задавальненнем трэба адзначыць, што і сёння Браніслаў Сільвестравіч працягвае творчую працу. Ён піша лібрэта да аперэт. Адно з іх да аперэты "Дзяўчына ў масцы", прысвечанае вечнай тэме — каханню. Аўтар музыкі — кампазітар Аляксандр Смольскі — сын Браніслава Сільвестравіча. Старэйшы сын — Дзмітрый Браніслававіч, прафесар, народны артыст рэспублікі. Дачка Браніслава Сільвестравіча — Наталля, скрыпачка, удзельніца фальклорнага калектыву, якім кіруе зяць Б.С.Смольскага.

Пра Браніслава Сільвестравіча, чалавека разнастайна адукаванага, вельмі энергічнага, заўсёды бадзёрага і ветлівага можна гаварыць многа. Жыццё яго ахоплівае амаль усё наша бурнае і трагічнае дваццатае стагоддзе. Мы жадаем яму добрага здароўя, новых творчых поспехаў і ад усяго сэрца віншуем з 85-годдзем !

# БАЦЬКАВА АДЫСЕЯ
## (працяг)
## Другая сусветная вайна

Надыходзіць 1939-ты год і пагроза новай вялікай вайны. У канцы жніўня польскія ўлады пачынаюць арыштоўваць сотні беларусаў, якіх уважалі сабе небясьпечнымі. Янка Станкевіч трапляе ў нясла̂ўныя Лукішкі і выходзіць адтуль толькі за пару дзён перад прыходам бальшавікоў, у сярэдзіне верасьня 1939-га году, калі Польшча вайну ўжо прайграла. Затрымаўся ў хаце менш дня. Не чакаючы пераходзіць мяжу ў Летуву й варочаецца назад толькі тады, калі Вільня была перададзена бальшавікамі Летуве. І гэтак бальшавікі, што прыйшлі вызваляць беларусаў з польскага ярма, гандлююць нашай Вільняй, а пазьней і Беластокам, дзеля палітычна карысных сабе патрэбаў. Але летувіская ўлада нядоўгая. Летам 1940-га году Летува, Латвія й Эстонія дастаюць ультыматум далучыцца да Савецкага Саюзу й вынікамі выбараў амаль стопрацэнтова, зычаць прыняць гэтыя "запросіны", каб стацца савецкімі рэспублікамі. Бытуе ў той час вельмі вымоўная летувіская пагаворка: "Вільнюс мусу, о Летува русу" ( Вільня нашая, а Летува расейская). Не марнуючы часу, Янка Станкевіч ізноў вандруе, гэтым разам крыху далей, аж у Нямеччыну, й пазьней у акупаваную немцамі Варшаву. Вялікая частка беларускага віленскага актыву застаецца ў Вільні, спадзяючыся ў нейкі спосаб перажыць пад новым акупантам. Але бальшавікі масава арыштуюць нашых людзей і высылаюць на ўсход. У гэткі спосаб гіне бяз сьледу гэткі віленскі грамадскі волат, як Антон Луцкевіч ды іншыя.

У міжчасе, на акупаванай немцамі тэрыторыі Польшчы, знайходзіцца ладне беларусаў-студэнтаў, палонных польскага войска, інтэлігентаў, высланых зь Беларусі яшчэ польскімі ўладамі й палітычных уцекачоў ад бальшавікоў. Сярод іх арганізуюцца розныя партыі й ідэялягічныя плыні. Некаторыя, прадбачваючы вайну немцаў з саветамі, арыентуюцца на Нямеччыну, іншыя, верачы ў эвэнтуальную перамогу заходніх аліянтаў, глядзяць у той бок. Да апошніх належыць і Янка Станкевіч.

Паводле нядаўна адшуканых дакумэнтаў, Янка разам з праф. Вац-

лавам Івановускім і доктарам-псыхіятарам Станіславам Грынкевічам арганізуюць падземную Партыю Беларускіх Нацыяналістых. Яны на - вязваюць лучнасьць з польскім падзямельлем, каб праз яго мець хоць які уплыў на заходніх аліянтаў. Была у іх надзея, што па - колькі цяпер і Польшча й Беларусь у няволі, то можа магчыма бу - дзе знайсьці супольную мову на будучыню. Але, нажаль, польскія дзейнікі й далей хварэюць "імпэрыялізмам і пыхаю".

Летам 1941-га году немцы нападаюць на Савецкі Саюз. Савецкае войска разгубленa адступае, й немцы акупуюць бальшыню Беларусі у працягу некалькіх месяцаў. Узьнікаюць новыя магчымасьці узяць у беларускія рукі мясцовую адміністрацыю й школьніцтва. Трэба бараніць беларускае насельніцтва ад ліхое акупацыі немцаў, ад польскай паліцыі, што супрацоўнічала з акупантам, ад савецкіх і польскіх партызанаў ды ад сваіх беларускіх апартуністых. У галіне школьніцтва, выдаваньня падручнікаў, слоўнікаў і іншых кніжак для сьпешнай асьветы беларускай моладзі, Янка Станкевіч знайшоў сваё заданьне. Дазволеная пэдагагічная й выдавецкая праца дае яму маг - чымасьць разьяжджаць даволі вольна па акупаванай немцамі усход - няй Эўропе. Нейкі час працуе у Менску, адведвае Вільню, Варшаву й Прагу, дзе цяпер жыве ягоная жонка з дзецьмі і дзе таксама зна - ходзіцца вялікая беларуская калёнія на чале з важнымі беларускімі дзеячамі БНР ( забароненай немцамі ), як прэзыдэнтам БНР Васілём Захаркам, паэткай Ларысай Геніюш, слуцкім паўстанцам інжынерам Васілём Русаком і іншымі. Цяпер група канспіратараў Партыі Беларускіх Нацыяналістых з 1940 — 41-х гадоў прыймае новую тактыку. Некаторыя зь іх займаюць яўныя адказныя функцыі, як напрыклад праф. В.Івановускі становіцца бурмістрам акупаванага немцамі Менску, іншыя, як Янка Станкевіч, тайна трымаюць кантакт з польскім падзямельлем з жаданьнем мець уплыў на пасьляваенную палітыку Захаду. Але цесная ваенная супраца Захаду з Саветамі прыносіць даволі хуткі разлом нямецкага фронту, і з адступаючай нямецкай арміяй пакідае Беларусь і вялікая хваля беларускіх уцекачоў ад бальшавізму. Янка Станкевіч, пад штодзённай пагрозай нямецкага арышту, выяжджае зь Беларусі й асяляецца на нейкі час з сям"ёю у Празе.

## На эміграцыі

У пачатку 1945-га году савецкая армія уваходзіць у Чэхію з усходу, а амэрыканцы набліжаюцца з захаду. Насельніцтва Прагі спадзяецца сустракаць амэрыканцаў ды з дапамогай Захаду адбудаваць

сваю дэмакратычную рэспубліку. Але набліжаецца капітуляцыя Нямеччыны й ня ведама, хто першы зойме чэскую сталіцу. Янка Станкевіч зноў не чакае. Ён пераходзіць пехатою яшчэ адну мяжу, апынаючыся ў будучай амэрыканскай акупацыйнай зоне пераможанай Нямеччыны. Аказваецца, што пераход граніцы ізноў апраўданы, бо савецкае войска займае Прагу й праз некалькі месяцаў прадстаўнік НКВД з узброеным савецкім жаўнерам зьяўляецца ў гасподзе Станкевічаў і распытвае пра Янку. Адыходзячы, не атрымаўшы задавальняючага адказу, заяўляе, што вернецца за пару дзён, каб болей даведацца. Гэтым разам Марыя Станкевіч не чакае. У той жа вечар, пакідаючы ўсю маёмасць і кватэру, беручы трое дзяцей і тры валізкі, пераяжджае цягнікам дэмаркацыйную амэрыканскую лінію ў акупаванае імі чэскае места Пільзэнь. У міжчасе, пасьля кароткага пабыту ў Мюнхэне, Янка Станкевіч злучаецца з сваей сям"ёю й пераяжджае ў Рэгенсбург.

Рэгенсбург быў параўнальна меней зьнішчаны за іншыя нямецкія гарады. Там адразу пасьля акупацыі зарганізаваліся розныя нацыянальныя камітэты, сярод іх і Беларускі Нацыянальны Камітэт. На каменданта беларускага лягеру быў пакліка804 Янка Станкевіч. Пачалася ўпорыстая праца, каб зарганізаваць грамадзкае жыцьцё, каб ўратаваць як найбольш беларусаў ад пагражаючай прымусовай рэпатрыяцыі ў Савецкі Саюз. А былі тут розныя беларусы. Былі немцамі прымусова вывезеныя работнікі, палітычныя вязьні канцэнтрацыйных лягероў, палітычныя дзейнікі акупаванай Беларусі, сялянства з караванамі вазоў, моладзь ды былыя палонныя розных войскаў і аддзелаў. Некаторым была патрэбная страха над галавой і забясьпечаньне харчаваньнем, іншым апрацаваньне неабходных дакументаў, а моладзі й дзецям — школьніцтва, перарванае вайной. Сьцягваюцца з усіх куткоў Нямеччыны школьныя, духоўныя й грамадзкія працаўнікі й жыцьцё Крывіцкага ( Беларускага ) Селішча ў Рэгенсбургу разьвіваецца. Доктар Янка Станкевіч застаецца камендантам нядоўга. Штодзённая грамадзкая праца вымагае розных кампрамісаў, каб здаволіць як найшырэйшае кола грамадзтва й быць папулярным. А ў Янкі Станкевіча ўжо з маладосьці трывалкасьць, або на думку іншых — упартасьць, шмат мацнейшая рыса характару, чымся лагоднасьць да іншых, і нажаль часта й да супрацоўнікаў. У той час, большая частка беларускага незалежніцкага актыву прыняла й прапагавала нацыянальны назоў Крывічы, але многія, бачачы недахоп агульнай падтрымкі, згубілі свой энтузіязм. Янка Станкевіч, хіба найдаўжэй

публічна, заставаўся упорыстым Крывічом. Апрача гэтага, сваім моцным і афіцыйным уводжаньнем рэформы мовы, ня усім знаёмых словаў, вымаганьнем адведваньня так зв. Народнага Ўніверсытэту здабыў сабе зацятую варожасьць некаторых беларусаў. Але адыход ад адміністрацыйнай працы дзе Янку Станкевічу болей магчымасьці й энэргіі для навуковай і пэдагагічнай дзейнасьці. Ён заснoувае Крывіцкае ( беларускае ) Навуковае Таварыства Францішы Скарыны, выдае падручнік мовы, працуе настаўнікам мовы й гісторыі у гімназіі й прафэсарам пры Украінскім Вольным Унівэрсытэце у Мюнхэне. Здабываць матэрыяльныя сродкі на выдавецтва ня лёгка. Нямецкія грошы ня маюць вартасьці, й прыходзіцца плаціць рознымі таварамі з унраўскіх сяродкаў. Жонка Марыя, ведаючы ангельскую мову, працавала пры амэрыканскіх установах і атрымоўвала гэткія тавары як частку зарплаты. Гэтак, напрыклад, амэрыканскія цыгарэты й цукеркі, памаглі выдаць зборнік беларускіх песьняў у 1946-м годзе.

Вясною 1949-га году сям"я Станкевічаў прыбывае у Нью Ёрк. Хоць арыгінальнае накіраванне было у штат Мінэсоту, яны, сустрэўшыся тут зь некаторымі беларусамі, затрымоўваюцца у Нью Ёрку. Першая гаспода на Іст 100-й вуліцы у гішпанскім Гарлеме, аднэй з найбольш запушчаных частак Нью Ёрку. Але, хоць гэтае месца было больш як скромнае, яно служыла першым кутком затрыманьня у Амэрыцы для шматлікіх беларусаў, якія, пабыўшы тут некалькі тыдняў, адпускалі месца для іншых. Прыяжджалі яны на "ашурансы", выстаўленыя праз малую арганізаваную групу, карыстаючы нова прыбылых як спонасраў для тых, што яшчэ чакаюць на выезд у лягерох у Нямеччыне. Гэты "цэнтр" на 100-й вуліцы зьяўляецца таксама й месцам, дзе заснавалася Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА) і дзе адбыўся ейны першы гадавы сход. Пазьней, адрыс другой хаты Станкевічаў, на Вандэрворт Плейс у частквава прамысловай частцы Брукліну, служыць як адрыс заінкарпараванага на амэрыканскай тэрыторыі — Крывіцкага Навуковага Таварыства Францішка Скарыны.

Тут пачынае выходзіць навуковы часапіс "Веда" пад галоўнай рэдакцыяй Янкі Станкевіча. Тут адбываюцца паседжаньні й чытаньні. Шасьцісямейны дом, вартасьці у 1950-м годзе на 5000 даляраў, куплены з дапамогай брата й банку, застаецца галоўнай, хоць і мізэрнай, матэрыяльнай базай Янкі Станкевіча. Ён дазваляе яму працаваць на навукова-выдавецкай ніве, замест таго, што прышлося рабіць шмат каму з новай беларускай інтэлігенцыі — працаваць на хвабрыцы. Тут ізноў дапамога жонкі, якая, ведаючы ангельскую мову,

дастае лепш платную працу у параунаньні да іншых новапрыехаушых. — Гэта дае магчымасьць Янку Станкевічу прадаужаць беларускую навуковую дзейнасьць. У сувязі з выданьнем "Веды" выходзіць шмат паасобных моваведных і гістарычных выданьняу і папулярных брашурау у беларускай і ангельскай мовах. Выходзіць "Мова рукапісу Аль-Кітаб", якога першаму выданьню перашкодзіла вайна. Янка Станкевіч рыхтуе матэрыялы для зборнікау Інстытуту Вывучэньня Савецкага Саюзу, між іншым, "Савецкае хвальшаваньне гісторыі Беларусі", "Нашаніуства й бальшавікі" ды некалькі працау у ангельскай мове. Янка Станкевіч супрацоунічае таксама з навуковым часапісам "Запісы" й газэтай "Бацькаушчына". Бярэ удзел у працы БАЗА, асабліва у галіне культурна-асьветнай, вучэньнем у сыботняй школе. Ён ладзіць чытаньні для сяброу БАЗА й для старых беларускіх эмігрантау, каб прыцягнуць іх назад да беларускасьці. У навуковых, так як і у грамадзкіх дачыненьнях, застаецца асобай кантравэрсыйнай ( палемічнай — заувага рэд. ), устойваючыся на пазыцыі для дабра народу, так як ён гэта бачыу, даволі часта ня у згодзе зь іншымі. Стараецца дапамагчы, дзе толькі гэтая дапамога была патрэбнай, і не дазваляе частай крытыцы спыніць сваю актыунасьць або зьмяніць выбраны сабе напрамак дзейнасьці. Памагае пісаньне артыкулау для розных часапісау, напрыклад для "Сяубіта", выданага кс. Чарняускім для беларусау-каталікоу, ды для іншых.

У апошнія гады дзяліуся шмат думкамі, пісьмова й асабіста, зь пісьменьнікам Ю.Віцьбічам, так як і з даунейшымі сябрамі навукова-грамадзкае дзейнасьці. Варожымі заусёды былі ягоныя адносіны да таго тыпу людзей, што стараліся выкарыстаць беларускую справу для свайго асабістага дабрабыту, або, што да справы падыходзілі абыякава. Асабіста, хоць ён пагляды мяняу ня часта, ён гатоу быу паслухацца, параіцца й прыняць пад увагу усё разумнае. Прыпамінаецца адзін такі цікавы мамэнт. У 1959-м годзе адведвае яго з Бэльгіі ведамы апякун беларускіх студэнтау а. Рабэрт ван Каузлярт Айцец Рабэрт, знаёмы із старыннай эурапейскай гісторыяй, у доугай гутарцы аб назовах нашага народу ведамых у Заходняй Эуропе, выказвае меркаваньне, што назоу Крывія ды розныя формы назову Беларусь мала ведамыя у гісторыі Эуропы. Затое ж паняцце Вялікага княства Літоускага, або Вялікае Літвы, ведамае й гістарычна слаунае. У гэткі спосаб зарадзілася думка й Янка Станкевіч пачынае ад гэтага часу папулярызаваць назоу Вялікалітва гэтак

сама ўпорыста, як раней папулярызаваў Крывіч, Крывія.

Янка прадаўжае працу над расейска-беларускім слоўнікам. У Готорн, прадмесьці Нью Ёрку, дзе ён з жонкай пасяліліся, адзін цэлы пакой заняты дзесяткамі тысяч картках, на якіх запісаныя матэрыялы да слоўніка. Ягоныя дні праходзяць у даўгой працы часамі аж да позьняй ночы, перарыванай частымі паездкамі у Нью Ёрк, дзе бальшыню часу перабывае у славянскім аддзеле Публічнай Бібліятэкі Нью Ёрку. Для жыхароў Готорн, ён стаецца ведамым сваімі даўгімі паходамі па вуліцах, ідучы борзда й поўнасьцю заняты сваімі думкамі. Напэўна ўспаміналіся яму тыя вандроўкі па Ашмяншчыне у маладосьці.

У канцы 1950-х гадоў жаданьне зрабіць мадэрны пераклад цэлай Бібліі у беларускую мову пачынае набіраць канкрэтную форму. Навязваецца лучнасьць з рознымі біблійнымі таварыствамі, зь беларускімі евангельскімі грамадамі у Амэрыцы й Канадзе ды зь некаторымі моваведамі. Пры інтэнсыўнай супрацы з др. М.Гітлінам, спэцыялістым у гэбрайскай і грэцкай мовах, як і знаўцам некалькіх славянскіх моваў, пераклад кнігаў Бібліі йдзе наперад. Вялікая арганізацыйная праца Тараса Сайкі, беларускага эвангеліка з Мінеаполіс, разам з матэрыяльнай дапамогай біблійнай супалкі "Messianic Message", служыць выхаду у сьвет друкам новага перакладу Новага Закону, у 1973-м годзе. У пэрыяд жыцьця, калі бальшыня людзей ідзе на пэнсію, Янка Станкевіч інтэнсыўна працуе над хіба найбольшым ягоным дасягненьнем — выданнем беларускага перакладу цэлай Бібліі, першага ад часу доктара Пранціша Скарыны у 16-м стагодзьдзі. У 1973-м годзе, калі беларуская Біблія выходзіць друкам у сьвет, яму канчаецца 82-гі год плённага жыцьця.

Янка Станкевіч засноўвае Вялікалітоўскую ( беларускую ) Фундацыю імя Льва Сапегі, для якой аддае ўсю сваю ашчаднасьць, а пазьней тэстамэнтам сваю маёмасьць, каб далей па сьмерці памагчы выдаваць свае ды іншых навуковыя працы й даць магчымасьць заснаваньня стыпэндыяў для студэнтаў беларусаведы.

У адзін летні дзень Янка варочаецца з штодзённага шпацыру па вуліцах Готорн вельмі змучаны й крыху спалоханы. Пазьней лекар дае дыягнозу — невылечальная хвароба рака — прыблізна поў году жыцьця. Янка Станкевіч, дзякуючы да пэўнай меры лячэньню, а болей сваёй моцнай канстытуцыі, пражывае яшчэ амаль два гады, карыстаючы іх, каб як найлепш давесьці пачатыя работы да парадку, наракаючы часта што так мала засталося часу.

Адышоў Янка на вечны супакой у ліпені 1976-га году й быў пахаваны на беларускім магільніку ў Іст.Браньсьвіку, у Нью Джэрзі. На пахавальнай службе, якую вёў кс. Ул. Тарасевіч, былі чытаньня ўрыўкі з перакладзенай ім Сьвятой Бібліі.

У разьвітальным артыкуле, напісаным па сьмерці Янкі Станкевіча, ягоны пляменьнік і шматгадовы супрацоўнік др. Станіслаў Станкевіч не перабольшыў, калі яго апісаў наступна: "Няўтомна працавіты нацыянальны дзеяч у шмат якіх галінах нацыянальнага жыцьця, гарачы беларускі патрыёт, чалавек, які усё сваё жыцьцё, усе свае сілы й энэргію паставіў на верную службу для Бацькаўшчыны".

...

НА ЗРУЙНАВАНЫМ МЕНСКІМ МІЗАРЫ ...

У рэдакцыю "Байрама" быў тэлефон ад мусульманкі Джамілі. Яна папрасіла расказаць пра чалавека, чыя адна толькі магіла зберагласся ад разбурэння . Вось што пакуль можам паведаміць.

Хасень Мустафавіч Александровіч нарадзіўся 31.12.1900 у Менску. Удзельнік Менскага камуністычнага падполля ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Член КПСС з 1924 г. Скончыў Камуністычны інстытут журналістыкі ў 1937 г. З 1920 г. працаваў наборшчыкам тыпаграфіі ў Менску, у 1930 — 1933 гадах намеснікам старшыні Камітэта па справах друку пры СНК БССР. У акупіраваным Менску разам з падпольшчыкам інжынерам Яўгенам Уладзіміравічам Афнагелям ( нарадзіўся 20.5.1909 — расстраляны фашыстамі ў пачатку чэрвеня 1944 года ) набраў 2, 3 і 4 нумары падпольнай газеты "Звязда", лістоўку "Да насельніцтва Беларусі". З лістапада 1942 года Х.М.Александровіч быў у партызанскай брыгадзе Сталіна Баранавіцкай вобласці. Пасля вайны працаваў у выдавецтвах Менска. Памёр 12.11.1959 у Менску.

Рэдакцыя "Байрама" паспрабуе адшукаць яго дзяцей, сабраць большую інфармацыю і надрукаваць яе ў нашым квартальніку.

ЗАНЯТКІ ПРАВОДЗІЦЬ АХМАД МАРАКАНСКІ

У нядзельнай мусульманскай школе з групай татар старшага ўзросту занятк і па Ісламу праводзіць настаўнік Ахмад. Нам вельмі пашчасціла, што мы маем такога кіраўніка. Вядома, пэўныя веды па нашай рэлігіі у нас былі. Мы атрымалі іх хто у школе у Заходняй Беларусі да другой сусветнай вайны, хто дома ад сваіх старэйшых. Але цяпер, пад кіраўніцтвам вопытнага і шырока адукаванага мусульманіна мы значна паглыбілі свае веды. Так, напрыклад, пры знаёмстве з сурай 96 — Аль-Аляк, вядомай яшчэ таксама пад назвай Аль-Калям, мы даведаліся, што спачатку архангел Джыбрыл перадаў Мухаммеду першыя аяты гэтай суры. Затым прарок атрымаў аяты некалькіх іншых сур, а пасля зноў аяты суры Аль-Аляк ( на беларускую мову гэта слова перакладаецца як Згустак, Згуслая кроў ). Наогул, трэба ведаць, што змест усяго Кур"ана быў перададзены Мухаммеду ў два перыяды яго жыцця — мекканскі і медынскі. Да 40 гадоў свайго жыцця Мухаммед жыў у горадзе Мекка як звычайны чалавек. Пасля таго, як архангел Джабрыл перадаў яму першыя аяты Кур"ана, пачалася місія Мухаммеда як Расула — Пасланніка Аллага.

А пачынаецца сура са слова "Чытай !". І хоць Мухаммед і адказаў: "Я не ўмею чытаць", а ангел паўтарыў "Чытай !" І Мухаммед пачаў чытаць.

Многія суры пачынаюцца са слова "Скажы !" Усе гэта гавораць аб тым, што пасля таго, як Мухаммед стаў пасланнікам Аллага, ён перадаў указанні, тлумачэнні і адказы на мноства пытанняў і праблем вернікаў.

Даследчыкі Кур"ана падзяляюць гэту Святую Кнігу на дзве часткі — мекканскую, атрыманую Мухаммедам на працягу 13 гадоў яго місіі як пасланніка Аллага ( Прарок тады жыў у сваім родным горадзе Мекка ), і медынскую — частку Кур"ана, якую паслаў яму Аллаг за 10 гадоў, за 10 гадоў эміграцыі Мухаммеда ў горадзе Медына.

Гэтыя часткі Кур"ана адрозніваюцца адна ад другой сваім зместам, накіраванасцю ( калі першая частка суры была атрымана Мухаммедам ў горадзе Мекка, а апошнія аяты атрымаў Мухаммед у горадзе Медына, то прынята лічыць такую суру медынскай ). Так, мекканская частка больш увагі надае веры, гавораць пра стаўпы ( апоры ) веры — аб адзінстве Аллага, аб ангелах, аб адкравен-

ні Аллага — Свяшчэннай Кнізе — Кур"ане, аб пасланніках Аллага, аб Судным Дне, які чакае кожнага чалавека, аб прадвызначэнні ( лёсе ) кожнага чалавека.

Медынская ж частка Кур"ана больш увагі надае пытанням паводзін чалавека, прыстойнасці, законам жыцця, праву ( шарыяту ). У сувязі з апошнім настаўнік Ахмад расказаў, як паявілася у Кур"ане забарона ужывання алкаголю. Аднойчы здарыўся выпадак: адзін чалавек чытаў суру з Кур"ана Аль-Кяфірун ( № 109, на беларускую мову перакладаецца словам Няверныя ), але ён быў нецвярозы і пераблытаў у ёй словы, што зусім магчыма па прычыне цяжкасці іх вымаўлення. У Мухаммеда тады спыталі, што рабіць, калі пры чытанні пераблыталі словы і атрымаўся зусім іншы сэнс. Мухаммед адказаў, што не маліцеся, калі не можаце асэнсаваць, што і як вы чытаеце.

Пасля гэтага прайшло некалькі гадоў і на адной з сустрэч пасля ужывання алкагольных напіткаў пачалася бойка, пацярпелі людзі. І тады прышлі да Мухаммеда за парадай, як быць ? Мухаммед задумаўся, а праз нейкі час ангел Джыбрыл прынёс яму адказ: "Алкаголь ад шайтана і ён павінен быць забаронены для мусульман раз і назаўсёды".

Такіх выпадкаў, на якія патрэбны былі адказы як быць, было многа у жыцці. І таму гэтыя адказы, якія перадаваліся ад Аллага пасланніку Мухаммеду, часта пачынаюцца са слова: "Скажы !"

Зразумела, такія тлумачэнні настаўніка назаўсёды запамінаюцца слухачамі і добра раскрываюць глыбінны сэнс Кур"ана, яго накіраванасць і абгрунтаванасць. Мы вельмі удзячны нашаму Ахмаду за такі метад навучання Ісламу.

## ВЕСТКІ ПРЫЕМНЫЯ

Мусульмане Беларусі ! Даводзім да вашага ведама, а праз вас да ведама мусульман у іншых дзяржавах аб тым, што утворана Мусульманскае рэлігійнае аб"яднанне у Рэспубліцы Беларусь. Аб"яднанне арганізацыйна афармлена на з"ездзе мусульман Беларусі 7 студзеня 1994 г. у Менску. Прыняты Статут і выбрана Упрауленне ( Муфтэят ) на тэрмін 2 гады у складзе 9 чалавек:

Александровіч Ізмаіл Мустафавіч, старшыня ( муфтэй ), Менск
Варановіч Ізмаіл Мухарэмавіч, намеснік старшыні, Менск,
Умерау Гары Люманавіч, адказны сакратар, Менск,
Байрашэускі Сюлейман Матвеевіч, сябра, Слонім,
Крыніцкі Аляксандр Аляксандравіч, сябра, Гродна,
Палтаржыцкі Акяксандр Аляксандравіч, сябра, Смілавічы,
Халембек Алі Іосіфавіч, сябра, Менск,
Шабановіч Ізмаіл Алеевіч, сябар, Іуе,
Шагідэвіч Алі Амуратавіч, сябра, Навагрудак.

Рэвізіуная камісія таксама выбрана тэрмінам на 2 гады у складзе 3-х чалавек:

Рафаловіч Сцяпан Міхайлавіч, старшыня, Менск,
Крыніцкі Ібрагім Сюлейманавіч, сябра, Нарач,
Хасеневіч Алімжан Якубавіч, сябра, Узда.

Галоуныя задачы аб"яднання — арганізацыя і афіцыйная рэгістрацыя новых мусульманскіх джаміятау ( абшчын, прыходау, парафіяу ), будауніцтва мячэцяу і дамоу для малення, арганізацыі вучобы дзяцей і дарослых у сферы Ісламу, устанауленне сувязей з ісламскім светам у мэтах атрымання дапамогі пры адраджэнні Ісламу на землях Беларусі.

Аб"яднанне афіцыйна зарэгістравана у Савеце па справах рэлігіі пры Савеце Міністрау Рэспублікі Беларусь ( пасведчанне № 50 ад 2.02.1994 г. ), мае сваю пячатку і штамп.

А цяпер з дапамогай Аллага — за справу, за адраджэнне рэлігіі і нацыі !

У сакавіку гэтага года афіцыйна зарэгістравана Віцебская мусульманская абшчына. Гэта ўжо 13-я мусульманская абшчына на Беларусі. Старшынёй Рады мусульмане абралі Валерыя Худаславіча Шахціерава.

На чаргу на рэгістрацыю мусульманскіх абшчын дакументы падалі мусульмане гарадскога пасёлка Відзы Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці, горада Глыбокага Віцебскай вобласці, горада Мядзела Менскай вобласці і гарадскога пасёлка Узда Менскай вобласці, горада Ашмяны Гродзенскай вобласці і горада Брэст.

У газеце "Віцебскі рабочы" ад 1 сакавіка 1994 г. змешчаны артыкул пад назвай "Не ўсё купляецца ...", у якім, між іншым, сказана, што жыхар горада Глыбокае Сулейман Мустафавіч Гімбіцкі падараваў мясцоваму музею срэбныя манеты. Сулейман Мустафавіч паступіў як сапраўдны татарын. Віншуем !

Казанскія энцыклапедысты — намеснік дырэктара Інстытута татарскай энцыклапедыі Акадэміі навук Татарстана, заслужаны работнік культуры Рэспублікі Татарстан, кандыдат гістарычных навук, дацэнт Гумер Саліхавіч Сабірзянаў, супрацоўніцы гэтага Інстытута Гузель Казембекаўна Вайда і Алсу Існіятаўна Яруллiна прыслалі для "Аль-Кітаба" вельмі каштоўны падарунак. Толькі перасылка па пошце каштавала амаль 2 тыс. рускіх рублёў !

У гэтай бандэролі нашы сябры прыслалі нам даведнік "Кто есть кто", у якім змешчаны артыкулы пра 300 вядомых дзеячаў у сферы палітыкі, эканомікі і фінансаў, паведамляюцца іх біяграфічныя дадзеныя, пазаслужбовыя інтарэсы.

Другая кніга —"Татарстан на перекрестке мнений". З гэтай кнігі відаць, што ў кіраўнікоў Татарстана і сацыёлагаў ёсць што сказаць свайму народу.

Надзвычай цікавая для нас кніга Г.С.Сабірзянава ( ён напісаў для нас дарчыя словы ) "Поволжские татары и русские в зеркале симпатий и антипатий".

Нашы сябры даслалі нам таксама цікавыя звесткі пра прэзідэнта Татарстана Мінцімера Шарыпавіча Шаймiева, пра жыццё татар у рэспубліцы і за яе межамі.

إِنَّا لِلَّهِ وَإِنَّا إِلَيْهِ رَاجِعُونَ

# ВЕСТКІ СУМНЫЯ

На 76-м годзе жыцця 3 сакавіка 1994 года пасля цяжкай і працяглай хваробы памерла Ганна Меметава — жонка Ісмаіла Меметава.

Нарадзілася Ганна 18 верасня 1918 года у сям"і Пчалы Рыгора і Вольгі у вёсцы Мядзведава Кліпцоўскага раёна Бранскай вобласці. Рамантычны склад характару, камсамольскае юнацтва паклікалі яе на Далёкі Усход. Там яна спаткалася і пазнаёмілася з маладым камандзірам-дэсантнікам Чырвонай Арміі Ісмаілам Ісмаілавічам Меметавым. У 1939 г. яны пабраліся, у 1940 г. нарадзіўся першы сын — Энвер. У час Вялікай Айчыннай вайны Ганна Рыгораўна працавала, гадавала сына і чакала лісты з фронту ад мужа.

Пасля вызвалення ад фашыстаў Беларусі і Літвы камандзір танкавага батальёна ваяваў у Польшчы. Тут, у Войску Польскім, ён вучыў польскіх хлопцаў танкавай справе. У час візіту у Польшчу маршала Югаславіі Ціта Ганна Рыгораўна пазнаёмілася з жонкай маршала — Йованкай Броз. Трэба адзначыць, што Ганна Рыгораўна была першай жонкай савецкага афіцэра, якая прыехала з сынам да мужа. Пасля таго, як яны вярнуліся у СССР, муж служыў на Беларусі. Нарадзіліся яшчэ два хлопчыкі — сын Джафер у 1947 і сын Алег у 1950 г. У 1974 г. сям"ю Меметавых спаткала вялікае гора — трагічна загінуў сын Энвер.

У доме Меметавых гасцінна сустракалі супляменнікаў мужа — крымскіх татар. Ісмаіл знаходзіў іх і у час чыннай службы, і пазней, ужо у адстаўцы. Добра адчувалі сябе у іх доме і паволжскія, і беларускія татары. Ганна Рыгораўна заўсёды была у курсе грамадскіх спраў свайго мужа — члена Праўлення Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб".

У апошні шлях нашу дарагую Ганну Рыгораўну праводзілі родныя і блізкія, суседзі-хрысціяне, члены згуртавання "Аль-Кітаб".

На 59-м годзе жыцця 12 сакавіка 1994 года раптоўна памёр палкоўнік Эмір Гембіцкі, сын Алі і Мяр'емы з Асановічаў. Нарадзіўся 13 чэрвеня 1935 года у Троках. Меў братоў Аляксандра і Барыса, сястру Саіду ( жыве у Менску, жонка А.Ю.Шабановіча ). У памерлага засталіся маці, жонка Ірэна, дачка Дзінара і сын Аляксандр, два хлопчыкі-унукі. Пахаваны на мізары татарскай вёскі Сорак Татар каля Вільнюса.

Мусульмане ! Прачытайце суру Я-СІН за душы памерлых.

# БЕЛАРУСКА-КРЫМСКАТАТАРСКІ СЛОЎНІК

У папярэдніх нумарах "Байрама" мы надрукавалі тысячу самых патрэбных беларускіх слоў, якія пераклаў на крымскатарскую мову дзядзька Ісмаіл Меметаў. Па просьбе нашых чытачоў мы пашырылі беларуска-крымскататарскі слоўнік яшчэ трыма сотнямі слоў, якія выбраў і пераклаў дзядзька Ісмаіл.

| Беларускае слова | Крымскататарскае слова |
| --- | --- |
| абвестка | илян |
| абучэнне | окъумакъ, огретмек |
| адбіраць | чэкіп алмакъ, тутуп алмакъ |
| адкрываць | ачмакъ |
| Айчына | Ватан, Ветан |
| аднолькавы | бир-брине ошай |
| адпачываць | раатланмакъ |
| адчуваць сябе ( пачувацца ) | озинъи дуймакъ |
| ад"язджаць | кетмек |
| азначаць | иштаретлемек |
| акуляры | козлик |
| аплочваць | ошмек, фиатыны одмек |
| апранацца | кийинмек |
| апранаць | киймек |
| астанавіцца | токътамакъ |
| атрымліваць | алмакъ |
| ахвотна | авесликнен |
| ацяпляць | якъмакъ |
| бальніца | хаста-хане |
| Бацькаўшчына | Ватан, Ветан |
| білет | белет |
| блюда | тепис |
| боязь | къоркъу |
| браць шлюб | эвленмек |
| будаваць | къурмакъ |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
|---|---|
| буталька | ише |
| быць згодным | къайлы олмакъ |
| быць уважлівым | дикъатлы, дикъат этмек |
| бяседа | лахырды. лаф |
| ванны пакой | сув хане |
| веды | илим, бильги |
| верш | шиир |
| вестыбюль | хане |
| ветлівы | сайгылы |
| ветразь ( парус ) | елькен |
| вешаць | асмакъ |
| вітацца | селямлашмакъ |
| вугал | коше |
| вугаль | комур |
| вузкі | тар |
| вучань | талебе |
| вучыць | окъутмакъ |
| вучыць ( чаму-небудзь ) | огретмек |
| выгодны | къолайлы, келише |
| выйграваць | еньмек |
| выйсці ( з друку ) | басып чкъармакъ |
| выклікаць | чагырмакъ |
| вылазіць | чыкмакъ, кирмек |
| выраблящь | чыкъармакъ |
| высаджвацца | чыкмакъ, кирмек |
| вытанчаны | юфакъ |
| вытвараць | чыкъармакъ, япып чыкъармакъ |
| вытрымліваць | сабр этмек |
| выхоўваць | тербилемек |
| вышыня | юксеклик, байыр |
| вяртацца дамоў | эвге къайтмакъ |
| вярцецца | айланмакъ |
| вясці | алып бармакъ |
| галіна | птакъ |
| галоўная вуліца | баш сокъакъ, энъ буюк сокъакъ |
| гандаль | алыш-вериш |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
|---|---|
| гарачыня | сыджакъ |
| гатэль | мусафир хане |
| гладкі | тегиз |
| гладзіць | сийпамакъ |
| глеба | ер, топракъ |
| грамадства | джемиет |
| граніца | сынъыр |
| груз | юк |
| гузік | туйме |
| гультай | дембель |
| густы | къойы |
| дазваляць | рухсет бермек, рухсет этмек |
| дапамагаць | ярдым этмек |
| даручэнне | иш берек |
| даска | тахта |
| даспадобы | бегениле, келише |
| даўжыня | бой, узунлыгы |
| дах | эв топеси, сачакъ |
| драбіна | ведирмен |
| дрот | тель |
| друкаваць | басмакъ |
| дыханне | нефес |
| ежа | ашайыш |
| жаркі | сыджакъ |
| жудасны | къоркъунычлы |
| завяршаць | битирмек, япып битирмек |
| займацца | ишлемек, чалышмакъ, огърашмакъ |
| займаць ( месца ) | ер алмакъ, ер тутмакъ |
| заказваць | сумарламакъ |
| заканчваць | токътатмакъ, битирмек |
| закончыць | битирмек, япып битирмек |
| зал | хане, ода |
| заняткі | зенаат |
| заробак | аялыкъ |
| запамінаць | унутмамакъ, акъылда тутмакъ |
| запальваць | якъмакъ |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
|---|---|
| запрашаць | чагъырмакъ |
| зарубежжа | чет мемлекетлер |
| захадзіць | кельмек, кірмек |
| заязжаць | кельмек, кірмек |
| званіць | чанъ къакъмакъ |
| званіць ( выклікаць па тэлефоне ) | телефон этмек |
| звязываць | багламакъ |
| здарэнне | вакъыя |
| здымаць ( што-небудзь ) | тюшурмек |
| зерне | ашлыкъ |
| зімны | сувыкъ |
| злодзей | хырсыз |
| злучаць | багламакъ |
| злы | очувалы, серт |
| змаганне | куреш |
| змагацца | курешмек |
| зменьваецца | деньише |
| змрочны | чырайсыз. |
| знаходжанне | отурмакъ, анда олмакъ |
| знаходзіць | тапмакъ |
| зразумелы | белли |
| зябнуць | ушумек |
| інакш | ондан башкъа, башкъа тюрлю |
| імгненне | шу арада |
| канчаць | битирмек |
| капаць | къазмакъ |
| карціна | ресим |
| карыстацца | файдаланмакъ |
| кашляць | оксурмек |
| каштаваць ( пробаваць ) | незетни бакъмакъ |
| каштоўны ( дарагі ) | фиятлы, фияты юксек |
| квітнець | чичекленмек, чичек ача |
| кідацца ( у вочы ) | козге тюшмек, козге корунмекъ |
| коўдра | юргъан |
| кошт | фияты, къыймети |
| краіна | мемлекет |

| беларускае слова | крымскататарарскае слова |
|---|---|
| крама | тюкань |
| круціцца | айланмакъ |
| крывы | къыйш |
| крыж | хачы |
| крэйда | бор |
| кулак ( багаты ) | юмурук, зенъгин |
| купаць | джувмакъ |
| купля | сатып алув |
| купляць | сатын алмакъ |
| кусаць | тишлемек |
| кут | коше |
| кухня | аш хане |
| ламаць | сындырмакъ, бозмакъ |
| ласкавы | сайгъылы |
| лесвіца | ведирмен |
| лёд | буз |
| лётаць | учмакъ |
| ліст ( пісьмо ) | мектуб |
| літара | ариф |
| ліць | токмек |
| лякарства | илядж |
| лянівы | дембель |
| магазін | тюкань |
| малаток | чокуч |
| манера | адет |
| мел | бор |
| мець дазвол | рухсет алмакъ |
| мыць | джумакъ |
| мяняць | денъишмек |
| мясцовасць | улькe, ер |
| мяч | топ |
| наведванне | бармакъ, къатнамакъ |
| навучанне | окъумакъ, огретмек |
| накрываць | гошемек, япмакъ |
| напаўняць | толдырмакъ |
| настрашыць | къоркъызмакъ |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
|---|---|
| нацягваць | тартмакъ, чекмек |
| небяспечны | хаталы |
| незаможны | фукъаре |
| незамужняя | бойдакъ къыз |
| непрыяцель | душман |
| нямецкі | немседже, алманджа |
| пабудова | бина |
| паведамленне | хабер |
| павесіць | асмакъ |
| павінавацца | динълемек |
| паводзіць сябе | озюнъи тутакъ, озюнъи охшы тутмакъ |
| павольны | яваш-яваш |
| пагражаць | къоркъызмакъ |
| падабацца | бегениле, келише |
| падарунак | бахшыш, багъыш |
| падатак | калым, налог бермек |
| падвал | магъаз |
| падворак | азбар |
| падымаць | котермек |
| пажылы | эсли |
| пазнаваць | бильмек, ишитмек |
| пазнаёміцца | танышмакъ |
| пазычаць | борчкъа алмакъ |
| пайсці | кетмек |
| пакупка | сатып алув |
| пакутваць | чекишмек |
| палёт | учув, авада учмакъ |
| памылка | янълыш |
| памылковы | янълыш, догоры дегиль |
| памыляцца | янълышмакъ |
| памятаць | унутмамакъ, акъылда тутмакъ |
| панура | чырайсыз |
| пасведчанне | шаадет наме |
| пачувацца | озньи дуймакъ |
| паяўляцца | басып чыкъмакъ |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
|---|---|
| перадаць | берип джибермек |
| перапыняцца | токъталмакъ |
| пераставаць | токъталмакъ |
| прадмет | шей |
| пражыванне | яныкъланмак |
| прамы | догъры |
| пранікаць | ичине кирмек, ичке кирмек |
| прапанова | теклиф, джумле |
| прапаноўваць | теклиф этмек |
| прасаваць | ютлемек, уйтилемек |
| прастуджвацца | сувукъланмакъ, ушумек |
| прафесія | зенаат |
| просты | догъры |
| прыбываць | кельмек |
| прыбыццё | келинмек |
| прывітанне | селям |
| прывыкаць | алышмакъ |
| прывычка | адет |
| прыемны | якъшы |
| прыемны ( на смак ) | незетли |
| прызнаць | танымакъ |
| прызямляцца | ерге тюшмек |
| прыкмячаць | эслемек |
| прымайстраваць | бекитмек |
| прымацаваць | бекитмек |
| прымаць рашэнне | харар къабул этмек |
| прынасіць | кетирмек |
| прыстойны | якъшы, бир харар |
| прыязджаць | кельмек |
| прыяцель | аркъадаш |
| радавацца | къуванмакъ |
| радасны | къуванычлы, шень |
| радасць | къуваныч |
| Радзіма | Ветан, Ватан |
| радзіцца | догъмакъ, дуньягъа кельмек |
| развівацца | осмек, инкишаф этмек |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
|---|---|
| развітанне | савлыкълашмакъ |
| разумны | акъыллы |
| рамясло | зенаат, санаат |
| раскрываць | ачмакъ |
| распранацца | сойынмакъ |
| растлумачваць | анълатмакъ, билдирмек |
| расходы | масраф |
| рашаць | чезмек |
| рухацца | джурмек, къбрдамакъ, арекет этмек |
| ручнік | юз без |
| рыць | къазмакъ |
| садавіна | емиш |
| сакрэтны | гизли |
| сапраўдны | керчек |
| сардэчны | гонъюлли |
| свабода | уруует |
| свежы | тазе |
| святкаваць | байрам откермек |
| сельская гаспадарка | кой хозяйствасы |
| склеп | магъаз |
| скрынка | къуты |
| служыць | хызмет этмек |
| слухацца | динълемек |
| смажыць | къызартмакъ |
| смак | лезет, незет |
| снеданне | сабах ашы |
| спадзявацца | инанмакъ |
| спешка | ашыкъмакъ |
| спосаб | усул |
| спявацца | ашыкъмакъ, тез олмакъ |
| стары | карт |
| столь | таван |
| страва | аш |
| страх | къоркъу, къоркъы |
| страшны | къоркъунычлы |
| стукаць | къакъмакъ |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
| --- | --- |
| сук | птакъ |
| сумка | торба |
| сумны | джан сыкъысы |
| суп | шорба |
| сустракаць ( каго-небудзь ) | къарышламакъ, къарышлап алмакъ |
| сутарэнне | магъаз |
| схапіць | тутмакъ, тутып алмакъ |
| сцяг | байракъ |
| сыры | ислакъ |
| танны | уджуз |
| тлусты | ягълы |
| тонкі | индже |
| торба | торба |
| тоўсты | къалын |
| трамвай | трамвай |
| трус ( баязлівец ) | къоркакъ |
| уважлівы | мукъайтлы, дикъат этмек |
| уваходзіць | кирмек |
| узняцца | котерильмек |
| уплыў | тесир |
| усміхацца | кульмек |
| фах | зенаат, санаат |
| флаг | байракъ |
| халаднаваты | сувукъ |
| халасты | бекяр, бойдакъ |
| хапаць | тутмакъ |
| хвароба | хасталыкъ |
| хварэць | агъырмакъ |
| хворы | хаста |
| хватаць | тутмакъ |
| цалаваць | опмек |
| царква | кильсе |
| цвёрды | къатты |
| ціснуць | сыкъмакъ, эзмек |
| ціхі | яваш |
| цудоўны | гузель, пек гузель |
| цяжар | юк |
| цярплівы | сабырлы, чыдамлы |
| чыгунка | демир ел |
| чыноўнік | хатим |
| шафёр | айдавджы, шофер |
| шкло | джам |
| шкура | тери |
| шум | шамата |
| шчаслівы | бахытлы |
| юны | яш, генч |

# СЛОЎНІК ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА "ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ"

( працяг )

Складзены на падставе даведнікаў і манаграфічнай літаратуры. Пасля слова ці групы слоў, якія абазначаюць з"ву, падзею, прадмет, імя чалавека ( прозвішча ) нярэдка пазначаны вялікімі літарамі і лічбамі. Гэта імёны аўтараў манаграфій і нумар старонкі ў кнізе, дзе пра энцыклапедычны артыкульчык ёсць некаторыя звесткі.

БД — Пётр Бараускі і Аляксандр Дубіньскі "Польскія татары. Гісторыя, абрады, легенды, традыцыі", 1986;

ЯТ — Ян Тышкевіч "Татары ў Літве і Польшчы", 1989;

АМ — Алі Міськевіч "Польскія татары 1918 — 1939", 1990;

Г — Зыгмунт Глогер "Старапольская ілюстраваная энцыклапедыя", Т. 1 — 4, 1958.

Паважаны чытач ! У надрукаваным тут слоўніку будучых артыкулаў, якія пачынаюцца на літару "К", вядома, могуць быць пропускі. Дасылайце свае прапановы, а яшчэ лепш завершаныя артыкулы, палепшаныя артыкулы, якія раней друкаваліся як пробныя ў "Байраме".

## К

КААБА, ал-Кааба, Каба, Кебе, Кевбе, святая мячэць у горадзе Мекка

КАБАЛА, фінансавае абавязацельства

КАБІЛ І ХАБІЛ, Каін і Авель, куранічныя персанажы

КАБІРА, вялікі грэх

КАВА, кофе, Г., Т.3 26

КАВАЛЬСКІ Тадэвуш, навуковец, БД 161; АМ 109, 110, 123, 133, 135, 182, 183

КАВТАР, аль-Каўтар, 108- сура з Кур"ана

КАВФ, аль-Кагф, 18-я сура з Кур"ана

КАДА, Ва-л-Кадар, ал-Каца, прадугледжанае і прадвызначанае

КАДАР, аль-Кадар, 97-я сура з Кур"ана

КАДЫ, кадзі, кадэй, казі, татарскі суддзя, ЯТ 218, 292, 296; БД 112

КАДЫР-НОЧ, Кадырная ноч, ноч у канцы рамазана

КАХІН, прадказальнік
КЕБЕ, гл. Кааба
КЕБШ, баран
КЕВБЕ, гл. Кааба
КЕДЫР, гл. Кадыр-ноч
КЕЙДАНСКАЯ МЯЧЭЦЬ, у Летуве, БД 166
КЕЛІМЕІ ШАХЭДЭТ, вызнанне веры, формула веры
КЕНА, татарская вёска у Віленскім павеце, БД 60
КЕНСКІ, М і н ь к е в і ч - К е н с к і , татарскі князь у ВКЛ
КЕНСКАЯ МЯЧЭЦЬ ( 1615 — 1631 ), у Віленскім павеце, БД 60
КЕРАМОВАЯ, шляхетная, высакародная
КЕРБЕЛА, К а р б а л а , М е ш х е д - а л - Х у с е й н , горад у Іраку, мячэць-маўзалей імама Хусейна — святыня мусульман-шыітаў
КЕРДЭЙ Ян, гісторык і адміністратар, БД 212
КЕРДЭЯ ПЕРАПІС ТАТАРАЎ ( 1624 — 1631 ), БД 212, 219
КЕРЫМ-БЕРДЫ, хан, гл. у арт. Залатая Арда
КЕРРУБЕЙ, к е р у б і л е р , к е р у в в а , ангелы
КЕРЫМУЛЛАГ
КЕРРЭ, раз
КЕРЭЯ, к е р э й к а , сукня, падшытая футрам, Г, Т.3 30
КЕСА, к е с к а , кішэня, Г, Т.3 30
КЕУБЕ, гл. Кааба
КЕЎСЕР, назва крыніцы у раі, нектар — смачны напітак
КЕФ, назва літары К
КЕФЭН, к е ф і н , саван, у які загортваюць памерлага
КЕЦА, к е ц к а , плашч, Г, Т.3 228
КІБЕК, Б е с т а б у л а - К і б е к , хан, гл. у арт. Залатая Арда
КІБЛА, К ы б л а , напрамак на аль-Каабу
КІВЕР, к і в е р а к , галаўны убор, Г, Т.3 31
КІЕЎСКАЕ КНЯСТВА
КІЗ, к ы з , дачка, дзяўчына, кабета
КІЛІМАК, к і л і м , невялікі дыванок, Г, Т.3 30
КІЛЬДЗЯРОВІЧ Багдан, маршалак Ялаірскі, ЯТ 198
КІМІЕЙ, магія, хімія
КІПЧАКІ, к ы п ч а к і , к у м а н ы , цюркскі народ, продкі татараў
КІПЧАЦКАЯ МОВА, БД 258; ЯТ 145 — 149, 202, 230
КІР, к е р , сукно, Г, Т.3 30
КІРАА, а л - К і р а л а , рэцытацыя асобных частак усяго

КУББАТ АС-САХРА, мячэць з купалам у Іерусаліме

КУБЕЙС, назва скалы на захад ад Меккі

КУЙБАК, прэтэндэнт на ханскі пасад, гл. Залатая Арда

КУРДЫ, народ

КУЛІКОЎСКАЯ БІТВА, ЯТ 120

КУЛЬБАКА, татарскае сядло, Г, Т.3 116

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКАЕ ЗГУРТАВАННЕ ТАТАРАЎ РЭЧЫПАСПАЛІТАЙ ПОЛЬШЧЫ, БД 159; АМ 46

КУМГАН, начынне для вады, жбан

КУРАЙШ, а л ь - К у р а й ш, 106-я сура з Кур"ана

КУРАЙШЫТЫ, к у р э й ш ы, род, з якога паходзіць прарок Мухаммед

КУР"АН, а л ь - К у р а н, а л ь - Ф у р к а н, а л ь - К і т а б, свяшчэнная кніга мусульман

КУР"АН ХАЛІФА УСМАНА, БД 146 — 147

КУРАННЕ, магічнае лячэнне, БД 191

КУРБАН, к у р б а н л ы к, ахвяра

КУРБАН-БАЙРАМ, гадавое свята, АМ 100; БД 191

КУРБАНЛЫК, тое, што курбан

КУРДАШ, к а р д а ш, добры прыяцель, Г, Т.3 120

КУРМАНОВІЧ, татарскі князь у ВКЛ

"КУНІЧНЫ" ПАДАТАК, БД 63

КУРС, к і у р, к і у р с, трон Аллага

КУРУЛТАЙ, з"езд у цюркаў, заканадаўчы орган

КУРКЛАРЫ, К ы р к л а р ы, вёска у Летуве, гл. Сорак Татары

КУРЭЙШЫ, гл. Курайшыты

КУТЛУГБЕК, гл. у арт. Залатая Арда

КУТЛУГ ЦІМУР, хан, ЯТ 133, гл. у арт. Залатая Арда

КУТЛУМ-БАЙРАМ, святочнае віншаванне

КУТТАБ, м а к т а б, гл. Мектэб

КУФ, нявер"е

КУХНЯ ТАТАРСКАЯ, Г, Т.3 111

КУЧМА, лямцавая шапка накшталт магеркі, Г, Т.3 114

КУШЛУГ, к у ш л ю к, поўдзень

КЫБЛА, К у б л а, напрамак на Мекку

КЫЗ, гл. Кіз

КЫРК-ТАТАР, татарская вёска у Летуве, гл. Сорак Татар

КЫЯМ, пастава першага ракаату

КЫЯМЕТ, канец свету

КЯЗБЕК Стафан, падпалкоўнік, АМ 36

КЯСРА, значок пад літарай

КЯФ, літара, якая азначае мяккі гук К

КЯФІР, гл. Кафір

# ПРОБНЫЯ АРТЫКУЛЫ ДЛЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА "ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ"

АЛЕКСАНДРОВІЧ Сцяпан, беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, крытык і краязнавец. Доктар філалагічных навук ( 1972 ), заслужаны работнік культуры Беларусі ( 1984 ). Нарадзіуся у татарскай сям"і 13.12.1921 у гар. пасёлку Капыль у Фацімы (з Барановічау) і Хусейна, якія выгадавалі Самуіла (загінуу на фронце у Айчынную вайну ) і Аніфу.

Пасля заканчэння Капыльскай сярэдняй школы Сцяпан Хусейнавіч паступіу ( 1939 ) на філфак БДУ, які скончыу у 1950. У самым пачатку вучобы быу прызваны у Чырвоную Армію. У час Вялікай Айчыннай вайны быу у Іране, затым прымау удзел у Керчанска--Феадасійскай аперацыі і узяцці Керчы і Феадосіі. Быу цяжка паранены ( 16.5.1942 ) і узяты у палон ( 24.5.1942 ). Уцёк у жніуні 1942, вярнууся на радзіму. 3 мая 1943 сувязны партызанскай брыгады імя Чапаева № 27 ( Капыльскі раён ), выканау некалькі заданняу.

З 1944 выкладау беларускую мову і літаратуру у Беніцкай сямігадовай школе Маладзечанскага раёна, затым у Чаваельненскай сярэдняй школе Дзятлаускага раёна, у Навагрудскай сярэдняй школе № 1. У 1950 пабраусь з Марыяй Лукінічнай Шклянік, выгадавау з ёю дачок Вольгу і Ірыну.

У 1953 — 1958 працавау выкладчыкам бібліятэчнага тэхнікума у Менску. У 1958 — 1963 старшы навуковы супрацоунік Інстытута літаратуры АН БССР і музея Якуба Коласа. З 1963 дацэнт, з 1974 прафесар БДУ. Узнагароджаны ордэнамі Айчыннай Вайны II ступені, Славы III ступені, медалямі, Ганаровай граматай Вярхоунага Савета БССР. Памёр 1.5.1986 у Менску, пахаваны на Пауночных могілках.

С.Х.Александровіч даследавау гісторыю беларускай літаратуры у міжславянска-беларуска-балтыйскім і агульнаеурапейскім гісторыка-культурным кантэксце. У працы "Пуцявіны роднага слова" ( 1971 ) прааналізавау працэс станаулення новай беларускай літаратуры у 2-й палавіне 19 — пачатку 20 ст. паралельна з зараджэннем і развіццём нацыянальнага кнігадрукавання і перыёдыкі. Паказау ролю друкаванага слова у абуджэнні беларускай

літаратурнай мовы, абудженні і актывізацыі нацыянальнай, сацыяльна грамадскай свядомасці, вызваленчага руху народа, а таксама традыцыі узаемадзеяння дэмакратычных, нацыянальна-адраджэнцкіх сіл Беларусі з аналагічнымі рухамі Расіі, Украіны, Літвы і Польшчы ( у процівагу каланіялісцка-русіфікатарскаму курсу царскіх улад, афіцыйнаму буржуазнаму друку ). Узнавіу цэласную карціну беларускіх перыядычных выданняу і выдавецкіх суполак, таварыствау, паказау іх ролю у ідэйна-мастацкім і жанравым росце айчыннай славеснасці, сталенні нацыянальна тэатра, музыкі, журналістыкі, у паглыбленым вывучэнні фальклору, этнаграфіі і усёй культуры Беларусі. У кнізе "Вальнадумца з-пад Нясвіжа Аляксандр Незабытоускі" ( 1975 ) раскрыу маловядомыя падзеі з гісторыі беларуска-польскіх літаратурных грамадска-палітычных сувязяу у 1840-я гады; на лёсе рэвалюцыйнага дэмакрата Незабытоускага прасачыу эвалюцыю мясцовай, у большасці паланізаванай, інтэлігенцыі ад польскага патрыятызму да свядомага падзвіжніцтва на карысць беларускага народу. Спецыяльныя распрацоукі прысвяціу жыццю і дзейнасці Ф.Скарыны, гісторыі народніцкага "Гомана", газеты "Наша доля" і "Наша ніва", сувязям Я.Купалы з польскай літаратурай, А.Міцкевіча, Т.Шаучэнкі, Я.Райніса з Беларуссю і беларускай культурай. Вывучау літаратурна-палітычную біяграфію Ц.Гартнага ( З.Жылуновіча ), яго уклад у справу нацыянальна-дзяржаунага самавызначэння Беларусі у 1918 — 1919 . Плённа развівау гісторыка-літаратурныя жанры: пісьменніцкую біяграфію, літаратурнае падарожжа, літаратурна-краязнаучае эсэ. Для створаных Александровічам партрэтау беларускіх пісьменнікау ( П.Багрым, Ф.Савіча, Ф.Багушэвіча, К.Каганца, Я.Купалы, Я.Коласа, Цёткі, З.Бядулі, К.Чорнага, М.Танка і інш. ) уласцівы глыбокі гістарызм, жыццёвая праудзівасць. Дзейсна прычыніуся да узбагачэння крыніцазнаучай і тэксталагічнай базы па гісторыі беларускай літаратуры, літаратурнай крытыкі і грамадскай думкі (хрэстаматыі "Беларуская літаратура XIX ст.", 1971 і "Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст.", 1978; "Публіцыстыка беларускіх народнікау" 1983; "Успаміны пра Цішку Гартнага", 1984, усе у сааутарстве ). Надавау прынцыповае значэнне метадалогіі даследаванняу, палеміз вау з некаторымі рускімі, польскімі аутарамі ( "Недакладнасць ці устарэлыя погляды ?", 1958; "У слауным месце Віленскім", 1963, у сааутарстве ) за іх анты-

гістарычны падыход да паняццяў "Русь", "рускі", "Літва", "літоўскі", штучнае атаясамліванне з вялікарускай або літоўскай культурамі здабыткаў уласна беларускай культуры, дасягнутых пад гэтымі ж назовамі ў розныя эпохі. Творчая спадчына Александровіча увасобіла добры прыклад спалучэння літаратуразнаўства і гістарыяграфіі з іншымі сумежнымі і дапаможнымі навукамі.

Бібліяграфія твораў С.Х.Александровіча надрукавана ў кнізе Беларускія пісьменнікі. Біябібліяграфічны слоўнік, Т.І, С.65-69; Мн., БелЭН, 1992.

БЕРБЕРЫ, амазіг, амахаг ( саманазва — "чалавек" ), група народаў, карэннае насельніцтва Паўночнай Афрыкі. Жыве ў Марока ( рыф, шыльх і тамазігхт, тыфа, паўднёваберберскія берберы і інш., галоўным чынам у гарах Эр-Рыф і Атласа ), у Алжыры ( берберы аазісаў, шауйя, кабілы, мзаб, уаргла і інш. ), на поўдні Туніса ( джэрба, сенед і інш. ), у Лівіі ( нефуса, гхадамсі, феззан, ауджыла, сакана ) , Егіпце ( сіва ); групы берберау-туарэгаў — у Алжыры, Малі, Нігеры, Нігерыі і інш., берберы — зенага — у Маўрытаніі. Колькасць берберау звыш 10,5 млн. чалавек. Належаць да індасерадземнаморскай расы вялікай еўрапеоіднай расы.

Берберскія ( лівійска-берберскія ) мовы уваходзяць у склад лівійска-грэчаскай групы афразійскай сям"і. Да берберскай моваў належаць: паўночна-берберскія — падгрупы ташальхіт, тамазігхіт, або берберская, зенецкая ( шауйя, рыф, сенхажа, сізаб і інш ), кабільская; усходне-берберская лівійская ( ауджыла, гхадамсі, сіва і інш. ); паўднёва-берберская, або туарэгская ( гхат, або ахакгар, таулемет і інш. ); усходне-берберскія зенагскія ( гумжажэн, тэндха і інш. ). Вылучаюцца дыялекты і гаворкі. Пашыраны таксама арабская і французская мовы. Пісьмо пераважна на аснове лацінскага алфавіту.

Берберы — у асноўным мусульмане-суніты, ёсць харыджыты і бадзиты; у Марока ёсць іудаісты ( амаль усе выехалі ў Ізраіль ).

Продкі берберау — лівійцы, якія жылі на захад ад Егіпта, упамінаюцца ў старажытнаегіпецкіх надпісах. Этнонім берберы паявіўся пасля арабскага заваявання Магрыба ( 7 — 8 стст. ) і, магчыма, паходзіць ад грэчаскага слова "варвары". Нягледзячы на векавыя працэсы арабізацыі і ісламізацыі, зберагаюць этнічную самасвядомасць.

Асноўная частка берберау — сельскае насельніцтва, ёсць напаукачэунікі і качэунікі. Асноуны занятак аселых і напаукачэуных берберау — земляробства ( ячмень, пшаніца, сачавіна, фінікавыя пальмы, масліны, фігавыя і міндальныя дрэвы ) і жывёлагадоуля, качэунікау — жывёлагадоуля ( вярблюды, авечкі, козы, радзей — буйная рагатая жывела, у Егіпце і Алжыры — конегадоуля ). Летам качэунікі жывуць у гарах у палатках, зімою спускаюцца у даліны у пошуках пашы для жывёлы. Берберы аазіса Сіва займаюцца вытворчасцю аліўкавага алею. Развіты рамёствы — пляценне цыновак, выраб розных рэчау са скуры, выраб зброі; кавальская справа характэрна для усіх груп берберау ( акрамя туарэгау ). Ганчарствам займаюцца звычайна жанчыны. Пашырана адыходніцтва. Частка берберау занята у прамысловасці ( асабліва у Марока і Алжыры ).

Вёскі выцягнуты уздоуж берагоу рэк або маюць кругавую планіроуку. Жыллё некалькіх тыпау: у качавых і напаукачавых берберау самы старадауні — гэта шалаш, пакрыты аучынамі авечак і коз, радзей пальмавымі лістамі; у туарэгау Імрада пашыраны агульнасахарскі тып каменнага і глінабітнага жылля з плоскім дахам, у берберау Марока, Алжыра, Лівіі, Туніса — авальныя напаузямлянкі-гурбі са сценкамі з каменю і гліны; у берберау заходняга Марока з каменю з конусападобным дахам, у пауднёвым Тунісе — прамавугольныя дамы з бочкападобнымі зводамі.

Мужчынскі касцюм — прасторная бавауняная рубаха без рукавоу, шырокія порткі, бурнус з рукавамі, скураныя сандалі; жанчыны убіраюцца у закрытыя сукенкі, бранзалеты з напаукаштоуных камянёу, упрыгожанні у валасах, твар не хаваюць. Верхняе адзенне — шарсцяное пакрывала ( даккалі ).

У берберау Марока, Алжыра і Туніса пашыраны патрыярхальныя адносіны. Насельніцтва вёскі складаецца з 3 — 4 вялікіх сямей па 15 — 20 чалавек. Некалькі вёсак аб"ядноуваецца у акругу, главы сямей складаюць раду акругі, якая займаецца знешнімі сувязямі і арганізацыяй рынку. Зямля у калектыуным карыстанні, рада займаецца яе размеркаваннем. Існуюць касты. Пашыраны культ святых. Захоуваюцца перажыткі дамусульманскіх вераванняу і абрадау. Развіты народная медыцына, фальклор ( песні, казкі, эпас ).

БУХАРЫ, а л - Б у х а р ы , Мухаммед б.Ісмаіл Абу Абдаллаг ал-Джуфі ( 810 — 870 ), славуты суніцкі мухаддзіс-традыцыяналіст. Нарадзіўся у сям"і іранскага паходжання у Бухары, памёр у населеным пункце Хартанка ( паблізу Самарканда ). Пачаў вывучаць хадзісы з 10-гадовага узросту, выказаў выдатныя здольнасці і надзвычайную памяць. На працягу многіх гадоў ён падарожнічаў па розных правінцыях Халіфата ( Хіджас, Егіпет, Ірак, Харасан ). Як паведамляюць даследчыкі, ён слухаў хадзісы больш чым у тысячы шэйхаў ( старэйшын родаў ). Бухары паставіў сабе мэту сабраць усе сапраўдныя ( сахіх ) паданні пра выслоўі і учынкі Мухаммеда. Праявіўшы уласцівы мухаддзісам таго часу крытыцызм, Бухары спраўдзіў, як перадаюць, 600 тыс. хадзісаў, якія тады былі у хаду, і, акрамя таго, яшчэ 200 тыс., якія ён сам запісаў у сваіх настаўнікаў і інфарматараў. З гэтай вялікай колькасці паданняў Бухары выбраў у якасці беззаганных толькі каля 7400 хадзісаў. З іх ён уклаў збор ал-Джамі ас-сахіх, які звычайна коратка называюць ас-Сахіх. Гэтая кніга адметная тым, што яна з"яўляецца першым зборнікам хадзісаў, складзеных па прынцыпу м у с а н н а ф , г.зн. з класіфікацыяй хадзісаў па сюжэтах ( а л а - л - а б в а б у адрозненне ад зборнікаў тыпу м у с н а д , дзе хадзісы класіфікаваны па іменах ранніх перадатчыкаў — а л а - р - р ы д ж а л ). Прынцып Бухары дазволіў істотным чынам пашырыць кола паданняў: уключыць хадзісы самага разнастайнага зместу — юрыдычныя, гістарычныя, біяграфічныя, этычныя, медыцынскія. Свае зборы хадзісаў ён падзяліў на 97 кніг з 3450 раздзеламі ( назва кожнага раздзела вызначае тэму размешчаных у ей хадзісаў ), якія маюць 7397 хадзісаў з поўным існадам.

Звод ас-Сахіх Бухары ужо сучаснікамі быў прызнаны выдатным настаўленнем па фікху і да X ст. заняў, нягледзячы на крытыку некаторых прыватных пытанняў, поруч з ас-Сахіхам Мусліма першае месца сярод зборнікаў суніцкай традыцыі ( гісторыі ). Для большасці сунітаў ас-Сахіх Бухары стаў другой кнігай пасля Кур"ана.

Бухары вядомы таксама як укладальнік аўтарытэтнага збору біяграфій перадатчыкаў хадзісаў — ат-Тарых ал-кабір, складзенага ім у некалькіх рэдакцыях. Сярод іншых яго твораў трэба назваць яшчэ пакуль слаба вывучанае тлумачэнне Кур"ана — Тафсір ал-Кур"ан.

КАРАУІН, аль-Караун, старажытная вядомая мячэць і мусульманскі універсітэт у Марока, у горадзе Фес ( за 170 км на усход ад сталіцы дзяржавы — Рабат, каля 0,5 млн. жыхароу ) Мячэць размешчана у старой частцы горада, якая вядома пад назвай Фас аль-Балі. Ёсць паданне, што мячэць заснавана у 859 г. Фатымой Умм аль-Банін, дачкой багатага купца з Карауіна, Мухаммеда ібн абу Абдаллага аль-Фіхры, які прыбыу у Фес з групай выхадцау з горада Карауін, што уцякалі ад праследаванняу з боку Агхлабідау. Ад заснаванага імі на тэрыторыі горада Фес прыгарада Мадынат аль-Карауін паявілася назва мячэці.

Першапачатковы план мячэці Карауін — невялікі прастакутнік памерам 32 х 37 м. У наступных стагоддзях мячэць была павялічана. Работамі заняуся эмір племя Зената — Ахмад ібн Абу Бакр аз-Зенаты. Халіф Абд ар-Рагман Ш падараваў значную суму на пашырэнне мячэці. У 934 г. зноу пашырана мячэць ( з боку усходняй, заходняй і паўночнай сцяны ). Далейшае пашырэнне мячэці зроблена па загаду улад дынастыі Альмаравідау, Юсуфа ібн Ташфіна у 1137 г.

У канструкцыі стыля і дэкарацыі мячэці відаць уплывы Афрыкі, галоўным Туніса ( мячэць Сіды Акба, 7 ст. у горадзе Кайруан ) і з арабскай Іспаніі. Унутраны панадворак мячэці размешчаны упоперак галоунай восі. Ён акружаны радамі калон з цэглы, якія утвараюць адзін неф з боку увахода і па чатыры нефы з абодвух бакоу, паралельна галоунай восі мячэці. Чацвертым бокам гэта вялікая зала малітвау. Утварае яна галоуны сярэдні неф, размешчаны па восі, а таксама 10 нефау па абодвух яе баках. Напрамак бакавых нефау адрозніваецца ад іншых мячэцяу, а менавіта, яны размешчаны упоперак галоунай восі — Кыбле ( напрамак на Мекку ). Навізной з"яуляецца таксама выкарыстанне унутры калон з цэглы замест каменных калон. Бясспрэчна гэта уплыу, які ідзе з Малой Азіі. Галоуным упрыгожаннем унутры залы малітвау з"яуляецца 5 купалоу, узведзеных над сярэднім нефам. Уяуляюць яны сабою папераменна сістэму сталактытау і сістэму рэбрау. Увагі заслугоувае выключнае багацце сталактытавых формау гэтых купалоу, якія выходзяць далёка за канструкцыйную функцыю. Характэрны для гэтай мячэці таксама падковападобныя аркі у стылі мячэці Амейядау у Кордаве ( Іспанія ). Мінарэт узведзены на іспанскі манер квадратнай у плане вежай, за-

вершанай купалам накшталт архітэктуры Кайруана у Тунісе.

З пачатку свайго існавання мячэць Карауін стала цэнтрам мусульманскай навукі, рэлігійнага права і тэалогіі. Падобна таму, як універсітэт аль-Азгар у Егіпце ( гл. Азгар ) на арабскім усходзе, так універсітэт Карауін у Магрыбе высунууся уперад як навуковая і навучальная установа.

Ва універсітэцкай дзейнасці Карауіна вылучаюцца 3 перыяды развіцця: першы, які уключае гады 859 — 1250, прыпадае на прауленне Ідрысідау, эмірау Зената, Альмаравідау і Альмахадау; другі — гады 1250 — 1665 — прыпадае на прауленне Мерынідау, Уатасідау і дынастыі Сады; перыяд трэці, ад 1665, гэта значыць ад праулення дынастыі Алавітау, доужыцца цераз перыяд французскай акупацыі да навейшых часоу.

У першы перыяд навука у Карауіне ажыццяулялася на усходні манер, у гуртках, так званых халакат: прафесары і вучні збіралiся разам, чыталі арабскія класічныя працы і каментарыі да іх, дыскутавалі. У Фес у гэты перыяд прыязджалі шматлікія вучні з арабскай Іспаніі і усходняй часткі Пауночнай Афрыкі. У гады праулення Альмаравідау пабольшала людзей, якія цікавіліся навукай — Юсуф ібн Ташфін пабудавау першае медрэсе, пашырыу кола зацікауленых вучоных, вывучалі ( раней забароненыя ) працы вялікіх арабскіх філосафау персідскага паходжання.

Яшчэ больш клопат аб развіцці навукі праявілі эміры з роду Альмахадау: будавалі школы, пераймаючы традыцыі усходніх дынастый, падтрымлівалі філасофскія заняткі. У іх палацах пабывалі самыя вядомыя філосафы тых часоу — Ібн Туфалі і Ібн-Рушд. Карауін, згодна з думкай дасведчаных людзей тых часоу, быу добра арганізаваным універсітэтам.

З самага пачатку свайго існавання шэфам універсітэта быу к а д ы горада, які быу рэктарам ( амід аль-джаміа ), які кіравау навуковымі справамі, запрашау і кантралявау прафесарау, курыравау адміністрацыю і бюджэт. У другі перыяд, калі пачалося прауленне шляхетнай дынастыі Мерынідау, універсітэт Карауін быу поунасцю рэарганізаваны, навучанне стала праводзіцца па устаноуленым плане. Правіцелі Мерыніды былі фундатарамі шматлікіх вышэйшых інстытутау, медрэсе ( у Магрыбе яны называліся мадарса)

з якіх самымі вядомымі былі: Саффарын ( 1285 г. ), Фас Джадыд ( 1321 г. ), Сахрыдж ( 1321 г. ), Аттарын ( 1325 г. ), Місбахійййа ( 1346 г. ), Бу-Інанійййа ( 1385 г. ) і інш. Медрэсе гэтыя былі як бы факультэты Карауіна. Пашырылася кола вывучаемых дысцыплін. Акрамя рэлігійных навук і права тут усё часцей вывучалі свецкія навукі: гісторыю, літаратуру, прыродазнаучыя навукі, філасофію і медыцыну. Усе медрэсе-факультэты мелі свае аудыторыі. Зямельныя уладанні ( вакуфы ) забяспечвалі іх матэрыяльнае існаванне. З медрэсе былі спалучаны бібліятэкі. Галоуная бібліятэка Карауіна была заснавана у 1350 г. і мела пастаянных бібліятэкарау. Мерыніды куплялі ва усіх краінах ( гал. чынам у арабскай Іспаніі ) каштоуныя рукапісы навуковых прац. Бібліятэка набыла вялікую славу у свеце і яшчэ і цяпер мае шмат каштоуных унікальных арабскіх рукапісау. Асабліва слауным было праупенне Абу Інана, будауніка медрэсе і апекуна вучоных. Найбольш славутыя вучоныя таго часу -- гэта Ібн аль-Хатыб, вучоны візір каралёу Гранады, вучоны гісторык Ібн Халдун. У гэты перыяд вучоба доужылася 7 гадоу, вывучаліся ж наступныя дысцыпліны: талкаванне Кур"ана, традыцыя ( паданні, г.зн. Хадзіс ), права ( фікх ) граматыка, рыторыка, логіка, прасодыя ( правілы вершаскладання ), матэматыка, астраномія, метафізіка, містыка ( тасаввуф ), філасофія, прыродазнаузтва, медыцына, фармакалогія, гісторыя, геаграфія і філалагічныя навукі, уключна з літаратуразнауствам.

Трэці перыяд развіцця універсітэта Карауін пачауся разам з прауленнем Алавітау, руплівых апекунау вучоных. Карауін у ХУП і ХУШ стст. развівау сваю дзейнасць у калектывах інстытутау-медрэсе. Гэта навучальная усстанова была не толькі цэнтрам навукі, але таксама і палітычнай дзейнасці, дзейнай патрыятычнай школай, якая аб"ядноувала прадстаунікоу розных груп: вышэйшыя слаі, рамеснікау і купцоу, вясковую эліту. Універсітэт падтрымлівау Алавідау у іх барацьбе з феадаламі. Паказчыкам вялікай сымпатыі манарха да студэнтау была цікавая традыцыя абрання "караля студэнтау", пачатая па ініцыятыве султана Маулая ар-Рашыда. У час летніх канікул студэнты выбіралі сабе караля і прымалі фармальна уладу у дзяржаве на перыяд 15 дзён. Кароль студэнтау у эсэнцы свайой світы сустракауся з сапраудным гаспадаром дзяржавы, які быу у кампаніі міністрау і іншых уплывовых чыноунікау.

Ёсць звесткі, што у гэты час у Караўіне было да сотні розных "кафедр", размешчаных у розных філіялах універсітэта. У мячэці Караўін было 20 кафедр. Кожная кафедра мела свайго прафесара і сваю бібліятэку. Спосаб навучання і аб"ём ведаў і інтарэсаў, аднак, сярэднявечныя. Першыя спробы мадэрнізацыі навучальнай установы былі распачаты у канцы XIX ст. З гэтай мэтай султаны, напрыклад, пасылалі моладзь на вучобу на арабскі Усход і Еўропу. Вядомы ў гісторыі Марока султан Мулай Хасан ( 1873 – 1894 ) накіраваў групу прафесараў і студэнтаў у Егіпет і еўрапейскія краіны для азнаямлення і вывучэння сучасных навук і метадаў выкладання. XIX ст. было апошнім этапам Караўіна як навучальнай установы даўняга тыпу.

Хуткія змены ў кірунку мадэрнізацыі універсітэта Караўін наступілі пасля устанаўлення у 1912 г. пратэктарату над Марока. Ужо у 1914 г. была створана спецыяльная рада, якая пераняла упраўленне універсітэта з рук кадыя. Рэарганізацыя навучання на еўрапейскі манер ажыццёўлена ў 1931 — 1932 гадах. Створаны статут ( нізам ), паводле якога уведзена трохступенчатае навучанне: пачатковае ( 3 гады ), сярэдняе ( 6 гадоў ) і вышэйшае ( 3 гады ). Вышэйшая ступень мела 2 секцыі: рэлігійную ( дзін ) і літаратуразнаўчую ( адабі ). Распрацавана праграма лекцый згодна з раскладам гадзін, як і у еўрапейскіх інстытутах. Уключаны у праграму сучасныя навуковыя дысцыпліны, абмежавана таксама перавага прававедчай навукі.

Ад часу аднаўлення незалежнасці Марока у 1956 г. універсітэт Караўін быў падпарадкаваны міністэрству асветы, як і іншыя вышэйшыя навучальныя установы ў краіне. Заканчэнне вучобы ва універсітэце адзначаецца атрыманнем выпускнікамі дыплома а л і м а ( улема, вучонага ). У 1957 першая група дзяўчат атрымала дыпломы аліма. У 1960 г. утвораны факультэт права ( шарыят ), падпарадкаваны адміністрацыйна універсітэту у Рабаце. Факультэт мовы і літаратуры універсітэта Караўін знаходзіцца у г.Марракеш. Захаваўся таксама у Караўіне сярэдні курс, які адпавядае ліцэю; уключае ён 3 секцыі: літаратурную, прававую і навуовапрактычную. Рыхтуе моладзь для паступлення ва універсітэт.

КРАЧКОЎСКІ Ігнацы Юліянавіч ( 16.3.1883, Вільня — 24.I.1951 ), выдатны ўсходазнавец-арабіст. Бацька яго быў дырэктарам Настаўніцкага інстытута ў Вільні. У 1905 г. Ігнацы Юліянавіч скончыў факультэт усходніх моў Санкт-Пецярбургскага універсітэта і быў накіраваны на вучобу — падрыхтоўку да прафесарскай дзейнасці. У 1908 — 1910 гг. удасканальваў свае веды па жывой арабскай мове і літаратуры ў Сірыі і Егіпце. З 1910 г. прыват-дацэнт, з 1915 г. магістр усходняга моваэнаўства ( тэма дысертацыі: Абу-л-Фарадж ал-Вава Дамаскі ). Доктар філалагічных навук ( 9.II.1921) і прафесар ( 1921 г. ). Сапраўдны член АН СССР ( 1921 г. ), Лаўрэат Сталінскай прэміі I ступені ( 1951 г., прадстаўлены пры жыцці, званне нададзена пасля смерці ), за навукова-папулярную працу "Над арабскімі рукапісамі". Выкладчык ( з 1910 г. ) Пецярбургска-Ленінградскага універсітэта, Ленінградскага усходняга інстытута жывых усходніх моў — Ленінградскага усходняга інстытута, загадчык кафедры арабскай філалогіі усходняга факультэта Ленінградскага дзяржаўнага універсітэта ( 1944 — 1951 ), навуковы супрацоўнік Азіяцкага музея — Інстытута усходазнаўства АН СССР, загадчык Арабскім кабінета ( 1916 — 1951 ). Старшыня камісіі АН СССР па упраўленні ленінградскімі навуковымі установамі ў гады блакады Ленінграда. Узнагароджаны двума ордэнамі Леніна, медалямі. Надрукаваў каля 500 пра". Член Арабскай Акадэміі ( Дамаск ), Польскай АН, ганаровы член Іранскай акадэміі і Каралеўскага азіяцкага таварыства Вялікабрытаніі і Ірландыі, ганаровы член Нямецкага ўсходазнаўчага таварыства, сапраўдны член Фламандскай Акадэміі ( Брусель ).

Першыя лекцыі пра Кур"ан І.Ю.Крачкоўскі чытаў у 1915 і 1916 гадах. Сістэматычную працу над перакладам Кур"ана пачаў у 1921 г у сувязі з тым, што чытаў курс лекцый на Факультэце усходніх моў. У асноўным скончыў працу над перакладам Кур"ана ў 1930 г., хоць праца яго над гэтым помнікам арабскай літаратуры не спынялася да апошніх дзён жыцця. У 1946 г. быў надрукаваны рускі пераклад Кур"ана, затым перавыдадзены ўжо пасля смерці вучонага у 1963 і 1986. У 1990 г. пераклад Кур"ана І.Ю.Крачкоўскага надрукаваны ў Менску.

Адметным у даследаванні і перакладзе Кур"ана было тое, што да Кур"ана І.Ю.Крачкоўскі адносіўся перш за ўсё як да помніка

арабскай літаратуры. Крачкоускі ведау пераклады Кур"ана на еурапейскія мовы, на турэцкую мову, ведау і высока цаніу пераклад Кур"ана з арабскага арыгінала, які зрабіу Г.С.Саблукоу і апублікавау у 1878 г. У 1910 г. Крачкоускі пазнаёміуся з рукапісам Кур"ана Пскоускай духоунай семінарыі. Кур"ан быу напісаны на польска-беларускай мове. Крачкоускі зазначыу, што рукапіс варты увагі спецыялістау.

І.Ю.Крачкоускі мае вялікія заслугі у вывучэнні арабскай літаратуры, арабскай культуры у Іспаніі, арабскай пісьменнасці на Паунючным Каукaзе, эфіопскай філалогіі.

КУР"АН, святое Пісанне, пасланае Мухаммеду-Прароку. Пасылауся Кур"ан паступова, часткамі і складаецца з раздзелау, якія у сваю чаргу складаюцца з вершау, або па-арабску аятау.

Па меры таго, як пасылауся Кур"ан, захоувауся ён у памяці паплечнікау Прарока; запісвалі яго таксама на касцях і скурах жывёл і на галінах пальмы. Так было да канца жыцця Прарока. Пасля яго смерці, у час праулення халіфа Абу Бакра, пачаліся паустанні асобных родау і пры уціхамірванні бунтаушчыкоу загінула на полі бою многа паплечнікау Прарока, якія знялі Кур"ан на памяць так званых курра ( цяпер чалавека, які ведае на памяць цэлы Кур"ан, называюць гафіз ). Пагражала небяспека, што у далейшых баях могуць загінуць усе гафізы, а з імі і Кур"ан. Тады за парадай Умара-ібн-Хаттаба ( Амар - ібн - Хаттаб ), будучага халіфа ( пасля смерці Абу Бакра яго выбралі халіфам ), было вырашана сабраць Кур"ан у адну кнігу. Для гэтай працы быу абраны Зейд-ібн-Сабіт ( Зайд-ібн-Сабіт ), былы сакратар Прарока, а таксама запісы на касцях жывёл, на скуры, пальмавых галінах, плоскіх камянях, якія у тыя часы, пры браку паперы, служылі для запісау.

Кожны аят запісвауся не інакш, як са сведчанняу двух гафізау, пакуль не быу запісаны увесь Кур"ан. Пасля сканчэння працы Зейд-ібн-Сабіт аднёс Кур"ан да халіфа Абу Бакра, у якога Кур"ан захоувауся аж да яго смерці ( 634 г. ) Пасля Кур"ан узяу на захаванне наступнік Абу Бакра — халіф Умар-ібн-Хаттаб, а пасля яго смерці ( 644 г ) Кур"ан перайшоу да яго дачкі Хафсы ( Гафсы ), жонкі Прарока.

У час халіфа Усмана ( Асмана ), калі пашырыліся заваяванні мусульман, было вырашана напісаць некалькі паасобнікау Кур"ана

для таго, каб разаслаць у заваяваныя краіны. Да гэтай працы паутoрна быу запрошаны Зейд-ібн-Сабіт, якому у дапамогу было дадзена некалькі паплечнікау Прарока. Яны склалі суры Кур"ана у такой паслядоунасці, як мы гэта бачым у сучасных Кур"анах. Адзін паасобнік такога Кур"ана быу адасланы у Куфу ( горад Эль-Куфа у Іраку, у правінцыі Кербела ), другі у Басору ( горад Басра у Іраку ), трэці у Сірыю. Адзін паасобнік (мяркуюць—два паасобнікі ) застауся у Медыне.

Кур"аны таго часу былі напісаны так званым куфічным пісьмом, без кропак і значкоу, якія спачатку былі не патрэбны, бо паплечнікі Прарока тэкст Кур"ана разумелі і чыталі без памылак. Але пазней пачаліся розныя чытанні Кур"ана і каб пакласці гэтаму канец, увялі кропкі і значкі, якія давалі аднолькавае чытанне для ўсіх. Пасля, замест куфічнага пісьма, уведзена было пісьмо "нэсх" ( насх ), з больш выразным адрозненнем літар з дапамогай кропак і значкоу-галосных.

З цягам часу пісьмо паступова нармалізавалася, рабілася больш прыгожым і прыняло форму, якую маюць пазнейшыя рукапісы Кур"ана.

Як ужо было згадана раней, Кур"ан складаецца з сурау, якія носяць назву мекканскіх і медынскіх, у залежнасці ад месца аб"яулення пэунай суры ( калі сура завяршылася у Медыне, то яе лічаць медынскай, хоць многія аяты былі аб"яулены Прароку у горадзе Мекка — заувага рэд. )

Усіх сур у Кур"ане II4, з якіх першая سُورَةُ فَاتِحَةِ الْكِتَابِ г.зн. сура, якая адкрывае кнігу Кур"ан.

Для аблягчэння чытання Кур"ана па памерлых і для больш лёгкага арыентавання у яго змесце, Кур"ан быу падзелены на 30 роуных частак, па-арабску: جُزْءٌ — джуз, па-мясцоваму: суфра. Кожная I/30 частка Кур"ана, кожны جُزْءٌ акрамя таго быу падзелены на чатыры роуныя часткі, па-арабску حِزْبٌ — гізб — так што ва усім Кур"ане маем I20 роуных частак, ці гізб ( па-мясцоваму хызб ).

Брацца за Кур"ан можна толькі у чыстым стане, г.зн. пасля абмывання, як перад малітвай ( намазам ). У Кур"ане сказана ( Сура 56, аят 78 ): لَا يَمَسُّهُ إِلَّا الْمُطَهَّرُونَ "да яго ( Кур"ана ) дакранаюцца толькі чыстыя. Перад тым, як чытаць

трэба промовіць: أَعُوذُ بِاللّٰهِ مِنَ الشَّيْطَانِ الرَّجِيمِ "няхай Аллат абароніць мяне ад шайтана праклятага" ( літаральна: пабітага камянямі ). Трэба гэта рабіць згодна з тым, што сказана у Кур"ане ( Сура 16, аят 100 ): فَإِذَا قَرَأْتَ الْقُرْآنَ فَاسْتَعِذْ بِاللّٰهِ مِنَ الشَّيْطَانِ الرَّجِيمِ што азначае: "Калі чытаеш Кур"ан, то прасі у Аллага абарону ад праклятага шайтана".

А калі чытаюць Кур"ан, то трэба слухаць з набожнасцю, як аб гэтым сказана у Кур"ане ( Сура 7, аят 203 ) :

وَإِذَا قُرِئَ الْقُرْآنُ فَاسْتَمِعُوا لَهُ وَأَنْصِتُوا لَعَلَّكُمْ تُرْحَمُونَ

што азначае: "Калі чытаецца Кур"ан, слухайце яго і будзьце маўклівымі, каб маглі стаць вартымі ласкі Аллага".

---

Беларускія татары Святую Кнігу называюць Кур"ан і так было спрадвеку. У рускай літаратуры прынята называць Коран, адсюль на беларускай літаратурнай мове гучыць Каран. Арабскія студэнты, якія вучацца у Менску ва універсітэтах па 5 — 6 гадоу, вымаўляюць гук "к" цвёрда — Къур"ан.

Кур"ан называюць таксама Аль-Кур"ан, Аль-Кітаб, Аль-Фуркан, у арабскіх краінах вядомы яшчэ назвы Ан-Нур, Этанзіль, Эль-Гуда.

---

У папулярнай, навукова-папулярнай і нават навуковай літаратуры пра беларускіх татар пішуць са скрухай, нярэдка са зласлівасцю, што татары не ведаюць значэння тых малітвау, па якіх моляцца — Кур"анах, Хамаілах. Толькі гэта не зусім так. У нашых Аль-Кітабах ёсць значныя урыукі з перакладам Кур"ана на беларускую ( нярэдка на беларуска-польскую трасянку ) мову. Вядомы перклады Кур"ана на беларускую мову, дзе пад арабскімі словамі напісаны пераклад іх на беларускую. Ян Мурза Тарак Бучацкі у 1853 г. выдау у Варшаве пераклад Кур"ана на польскую мову. У 1878 г. быу надрукаваны пераклад Кур"ана на рускую мову, які выканау Г.С.Саблукоу. Гэта кніга хутка аказалася у беларускіх татар. У 1935 г. у Сараеве для беларускіх татар была надрукавана кніга "Вэрсэты з Корана" па-польску. Якуб Шынкевіч выбрау і пераклау асобныя аяты, якія надрукаваны паралельна на арабскай мове. Амаль кожны, хто хацеу мог прыдбаць пераклад Кур"ана, зроблены І.Ю.Крачкоускім. Ведаюць нашы татары польскі пераклад Кур"ана, зроблены Юзафам Бяляускім. Парадавала нас сваім перакладам Кур"ана Валерыя Порахава, якая у падзагалоуку назвы „Коран" дадала: "Перевод смыслов и комментарии Валерии Пороховой".

МАРАКАНСКІЯ АРАБЫ, арабы Марока, мараканцы, народ, асноўнае насельніцтва Марока. Колькасць больш за 17 млн. чалавек, з іх больш за 16 млн. жывуць у Марока. Жывуць таксама у Алжыры ( 70 тыс. чалавек ), Тунісе ( 15 тыс. ) і краінах Еўропы, у т.л. у Францыі 500 тыс. чалавек, Бельгіі 100 тыс., Нідэрландах 100 тыс. чалавек. Адносяцца да індасяродземнамарскай расы вялікай еўрапеоіднай расы, ёсць дамешка негроіднага тыпу. Гавораць на мараканскім дыялекце арабскай мовы. Пашыраны французская і іспанская мовы. Мараканскія арабы — мусульмане-сунніты.

Этнічная агульнасць мараканскіх арабаў склалася ў выніку змяшання ў 7 — 11 стагоддзях арабскіх плямён з аўтахтонным берберскім насельніцтвам. Пасля заваявання незалежнасці ( 1956) узмацніліся працэсы нацыянальнай кансалідацыі. Па культуры блізкія да арабаў. Асноўныя традыцыйныя заняткі — земляробства ( ячмень, пшаніца, цытрусавыя ), жывёлагадоўля. Рамёствы - ганчарства, разьба па дрэве. Значная частка сучасных мараканскіх арабаў жыве ў гарадах, занята ў прамысловасці, асабліва ў горназдабыўной, гандлі, сферы паслуг. Сфарміраваўся рабочы клас, нацыянальная інтэлігенцыя.

Традыцыйнае жыллё з цэглы ці плітняку, радзей з дрэва ці вапняку. Гарадскі дом ( д а р ) прамавугольны, з двух"яруснай галерэяй, па вуглах — вестыбюль з лесвіцай, кухня, лазня, у цэнтры — квадратны ўнутраны панадворак. Часам вылучана мужчынская палавіна з асобным панадворкам. Галоўны пакой Т-падобнай планіроўкі. Для інтэр"ера характэрны паўцыркульная і спічастая арка, разныя столі.

Пашыраны песенны фальклор. Сярод музычных інструментаў папулярныя касба ( від флейты ), арханім ( від жалейкі ), тамбурыны, бендзір ( вялікі плоскі бубен ), тарыджа ( гліняны бубен у выглядзе кавуна ).

МАРОКА, Каралеўства Марока ( араб. Аль-Мамляка аль-Магрыбія ), дзяржава ў Паўночна-Заходняй Афрыцы. Плошча 446,6 тыс. кв. км. Насельніцтва 23 млн. чалавек ( 1985 г. ). Сталіца Рабат. Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел: 36 правінцый і 1 прэфектура. Да абвяшчэння незалежнасці ў 1956 г. — пратэктарат Францыі і Іспаніі. Марока — канстытуцыйная манархія.

Глава дзяржавы — кароль. Заканадаучы орган — Палата прадстаунікоу.

П р ы р о д а . Больш за трацiну тэрыторыi краiны займаюць горы. У цэнтральнай i пауночна-заходняй частцы горы Атлас вышынёй да 4165 м ( г. Тубкаль ). На поуначы горы Эр-Рыф вышынёй да 2456 м, на паудняёвым усходзе — камянiстае перадсахарскае пласкагор"е. Уздоуж Атлантычнага узбярэжжа — нiзiнная раунiна. Карысныя выкапнi: фасфарыты, руды кобальту, марганцу, жалеза, палiметалау; ёсць нафта, каменны вугаль. Клiмат большай часткi Марока мiжземнаморскi. У гарах клiматычная вышынная пояснасць. Сярэдняя тэмпература студзеня 10 — 12 °С, лiпеня 24 — 28 °С. Найбольшая колькасць ападкау ( звыш 1000 мм у год ) выпадае у Заходнiм Эр-Рыфе i часткова у Сярэднiм Атласе, найменш — на поуднi i паудняёвым усходзе ( менш за 200 мм ). Значныя рэкi: Себу, Ум-эр-Рбiя, Тэнсiфт, Сус, Мулуя; на усходзе вадзi ( найбольшы Дра ). Пераважаюць жаутазёмы i жаута-бурыя субтрапiчныя глебы, у гарах пашыраны горна-лясныя бурыя, карычневыя i шэра-карычневыя, на поуднi — прымiтыуныя глебы субтрапiчных i трапiчных пустынь. На большай частцы тэрыторыi Марока пераважаюць стэпы, у гарах i на пауночным захадзе краiны зберагалiся лясы, на паудняёвым усходзе — злакавыя стэпы i паупустынi. Вялiкую каштоунасць уяуляюць сабой лясы з коркавага дубу i атласкага кедру. У паупустынях трава альфа — вiд кавыля вышынёй да 1 м ( з яго валокнау i жорсткiх лiстоу выраблаюць канаты, грубую тканiну i каштоуную паперу; цяпер альфу вырошчваюць i штучна ), палыны. Уздоуж вадзi — аазiсы. Водзяцца пантэра, рысь, шакал, лiс, гiена, газель; шмат грызуноу i паузуноу. У краiне нацыянальныя паркi — Тубкаль i Таззека.

Н а с е л ь н i ц т в а . Марока — мусульманская краiна. Звыш 97 % насельнiцтва — мараканскiя арабы i берберы; гаворацъ на дыялектах арабскай i берберскай моу. Афiцыйная мова — арабская. Сярэднегадавы натуральны прырост насельнiцтва 3,3 %. Пры сярэдняй шчыльнасцi насельнiцтва каля 52 чалавек на 1 кв. км ( 1985 г. ) звыш 85 % засяроджана у пауночна-заходняй частцы Марока. Гарадское насельнiцтва — 43 % ( 1982 г. ). Вялiкiя гарады ( тыс. чалавек, 1982 г. ): Касабланка 2500, Рабат 900 Мар-ракеш 450.

Г а с п а д а р к а . Марока — аграрная краiна з адносна развiтай горназдабыунай прамысловасцю. На ворныя землi i шмат-

гадовыя культуры прыпадае каля 18 %, на лугі і пашы — 28 % тэрыторыі. Звыш 95 % ворных зямель прыпадае на захад і поўнач Марока. Каля паловы апрацаванай зямлі належыць буйным феадалам і землеўласнікам-прадпрымальнікам. Звыш паловы усяго сельскагаспадарчага насельніцтва ( арандатары-хаммасы, батракі, сельскагаспадарчыя рабочыя ) пазбаўлены зямлі. Земляробства дае прыкладна дзве траціны сельскагаспадарчай вытворчасці. Каля 80 % апрацаванай плошчы пад збожжавымі ( збор 3,8 млн. т у 1984 г. ): пшаніцай, ячменем, кукурузай, аўсом, рысам. Сярод экспартных культур вылучаюцца цытрусавыя ( збор каля 1 млн.т у год ), вінаград ( 200 — 300 тыс. т ), аліўкі ( 200 — 500 тыс. т ), асноўныя плантацыі якіх размешчаны на паўночным захадзе і захадзе краіны. Збор травы альфа ( 60 тыс. т у год ). Жывёлагадоўля ў асноўным на захадзе, мае экстэнсіўны характар. Пагалоўе ( 1984, млн. ): авечак 11,5, коз 4,2, буйной рагатай жывёлы 2,3 . Рыбалоўства ( улоў рыбы 368 тыс. т у 1984 г. ). У прамысловасці важнае месца займае здабыча карысных выкапняў: фасфарытаў ( больш за палову сусветных запасаў, здабыча 21 млн. т у 1984 г. ) — на захадзе ( Хурыбга, Юсуфія, Бен-Герыр ), свінцу ( 144 тыс. т ), цынку, жалезнай руды, марганцавай руды, кобальту, медзі, вугалю, нафты — галоўным чынам на поўначы, паўднёвым усходзе і у цэнтральнай частцы. Звыш 96 % усей элктраэнергіі ( 6,2 млрд. кВт. гадз у 1984 ) даюць ГЭС, з іх траціну — гідракомплекс Бен-эль-Уідан — Афурэр на р.Эль-Абід. Апрацоўчая прамысловасць, прадстаўленая пераважна харчовай ( асабліва рыбакансервавай, мукамольнай, маслабойнай, цукроварафінаднай ), скурана-абутковай, тэкстыльнай, хімічнай, нафтаперапрацоўчай, металаапрацоўчай галінамі, засяроджана ў буйных гарадах, галоўным чынам у Касабланцы і партах на Атлантычным узбярэжжы.

Даўжыня чыгункі 1871 км, у т.л. электрафікаванай 867 км, аўтамабільных дарог 58 тыс. км, у т.л. з цвёрдым пакрыццём 26 тыс. км ( 1983 г. ). Галоўныя парты: Касабланка, Агадыр, Сафі, Махамедыя, Кенітра, Танжэр. Экспарт: фасфарыты і фосфарная кіслата ( каля 43 % вартасці экспарту ), цытрусавыя, агародніна, рыбныя кансервы, угнаенні, віно. Асноўныя знешнегандлёвыя партнёры: Францыя, Іспанія, ЗША, ФРГ. Замежны турызм ( 1670 тыс. чалавек у 1985 г. ).

Гістарычны нарыс. Тэрыторыя Марока населена з старажытнасці, жылі вандроўныя плямёны лівійцаў ( продкі сучасных берберау ). У I ст.н.э. паўночныя раёны сучаснага Марока захапілі рымляне, у 5 ст. вандалы, у 6 ст. візантыйцы. У пачатку 8 ст. з арабскім заваяваннем у Марока пашырыліся Іслам, арабская мова і культура. У часы праўлення дынастыі Альмавідаў, затым Альмахадаў, пры першых Марынідах ( 11 — 13 ст. ) Марока было магутнай дзяржавай з высокім узроўнем культуры, гандлявала з краінамі Міжземнамор"я і Афрыкі. З сярэдзіны 14 ст. пачаўся заняпад — краіну аслаблялі феадальныя міжусобіцы і паўстанні плямёнаў. З 15 ст. на тэрыторыю Марока пачалі пранікаць еўрапейцы. У 17 —18 ст. Марока — развітая феадальная дзяржава, якая паспяхова адбівала спробы еўрапейскіх дзяржаў захапіць яе тэрыторыю. У 1859 г. Францыя і Іспанія ўвялі войскі ў Марока, кабальнымі дагаворамі абмежавалі яго незалежнасць. У пачатку 20 ст. барацьба за сферы ўплыву ў Марока асабліва ўзмацніліся паміж Францыяй і Германіяй і прывяла да так званых Мараканскіх крызісаў. У 1912 г. тэрыторыю Марока фактычна падзялілі Іспанія і Францыя ( каля 80 % тэрыторыі ). Рэжым пратэктарату сустрэў упартае супраціўленне народных мас. У 1921 — 1926 гг. на поўначы існавала самастойная Рыфская рэспубліка на чале з Абд-аль-Керымам. Толькі к 1934 г. французскія ўлады задушылі супраціўленне плямёнаў у сваёй зоне. У пачатку 30-х гадоў разгарнуўся масавы антыкаланіяльны рух, узначалены палітычнымі партыямі нацыянальнай буржуазіі. З патрабаваннем незалежнасці выступіла Мараканская камуністычная партыя ( засн. у 1943 г. ), буржуазная партыя Істыкляль ( засн. у 1944), якая уручыла французскім уладам маніфест аб патрабаванні незалежнасці. Новая хваля антыкаланіяльнага руху пачалася пасля 2-й сусветнай вайны. Вызваленчая барацьба народа прымусіла Францыю 2.3.1956 прызнаць незалежнасць Марока; 7.4.1956 адменены іспанскі пратэктарат над паўночнай зонай, у 1957 г. да Марока далучыўся Танжэр. Да лістапада 1961 г. ліквідаваны французскія, да канца 1963 г. амерыканскія ваенныя базы ў Марока. Частка тэрыторыі краіны: Мелілья, Іфні (да 1969 г. ), Сеута асталіся пад уладай Іспаніі. Ва ўнутраным жыцці ажыццяўляўся курс на пераадоленне эканамічнай і культурнага адставання, стварэння незалежнай эканомікі. Дзяржаўная палітыка накіравана на ўмацаванне капіталістычных адносін у гаспадарцы. Створаны спрыяльныя ўмовы

для дзейнасці замежнага капіталу. Канстытуцыя 1962 г. абвясціла Марока канстытуцыйнай манархіяй. Эканамічныя цяжкасці, якія пагоршылі становішча народных мас, абвастрылі сацыяльныя супярэчнасці і унутрыпалітычную барацьбу. У 1959 г. адбыуся раскол партыі Істыкляль, на базе яе левага крыла створана радыкальная партыя Нацыянальны саюз народных сіл ( НСНС ). У 1959 г. кансерватыуныя сілы перайшлі у наступленне — у верасні забаронена дзейнасць кампартыі. Пасля студэнцкіх дэманстрацый, забастовак рабочых у 1965 г. у краіне уведзена надзвычайнае становішча ( адменена у 1970 г. ), распушчаны парламент улада сканцэнтравана у руках караля. У 1969 г. забаронена дзейнасць Прагрэсіунай партыі вызвалення сацыялізму ( засн. у 1968 г. ). Канстытуцыя 1970 г. заклікана яшчэ больш умацаваць манархію. На міжнароднай арэне Марока трымаецца палітыкі пазітыунага нейтралітэту, салідарнасці з народамі арабскага Усходу, Афрыкі, Азіі. З 1956 г. Марока член ААН.

Л і т а р а т у р а . Развіваецца на арабскай, берберскай і французскай мовах. Існуе фальклор на магрыбскім дыялекце арабскай мовы ( казкі, песні, прыказкі, вершы ). У сярэднія вякі на літаратуру Марока мела уплыу літаратура суседняга Арабскага халіфата у Іспаніі і яе стылёвую манернасць. Геаграфічныя працы пісалі Ідрысі ( 12 ст. ), Ібн Батута ( 14 ст. ), гістарычныя летапісы — аль-Маракушы ( 12 ст. ). У 19 ст. створаны летапіс Ахмеда ан-Насіры "Кітаб аль-Істыкса". Жанры традыцыйнай сярэдневяковай паэзіі ( касыда, газель, элегія, сатыра ) дайшлі да 20 ст. ( Мухаммед ас-Сілімані, Абдаллаг аль-Фасі ). Майстар саджа ( рыфмаваная проза ) — Мухаммед Гарыт. Лірык Мухаммед аль-Халауі ствараe касыды на палітычныя тэмы: арабскае адзінства, барацьба за мір і інш. Новы стыль увялі у літаратуру Марока публіцыст Абд аль-Хафід аль-Фасі, аутары "вершау у прозе" Мустафа Мухаммед Сабг, Мухаммед Азіз Лахбабі і Мухаммед ат-Танжауі, стваральнік драматычных творау у вершах ( "Тімп свабодных" ). Вядомыя празаікі Ахмед Бенані, Абдарахман аль-Фасі, Абд-аль-Маджыд бен Джалун — аутар зборніка навел "Даліна плачу" ( 1948 г. ) аб перыядзе французскага пратэктарату над Марока. Пасля атрымання незалежнасці узнікла нацыянальная драматургія. У 60-я гады пайвіліся гістарычныя драмы аль-Хасана ас-Саіха.

Літаратура на берберскай мове падодзена пераважна фальклорам ( цыкл паэм, аб"яднаных адным сюжэтам ці легендарным героем ).

З 12 ст. існуе невялікая перакладная літаратура з арабскай мовы, пісаная арабскім алфавітам. Празаікі Мухаммед аль-Фасі, Ахмед ас-Сафрыуі, Дрыс аш-Шрайбі, Мухаммед Азіз Лахбабі пішуць на французскай мове.

А р х і т э к т у р а, в ы я у л е н ч а е м а с т а ц т в а. Ад часу неаліту зберагліся наскальныя выявы жывёл, птушак. Асталіся руіны фінікійскіх калоній і рымскіх гарадоу ( Валюбіліс з рэшткамі храмау, жылля ). У сярэднія вякі, як вынік доугага палітычнага аб"яднання з Андалузіяй, склалася своеасаблівая школа архітэктуры ( так званы "маурытанскі" стыль ), якой уласцівыя выкарыстанне бетону, кроквенных чарапічных пакрыццяу, стральчатых і шматлопасцевых арак, высокамастацкі разьбяны арнамент па штучнаму мармуру ( стука ) і дрэве. Будаваліся гарады, палацы, шматпавярховыя мячэці, мінарэты ( Карауін у Фесе, 859г.; Кутубія у Марракешы, 1153 г.; мячэць Хасана у Рабаце, 1195 г. ). З 14 ст. фасады аздабляліся разьбяным паліваным дэкорам. Сярод мастацкіх рамёствау Марока — распісная паліваная кераміка, чаканка і інкрустацыя па метале, цісненне і шытво па скуры, ткацтва дываноу. У сучасным дойлідстве ужываюцца новыя матэрыялы і формы. У часы пратэктарату будавалі французскія спецыялісты ( Л.Марандзі і інш. ), з 50-х г. 20 ст. вылучаюцца нацыянальныя архітэктары ( Э.Азагуры і інш. ). Жывапісцы ( М.А. Ідрысі, М.Бенані ), графікі ( М.Амар ), скульптары належаць да розных кірункау мастацтва.

М у з ы к а. Марока зазнала уплыу арабскай музычнай культуры. Росквіт музіцыравання у 12 — 13 ст. звязаны з перасяленнем у Марока арабау, маурау з Іспаніі. Музыка падзяляецца на народную г р н я ("лёгкая" ) і прафесійную а л а ( "сур"ёзная " ) — андалузскага паходжання выконваецца толькі мужчынамі. Выкарыстанне пэуных ладоу строга рэгламентавана ( напрыклад, у ладзе эх-шаг пяюць толькі раніцай ). Пашыраны харавыя спевы, аркестры скрыпачоу і гітарыстау. Музыку вывучаюць у Школе мастацтвау ( Тэтуан ) і Вышэйшым інстытуце мараканскіх навук ( Рабат ).

МУСЛІМ б.ал-Хаджжадж Абу-л-Хусайн ал-Кушайры ан-Насабуры (.815 ці 821 — 875 ), славуты мухаддзіс ( нарадзіўся і памёр у г.Нішапур, на паўночным усходзе Ірана ), аўтар зводу хадзісаў — ас-Сахіх, які нараўне са зводам хадзісаў яго сучасніка Бухары лічыўся ў мусульманскіх традыцыяналістаў і прававедаў адным з самых аўтарытэтных у ліку аналагічных прац.

Муслім шмат падарожнічаў, пабываў у Хіджазе ( у святых месцах на Аравійскім паўвостраве ), Егіпце, Сірыі, Іраку, сабіраў і вывучаў хадзісы. Сцвярджаюць, што ён сабраў 300 тыс. хадзісаў і толькі 12 тыс. з іх палічыў пэўнымі і ўключыў у свой звод.

Ас-Сахіх Мусліма складзены па тыпу зборніка м у с а н н а ф , г.зн. што хадзісы ў ім размешчаны па пэўных тэмах або прадметах выказвання ( а л а - л - а б в а б ). Ас-Сахіх Мусліма утрымлівае той жа матэрыял, што і ас-Сахіх Бухары, але заснаваны на іншых крыніцах. Асаблівую ўвагу Муслім надаваў і с н а д а м : да аднаго і таго ж м а т н у ён прыводзіў розныя існады.

Праца Мусліма складаецца з 52 раздзелаў, кожны з якіх заключае ў сабе адпаведную падборку хадзісаў ( напрыклад, аб пяці апорах веры, аб шлюбе, аб рабстве, аб праве атрымання спадчыны, аб вайне, аб ахвярапрынашэнні, аб прароках і іх паплечніках, аб прадказаннях, аб канцы свету і звязаных з ім узнагародах і пакараннях, хадзісы этычнага і медыцынскага зместу ). Хадзісы гістарычнага і біяграфічнага зместу дазваляюць лічыць ас-Сахіх у пэўнай меры і гістарычнай крыніцай. Перад кожным раздзелам ёсць уводзіны, якія тлумачаць юрыдычнае прымяненне змешчаных у раздзеле хадзісаў.

Сваю працу Муслім пачынае важным уступам ( Кітаб ал-Іман ), дзе тлумачыць, якім умовам павінны адпавядаць паданні, звязаныя з Прарокам Мухаммедам, каб яны лічыліся вартымі ўвагі і даверу.

Ас-Сахіх быў прызначаны стаць настаўленнем па юрыспрудэнцыі. Муслім стварыў, акрамя гэтага, вялікую колькасць прац па фікху і біяграфічных зводаў, прысвечаных мухаддзісам . Творы гэтыя не зберагліся, да нас дайшоў толькі ас-Сахіх.

НІСА, аль-Н і с а , ан - Н і с а , 4-я сура з Кур"ана. Складаецца з 177 аятаў. Лічаць яе мядынскай, назва ад пачатковых аятаў, тэматычна звязаных з жанчынай, на беларускай мове называюць суру Ж а н ч ы н ы . Сура гэта не адналітая, утварае асобныя блокі, якія адрозніваюцца не толькі зместам, але і датай паяўлення.

Паводле даследчыкаў Кур"ана Мухаммед атрымаў гэтую суру ў мядынскі перыяд, паміж 625 і 627 гг. У бітве пад Угудам у 625 г. палегла значная колькасць бацькоў сямей, пакінуўшых пасля сваей смерці многа ўдоў і сірот; адсюль у гэтай суры такі клопат пра кабет і сірот. Вылучаюцца ў гэтай суры дзве досыць акрэсленыя групы: першая адпавядае цалкам назве суры і ахоплівае аяты I — 41, I27 — I3I і аят апошні I77. У гэтай групе аятаў гаворыцца аб правах жанчын: шлюбе, спадчыне і г.д.; акрамя гэтага аб праве бацькоў, блізкіх і далейшых родзічаў, пра правы сірот. Падрабязныя ўказанні, якія датычаць спадчыны, адрозненні, якія устанаўліваюцца паміж атрымальнікамі спадчыны розных катэгорый.

Другая група аятаў гэтай суры уключае даволі разнастайную тэматыку, але таксама звязаную з прававанымі пытаннямі, такімі як: забойства, сведкі, перадача на зберажэнне ( дэпазіт ), асновы справядлівасці, а таксама рэлігійнымі: асновы веры ( Аллаг адзін ), Апошні Суд, замагільнае жыццё ( рай і пекла ), язычніцтва ( пакланенне ідалам-балванам ), хрысціяне і габрэі, а тасама ёсць тэма вайны і вайсковай практыкі. Напрыканцы сура закранае важную праблему: крыжаванне і смерць Ісы ( Іісуса Хрыста ) і выражае ўласцівае для Ісламу палажэнне у гэтым пытанні: Іса не быў укрыжаваны і не памёр, але памёр замест яго нехта іншы.

САБЛУКОЎ Гордзій Сямёнавіч ( I804 — 29.I.I880 ), выдатны рускі цюрколаг і перакладчык Кур"ана. Нарадзіўся у сям"і праваслаўнага святара у Аскінскім заводзе Арэнбургскай губерні ( паводле І.Ю.Крачкоўскага на Архангельскім заводзе за 80 вёрст ад Уфы ). Адукацыю атрымаў у Арэнбургскай духоўнай семінарыі і Казанскай духоўнай акадэміі ( кандыдат багаслоўя, I830 г. ). Педагагічную дзейнасць пачаў у Саратаўскай духоўнай семінарыі як настаўнік яўрэйскай мовы ( іўрыту ) і грамадзянскай гісторыі ( сярод яго вучняў быў М.Г.Чарнышэўскі ). У місіянерскіх мэтах самастойна вывучаў арабскую і татарскую мовы, а таксама гісторыю і этнаграфію татар. З I837 г. выкладаў у семінарыі татарскую мову. У I849 г. быў пераведзены ў Казанскую духоўную акадэмію бакалаўрам грэчаскай мовы; адначасова у Казанскай духоўнай семінарыі выкладаў татарскую мову, з I850 г. пачаў выкладаць гэтую мову і у Казанскай духоўнай акадэміі. Актыўна удзельнічаў

у працы Камітэта па перакладу хрысціянскіх навучальных кніг на татарскую мову. У 1854 г. стаў выкладаць арабскую і татарскую мову на аддзяленні Казанскай духоўнай акадэміі па спецыяльнасці антымусульманства. У 1862 г. пайшоў у адстаўку.

У гісторыі цюркалогіі Г.С.Саблукоў вядомы як перакладчык твора Абу-л-Газі "Радавод цюркаў", у арабістыцы — як першы перакладчык непасрэдна з арабскай мовы на рускую Кур"ана (1878) "Дадатку да перакладу Кур"ана" ( 1879, 2-е выд. 1898 ), кнігі "Звесткі пра Кур"ан, законапалажыцельнай кнізе мухамеданскага веравучэння" ( 1884 ), а таксама артыкулаў "Супастаўленне мухамеданскага вучэння аб імёнах боскіх з хрысціянскім аб іх вучэннем" ( 1872 ) і "Расказы мухамедан пра Кыблу" ( 1889, надрукавана пасля смерці аўтара ).

Пераклад Кур"ана на рускую мову Г.С.Саблукова карыстаўся вялікім попытам. Ён паўторна выдаваўся ў 1894 і 1907 гг., рэпрынтна перавыданы ў 1990 г. Быў шырока вядомы сярод беларускіх татар да першай Сусветнай вайны ( казанскія татары-кніганошы распаўсюджвалі яго сярод нашых татар, часта раздавалі без аплаты як садагу ). Падабаўся гэты Кур"ан мусульманам тым, што друкаваўся паралельна тэкст на арабскай мове і гэта было як бы гарантыяй, што рускі пераклад сапраўдны.

З цягам часу і развіццём усходазнаўства ў Расіі недахопы і адмоўныя бакі перакладу Г.С.Саблукова былі відаць для прафесійных арабістаў. Для неспецыяліста тут былі мясціны, якія не дазвалялі дабрацца да звычайнага сэнсу. У перакладзе былі спецыфічныя выразы, уласцівыя хрысціянскай літаратуры і ўзнікшыя ў працэсе перакладу Бібліі і Евангелля з царкоўнаславянскай мовы на рускую. Будучы замацаванымі друкаваным словам памылкі і недакладнасці пры перакладзе Кур"ана маглі выклікаць у непадрыхтаванага чытача асацыяцыі, далёкія ад ідэалогіі Ісламу, стварыць памылковае ўяўленне аб ідэальным змесце свяшчэннай кнігі мусульман.

Пераклад Кур"ана, зроблены Г.С.Саблуковым, заслужыў высокую ацэнку спецыялістаў-арабістаў ( у т.л. І.Ю.Крачкоўскага ), на працягу амаль стагоддзя задавальняў патрабаванні навукі і рускага грамадства. У 1946 г. быў надрукаваны новы пераклад Кур"ана, які здзейсніў славуты арабіст І.Ю.Крачкоўскі.

Працяг энцыклапедычнага артыкула пра Татарстан

ТАТАРСТАН. А с в е т а . Яшчэ у канцы IX -- пачатку X стст. у гарадах і сёлах Волжскай Булгарыі, па звестках арабскага вучонага, географа Ібн Рустэ, былі "мячэці і пачатковыя школы з мязімамі ( муэдзінамі ) і імамамі". У XII — XIУ стст. у Булгарыі была разгалінаваная сетка мектэбе ( пачатковых школ пры мячэцях ) і медрэсе ( сярэдніх духоуных навучальных устаноу ), якія рыхтавалі дзелчау, здольных развіваць нацыянальную культуру на узроуні перадавых цывілізацый таго часу. У апошняй чвэрці XIУ ст. і у пачатку XУ ст. матэрыяльная і духоуная спадчына былой Волжскай Булгарыі пераходзіць да яе пераемніка — Казанскага ханства, якое уяуляла сабою моцны эканамічны і палітычны цэнтр. У кнізе татарскага гісторыка Х.Суслімі "Гісторыя булгар" ( 1584 г. ) называецца шмат населеных пунктау Казанскага ханства, дзе былі мектэбе і медрэсе, дзе працавалі вядомыя настаунікі і праведнікі. У самой Казані, напрыклад, пры галоунай мячэці было вялікае медрэсе вышэйшага тыпу, якім кіравау відны педагог сеід Кул Шарыф.

Працэс культурнага развіцця, які набыу істотныя свецкія рысы, быу перапынены заваяваннем Казані войскамі Івана IУ Жахлівага 2 кастрычніка 1552 г. і спусташэннем края на працягу некалькіх наступных гадоу.

Ва умовах абвастрэння класавай барацьбы і разгортвання нацыянальна-вызваленчага руху прыгнечаных народау царскі урад вымушаны быу некалькі аслабіць ганенні на мусульманскую веру і нацыянальную культуру, рабіць стауку на больш вытанчаныя формы асіміляцыі і дэнацыяналізацыі. Пры Кацярыне II ствараецца духоунае упрауленне мусульман, дазваляецца будаваць мячэці і адкрываць медрэсе пры іх. У 70 — 80-х гг. ХУШ ст. у Казані адкрываецца медрэсе Ахундауcкае і Апанаеускае, а таксама медрэсе при доме Аміржанавых. У канцы стагоддзя у поуны голас заяуляюць пра сябе медрэсе у вёсках Кашкар, Менгер, Сатыш, Саба, Бурундук, Стэрлібаш, Мачкара, Ташкічу, Шырндан, а таксама ва Уфе і у прыгарадзе Арэнбурга — Каргалы. Нямецкі вучоны, падарожнік Г.Г.Георгі, аутар "Апісання усіх народау, якія жывуць у Расійскай дзяржаве" ( 1799 г. ) адзначае, што у татар у кожнай вёсачцы

ёсць "асобная малельная хата і школа". Ён жа піша, што "у казанскіх слабодах і сёлах ёсць школы для дзяўчынак".

Да сярэдзіны XIX ст. толькі у Казанскай губерні было 430 мектэбе і 57 медрэсе. У пачатку XX ст. іх колькасць пераўзышло тысячу. Акрамя таго, многа мектэбе і медрэсе было ва Уфімскай, Арэнбургскай, Сімбірскай, Вяцкай, Астраханскай і іншых губернях, г.зн. на этнічнай тэрыторыі татарскай нацыі.

Гаворачы пра дарэвалюцыйную татарскую школу трэба добра адрозніваць кадымістскія ( стараметодныя ) і джадыдзістскія ( навametодныя ) медрэсе. Першыя паўсюдна функцыянавалі да 90-х гг. XIX ст., захаваліся і у пачатку XX ст., аднак навametодныя хоць і павольна, але неухільна сталі адхіляць стараметодныя на другі план. У кадымістскім медрэсе асноўнае месца належала багаслоўскім дысцыплінам, яно было накіравана на схаластычнае, механічнае запамінанне прадметаў, арыентавалася галоўным чынам на спасціжэнне тэкстаў святых кніг. Аднак старая школа мела і істотныя элементы свецкай адукацыі, такія як сінтаксіс арабскай мовы, логіка Арыстоцеля, арыфметыка, звесткі па праву — сямейнаму, гандлёваму і да таго падобныя. Інспектар Казанскай навучальнай акругі В.В.Радлаў у 1872 г. адзначаў: "Разумовае развіццё шакірдаў ( навучэнцаў медрэсе ) даволі значнае і, нягледзячы на аднабокасць іх ведаў, шкірды разумова значна вышэй нашых настаўнікаў прыходскіх гарадскіх школ".

Не варта забываць, што выдатныя татарскія асветнікі, грамадскія дзеячы, гісторыкі, пісьменнікі Ш.Марджані, К.Насыры, Х.Фаізханаў, Х.Амірхан, М.Акмуллаў, Г. Махмудаў, Г.Ільясі, Р.Фахрутдзінаў, Г.Барудзі, Ф.Карымі, Р.Ібрагімаў і многія іншыя прадстаўнікі інтэлектуальнай эліты выйшлі з кадымістскіх медрэсе. У іх вучыліся ці пачыналі вучобу Г.Ісхакі, Г.Камал, Г.Тукай, Ф.Амірхан, С.Раміеў, М.Гафуры, Ш.Камал, Г.Ібрагімаў і іншыя прадстаўнікі татарскай дэмакратычнай культуры.

Умовы развіцця народнай адукацыі у татар былі такія, што царызм усяляк перашкаджаў стварэнню свецкай нацыянальнай школы. Пры гэтым урад кіраваўся, відавочна, указаннямі апалагета місіянерства Н.І.Ільмінскага, які лічыў, што "фанатык без рускай адукацыі і мовы параўнальна лепшы, чым па-руску цывілізаваны татарын, а яшчэ горш арыстакрат, а яшчэ горш чалавек з універсітэцкай адукацыяй". Татарскае медрэсе, па суроваму распараджэнню улад, магло мець толькі канфесійны, г.зн. рэлігійны характар.

Тым не менш татарская інтэлігенцыя, насуперак праследаванням

свецкага напрамку ў татарскай школе, імкнулася ўключаць у праграмы канфесійных школ многа дысцыплін агульнаадукацыйнага характару, што яны па сутнасці ператвараліся ў свецкія навучальныя установы. Натуральна, у кожным медрэсе ( ў новаметодным у тым ліку ) як асноўныя прадметы вывучаліся: Кур"ан, тлумачэнне Кур"ана, хадзіс ( выслоўі Мухаммеда ), гісторыя Ісламу, звесткі пра жыццё Прарока і яго паплечнікаў, гакаід ( вера ), фікх ( асновы шарыяту ) і інш. Аднак свецкія прадметы усё больш пераважалі над рэлігійнымі. Так, у казанскім медрэсе "Мухаммадыя" у пачатку XX ст. выкладалі: рускую мову, арыфметыку, чыстапісанне, рысаванне ( чарчэнне ), лічэнне, геаграфію, фізіку геаметрыю, прыродазнаўства, гісторыю Расіі, усеагульную гісторыю, гісторыю цюркскіх народаў, гісторыю навук і класаў, этыку, гігіену, юрыспрудэнцыю, метрыку, рыторыку, псіхалогію, логіку, філасофію, методыку выкладання, педагогіку, арабскую мову і літаратуру, персідскую мову і г.д. Фактычна гэта быў нацыянальны універсітэт , які аб"ядноўваў у сябе 4 ступені адукацыі: пачатковае, сярэдняе, вышэйшае сярэдняе, вышэйшае. Аналагічныя праграмы мелі медрэсе "Хусаінія" ( Арэнбург ), "Галія" ( Уфа ), "Расулія" ( Троіцк ), сельскае медрэсе "Бубі" ( Вяцкая губерня ) і інш. У апошнім, у прыватнасці, выкладаліся нямецкая і французская мовы, а на рускую мову у многіх класах выдзялялася да 12 урокаў у тыдзень.

Шырокае развіцце, асабліва пасля рэвалюцыі 1905 — 1907 гг., атрымала жаночая адукацыя. Існавала мноства курсаў па падрыхтоўцы настаўнікаў і настаўніц. Настаўнікаў рыхтавалі і асобныя медрэсе. Татарская моладзь вучылася не толькі ў сваіх нацыянальных навучальных установах, але і ў дзяржаўных школах Расіі, у прыватнасці, у гімназіях, разнастайных спецыяльных вучылішчах, курсах, універсітэтах. Сотні татар атрымалі сярэднюю і вышэйшую адукацыю ў шэрагу заходнееўрапейскіх краін, у Японіі, Амерыцы, Егіпце, Турцыі, Сірыі і г.д. Выдатных поспехаў дасягнула С.Шакулава, адна з першых татарскіх жанчын з вышэйшай матэматычнай адукацыяй. У 1913 г. яна скончыла знакаміты Сарбонскі універсітэт у Парыжы, а у 1915 г. стала уладальніцай яшчэ аднаго дыплома аб заканчэнні фізіка-матэматычнага факультэта Маскоўскага універсітэта.

Царскі ўрад на працягу ўсяго дарэвалюцыйнага перыяду падвяргаў татарскую народную адукацыю суровым ганенням: закрываў школы,

высылау прагрэсіўных настаўнікаў, збіраў даносы на перадавых педагогаў, склікаў асобныя нарады для расправы з нацыянальнай асветай. "Вяршыняй" каланіяльнай палітыкі самадзяржаўя у галіне народнай адукацыі з"явіўся разгром медрэсе "Бубі" у 1911 г. Тым больш з"яўляецца дзіўным, што татарскі народ у дакастрычніцкі перыяд быў адным з самых пісьменных народаў Расійскай імперыі.

Інспектар Казанскай навучальнай акругі Я.Д.Каблоў у 1908 г. пісаў: "Сярод народнасцей, якія насяляюць усходнюю частку Расіі, татары магаметане займаюць першае месца". Ён жа у 1916 г. пацвердзіў, што "У Расіі цяжка назваць народнасць, сярод якой была бы так пашырана пісьменнасць, як у казанскіх татар". Асобныя крыніцы ацэньвалі ступень пісьменнасці татар у межах 80 %. Гэта вельмі трывожыла царскі урад, які безупынна цвердзіў пра тое, што "канчатковай мэтай адукацыі усіх інародцаў, якія жывуць у межах нашай айчыны, бясспрэчна, павінна быць абрусенне і зліццё іх з рускім народам". Пры гэтым зусім "забывалася", а дакладней адкідвалася тое, што ўжо даўно народ, які кансалідаваўся у нацыю, меў багатыя нацыянальныя традыцыі, знаходзіўся на дастаткова высокай ступені духоўнага і інтэлектуальнага развіцця.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі паявілася магчымасць развіцця нацыянальнай школы ва ўсіх рэгіёнах краіны, дзе пражывалі татары. Аднак гэты працэс існаваў нядоўга. Абмежаванне суверэнітэту Татарстана перагарадзіў шлях развіцця нацыянальнай асветы. Вялікую шкоду развіццю татарскай школы прынесла двухразовая змена алфавіта. Палітыка стварэння маналітнага "савецкага народа", якая узмацнілася напрыканцы 30-х гадоў, паставіла нацыянальную школу перад пагрозай пагібелі. Колькасць татарскіх школ з году у год памяншалася. Ліквідавалі татарскія школы у 32 рэспубліках і абласцях, дзе кампактна пражывала татарскае насельніцтва. Яны захаваліся часткова у Татарстане, Башкартастане, Чувашыі і Пермскай вобласці.

Што датычыцца сучаснага стану, то па звестках 1991 г. у Татарстане у 919 з 2534 дзіцячых садкоў выхаванне вядзецца на татарскай мове. Агульная колькасць дзяцей-татар у іх 31378.

У 1991/1992 навучальным годзе у рэспубліцы з 2370 агульнаадукацыйных школ у 1241 школе ( 1049 татарскіх і 192 мяшаных) навучанне вядзецца па навучальнаму плану татарскіх школ з ахопам 53861 дзяцей-татар. Цяпер у рэспубліцы 30 % ад агульнай колькас-

ці татарскіх дзяцей навучаецца на роднай мове. За межамі Татарстана налічваецца каля 2 тыс. школ, дзе навучаюцца дзеці татарскай нацыянальнасці, але толькі 7 % ад агульнай колькасці навучэнцаў-татар маюць магчымасць навучацца на роднай мове.

У Татарстане толькі у 8 з 108 прафесійных вучылішчаў навучальна-выхаваўчая работа праводзіцца на татарскай мове. Існуючая унітарная сістэма асветы не забяспечвае свабоднага развіцця нацыі, перастала адпавядаць духоўным запатрабаванням татарскага народа.

У апошнія гады пачаўся працэс адраджэння нацыянальнай школы. У Казані толькі за апошнія тры гады адкрыліся 11 гімназій, а у рэспубліцы іх 20. Больш увагі надаецца падрыхтоўцы педагагічных кадраў для татарскі школ. Павялічваецца набор студэнтаў на татарскія аддзяленні Казанскага універсітэта, педагагічных ВНУ рэспублікі і педвучылішч. На многіх факультэтах Казанскага, Набярэжна-Чаунінскага педагагічнага інстытутаў адкрыліся тараскія групы. Працуюць аддзяленні татарскай мовы і літаратуры у Самарскім і Табольскім педагагічных інстытутах. Паявілася магчымасць больш поўнага забеспячэння нацыянальнай школы навучальна-метадычнымі дапаможнікамі і падручнікамі. У 1991 г. у Казані адкрылася выдавецтва навучальна-метадычнай літаратуры "Магарыф".

У цяперашні час у рэспубліцы распрацавана "Канцэпцыя развіцця татарскай асветы", якая прадугледжвае аднаўленне і развіццё сістэмы народнай асветы ва умовах суверэннай дзяржавы. З мэтай стварэння адзінай сістэмы татарскай асветы была створана Усетатарская асацыяцыя "Магарыф", устаноўчая канферэнцыя якой адбылася у студзені 1992 г. у Казані.

<u>ТАУБА</u>, аль-Тауба, ат-Тауба, 9-я сура з Кур"ана. Назва ад слова, якое паўтараецца з 3-га аята — Скруха, Раскаянне. Акрамя гэтага, да паўсюдна прынятай назвы гэтай суры аль-Тауба, ужываецца яшчэ назва, якая паходзіць з 1-га аята, а менавіта: аль-Бара — звальненне ад абавязкаў, ільгота. Як вынікае са зместу 1-га і іншых аятаў, справа ідзе аб вызваленні д.абавязацельстваў, заключанных у дамове, як гэта паясняецца далей. Гэта адзіная сура, у якой няма абавязковай формулы: "У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага". Мусульманскія вучоныя тлумачаць тым, што сура гэтая пачаткова была як бы

другой часткай 8-й суры. Не мела яна яшчэ свайго сталага месца, калі Прарок памёр, і вырашана было далучыць яе да 8-й суры; такім спосабам узнікла цэласнасць, не падзеленая уступнай формулай, якая ўжо была на пачатку 8-й суры.

Скруха ( раскаянне ) з"яўляецца адной з апошніх медынскіх сур, узнікла ўжо пасля узяцця Меккі праз Мухаммеда ў 630 г., а большая яе частка датычыцца вялікага ваеннага паходу Прарока на поўнач, які затрымаўся пад Табукам. Даследчыца і паэтычнага перакладу Кур"ана Валерыя Пораxава перадае, што горад Табук знаходзіўся за 500 км на паўночны захад ад Медыны на тагачаснай граніцы з Сірыйскай правінцыяй Візантыйскай імперыі. Каб папярэдзіць утаржэнне візантыйскага імператара у Аравію, Мухаммед з вялікай арміяй рушыў насустрач праціўніку. Па дарозе ён заручыўся падтрымкай некалькіх хрысціянскіх і іудзейскіх плямён, падпісаўшы з імі дамовы. Вынікам гэтых мер было тое, што Візантыя не рашылася на вайну з мусульманскай Аравіяй.

ХАДЗІС ( араб. "навіна", "вядомасць", "вестка", "расказ"), расказ пра словы і чыны Мухаммеда, якія датычацца рэлігійных і прававых бакоў жыцця мусульманскай абшчыны. Хадзіс складаецца з двух частак: уласна інфармацыйнай ( м а т н ) і пераліка людзей, ад якіх атрымана інфармацыя ( і с н а д ). Сінонімы слова хадзіс — а с а р ( паданне паплечнікаў Прарока ) і х а б а р ( вестка, паведамленне ).

Хадзіс лічыцца другой пасля Кур"ана крыніцай мусульманскага права, на якіх заснавана С у н н а , яны ( хадзісы ) утрымліваюць у сабе значную частку прынцыпаў і ідэй Ісламу. Менавіта хадзісы сталі сродкам дапасавання Ісламу да новых сацыяльных і ідэйных сітуацый, якія узніклі пасля мусульманскіх заваяванняў і узнікнення Халіфата.

З сярэдзіны УП ст. складаліся тэматычныя зборнікі хадзісаў ( м у с а н н а ф ) і зборнікаў, якія аб"ядноўвалі разам хадзісы ад аднаго перадатчыка ( м у с н а д ). Найбольш аўтарытэтнымі зборнікамі хадзісаў лічацца ў суннітаў: 1) Ал-Джамі ас-Сахіх, ці скарочана, ас-Сахіх ал-Бухары ( гл. Бухары ); 2) Ал-Джамі ас-Сахіх Мусліма ( гл. Муслім ); Кітаб ас-Сунан

Абу Да"уда ас-Сіджыстані ( памёр у 888 г. ); 4) Ал-Джамі ал-кабір Мухаммеда ат-Тырмізі ( памёр у 892 г. ); Кітаб ас-Сунан Ібн Маджы ( памёр у 886 г. ). Вялікай папулярнасцю карыстаецца таксама Муснад Ібн Ханбала ( памёр у 855 г. ).

Поруч з хадзісамі, якія датычацца рэлігійных, прававых і этычных аспектау абшчыны, існавалі гістарычныя хадзісы, якія сталі асновай с і р ы — жыццяпісу Мухаммеда. Вылучаецца таксама катэгорыя хадзісау — п р а р о ц т в а у , якія прадказваюць розныя палітычныя падзеі і звязаныя з імі бедствы. Ёсць хадзісы, у якіх названы годнасці прадстаунікоу розных арабскіх плямён і жыхароу розных абласцей мусульманскага свету ( ф а д"а і л ). Асобнае месца займаюць а л - Х а д з і с ы а л - К у д с і — выказванні, якія уваходзяць у звод хадзісау, але лічацца словамі Аллага, а не Мухаммеда.

У мусульманскай навуцы склалася асобная дысцыпліна даследавання хадзісау — вызначэння ступені верагоднасці хадзісау у выніку крытыкі надзейнасці існадау. Былі створаны спецыяльныя працы, прысвечаныя перадатчыкам хадзісау ( гэта былі першыя працы па чалавеказнаустсву ). Склалася сістэма ацэнкі ступені верагоднасці хадзісау са сваімі спецыфічнымі крытэрыямі і тэрміналогіяй. Людзі, якія займаліся зборам і крытыкай хадзісау, называліся м у х а д д з і с а м і . Яны складалі значную частку мусульманскіх вучоных у першыя вякі Ісламу. Мухаддзісы сталі галоунымі носьбітамі традыцыяналісцкай мусульманскай ідэалогіі. Збор хадзісау быу пачэсны занятак для вучоных падарожнікау, складау характэрную рысу сярэдневяковай мусульманскай культуры. Хадзіс — важная частка аргументацыі любой навуковай працы; скарыстоуваюць хадзісы таксама у якасці папулярных афарызмау і прымавак.

У аль-Кітабах ( гл. Кітаб ) і Хамаілах беларускіх татар трапляюцца назвы хадзіс як а с а р , х а д ы с ь , х е д з і с, х е д ы с ь , х а б а р ( множны лік а х б а р , так шыты называюць свае зборнікі хадзісау — А х б а р ).

# ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСКІХ ТАТАР ЗА 1993 ГОД
( кароткі агляд )

Мінулы 1993 год быў багаты на публікацыі аб беларускіх татарах. Нагадаем, што 26 — 27 сакавіка 1993 года ў Менску адбыўся Першая міжнародная навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная 600-годдзю татарскага асадніцтва, распачатага пры Вялікім Вітаўце. У рабоце гэтай канферэнцыі бралі ўдзел вучоныя Беларусі, Літвы, Польшчы, Крыма, Татарстана, Масквы, Сант-Пецярбурга, Калінінграда, кіраўнікі нацыянальна-культурных згуртаванняў Беларусі, прадстаўнікі пасольстваў, акрэдытаваных у Менску, шматлікая студэнцкая моладзь.

На канферэнцыі было заслухана 62 даклады і паведамленні, прыняты рэкамендацыі па правядзенні далейшай навуковай работы ў даследаванні гісторыі, культуры, мусульманскай рэлігіі татар Беларусі, Літвы і Польшчы. У хуткім часе будуць надрукаваны матэрыялы згаданай канферэнцыі.

Напярэдадні канферэнцыі выйшла ў свет у менскім выдавецтве "Полымя" кніга С.Думіна і І.Канапацкага "Беларускія татары: мінулае і сучаснасць". Наклад гэтага навукова-папулярнага выдання невялікі — усяго 2 тыс. паасобнікаў. Тады ж была рэпрынтным спосабам выдана за кошт "Аль-Кітаба" кніга А.Мухлінскага "Исследование о происхождении и состоянии литовских татар", якая выйшла ў 1857 г. у Санкт-Пецярбургу і да гэтага часу зберагалася толькі ў нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

23 красавіка 1993 г. у штотыднёвіку беларускай інтэлігенцыі "Літаратура і мастацтва" з"явілася рэцэнзія на кнігу "Татары Беларусі: мінулае і сучаснасць" пад назвай "Тут іх радзіма". Яна напісана кандыдатам гістарычных навук, намеснікам галоўнага рэдактара Беларускай Энцыклапедыі І.Хаўратовічам.

Справаздача аб рабоце канферэнцыі была змешчана на старонках газеты "Настаўнік" ( 1993, 22 красавіка ), "Чыгуначнік Беларусі" ( 1993, 20 красавіка ), Капыльскай раённай газеце "Слава працы" ў нумары за 14 ліпеня 1993 г. надрукаваны цікавы артыкул удзельніка канферэнцыі дырэктара Руднянскай няпоўнай сярэдняй школы А.Бельскага ( нядаўна памёр, рай яму светлы ) "У кожнага свае карані".

Сваімі уражаннямі аб рабоце канферэнцыі падзяліўся на старон-

ках газеты "Голос Крыма" член Меджліса крымскататарскага народа Э.Кантэмір-Умерау ( "Голос Крыма", 1993, № 3 ).

У 1993 годзе рэдакцыя газеты "Звязда" выпусціла цікавую і змястоўную кнігу "100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі". На пытанне "Адкуль з"явіліся у нас татары ?" дае адказ І.Канапацкі. Ён жа у адрыўным календары на 1994 год "Родны край" ( лісток за 31 мая ) напісаў невялічкі артыкул "Беларускія татары".

Шэраг артыкулаў з гісторыі беларускіх татараў быў надрукаваны у беларускіх часопісах. У часопісе "Беларуская думка" ( № 7, 1993 г. ) вялікі артыкул пад назвай "Салям Алейкум ! Мір вам ..." змясціў М.Маліноўскі, правадзейны член Геаграфічнага таварыства Беларусі. Тут чытач знойдзе цікавыя, яшчэ невядомыя да гэтага часу звесткі пра татар.

Аспірант Беларускага дзяржаўнага універсітэта Мухітдзін Мамаразакаў у снежні 1993 г. паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю "Мусульманскі культ як сацыяльна-культурная з"ява на матэрыялах Узбекістана і Беларусі". У часопісе "Веснік БДУ" надрукаваў артыкул "Мусульманская дыяспара на Беларусі: праблема культа" ( серыя 3, 1993, № 3 )

Часопіс "Бярозка" ( 1993, № 6 ) надрукаваў артыкул І.Канапацкага "Татары на землях Беларусі". Яго ж артыкул "Мы не іга, мы — народ" быў змешчаны на старонках часопіса "Беларусь" ( 1993, № 9 ). Гэты ж часопіс на васьмі старонках у рубрыцы "Суайчыннікі" надрукаваў цікавыя матэрыялы і фотаздымкі з жыцця беларускіх татар. Тут жа вялікае інтэрв"ю часопісу пад назвай "Працэс асіміляцыі непазбежны, і тым не менш мы як народ выжылі" даў прэзідэнт Беларускага згуртавання татар-мусульман "Аль-Кітаб" А.Ю.Шабановіч.

Не абышлі увагай тэму беларускіх татар і сталічныя газеты. У беларускай маладзёжнай газеце "Чырвоная змена" за 1 ліпеня 1993 г. быў надрукаваны артыкул кандыдата гістарычных навук Ш.Бекцінеева "Татарскія уланы". Гэта ж газета у № 46 за 25 лістапада надрукавала вялікі артыкул доктара мастацтвазнаўства А.Лакоткі "Мячэці Беларусі"

Карэспандэнт газеты "Советская Белоруссия" Пётр Бакланаў у матэрыяле "Мечеть под Гродно" ( 20 студзеня 1993 г. ) паведамляў, што ужо "отведена площадка под строительство храма для мусульманской общины в Гродно. Разместится он в живо-

писном месте возле деревни Лососно. Проект мечети предоставит муфтий из Уфы, либо он будет разработан местными специалистами. Идет слух, что гродненские мусульмане намерены присвоить будущему храму имя короля Саудовской Аравии Фахда в признательность за то, что он пообещал выделить на стройку несколько десятков тысяч долларов". Карэспандэнт штотыднёвіка "Семь дней", узяу інтэрв"ю у Ю.Крыніцкага і у матэрыяле ад 12 чэрвеня 1993 г., № 24 надрукавау: "Пособие от шейха" аб тым, што аж "по сто американских долларов в качестве разовой помощи распорядился выдать из своих сбережений проживающим в Беларуси инвалидам и матерям-одиночкам мусульманской национальности (.?!. ) шейх Фарид Курайши из Объединенных Арабских Эмиратов. Об этом объявлено на республиканском учредительном съезде мусульман, который состоялся в деревне Сандыковщизне Щучинского района — населенном пункте, где компактно проживают татары". І далей штотыднёвік паведамляу, што "белорусским татарам помогают благотворительные организации из ближневосточных стран, международный исламский центр. В частности, выделены значительные финансовые средства на строительство мечети под Гродно, проект которой разработан в Уфе, где находится духовное управление мусульман СНГ и Сибири".

Менш аптымістычны, але больш праудзівы матэрыял даслау у газету "Звязда" старшыня мусульманскай абшчыны г.Навагрудка Б.Шагідэвіч. Газета змясціла яго у нумары за 30 ліпеня 1993 г. пад назвай "Мячэць вярнулі. Але у якім стане". Аутар піша, што "калісьці навагрудскую мячэць савецкая улада забрала, пераабсталявала яе пад жыллё. Апошнім часам там было сем кватэр. Мусульманская абшчына, якая налічвае у Навагрудку каля 340 чалавек ужо два гады збіралася на набажэнствы па кватэрах. Але у рэшце рэшт мы дабіліся вяртання нашай святыні і Навагрудскі гарвыканкам прыняу рашэнне аб высяленні жыльцоу і прадстауленні ім іншых кватэр. Большасць ужо вызваліла памяшканні. Але у гэты момант домакіраунiцтва пачало разбіраць печкі у былых кватэрах. Мы баімся, што справа дойдзе да вокнау і дзвярэй і будынак увогуле будзе разрабаваны ...

А мячэці і так патрэбны рамонт, на які ні горад, ні абласныя і рэспубліканскія улады сродкау не выдзяляюць. Крыудна будзе, калі замест дапамогі у рэстаурацыі будынка мячэці яго яшчэ больш разбураць".

Менская гарадская газета "Добры вечар" у нумары за 5 мая 1993 г. змясціла матэрыял студэнта факультэта журналістыкі БДУ Алі Афіфа "Арабская школа", дзе паведамляецца, што "уже несколько месяцев в Минске работает воскресная арабская школа.. Еженедельные занятия здесь проводят студенты из арабских стран. Ученики — в основном живущие в Минске татары, многие из которых считают себя мусульманами".

Апошнім часам беларускія паэты пачалі звяртацца да татарска-мусульманскай тэмы. "Байрам" ужо друкавау вершы народнага паэта Р.Барадуліна, паэта А.Касцяня, паэткі С.Багданкевіч і паэтау Я.Гучка і І.Карповіча ( нядауна памёр, рай яму светлы ).

Цікавыя звесткі пра жыццё татар на Лынтупшчыне ( Пастаускі раён ) дае у сваей кнізе "Лынтупы" настаунік І.Быхавец. Вельмі каштоуную падборку матэрыялау, надрукаваных у мясцовым друку Віцебскай і Гродзенскай абласцей, даслау у рэдакцыю "Байрама" настаунік з Браслаушчыны Ф.Фёдарау.

Матэрыялы па гісторыі татарау даслау таксама наш дауні сябар доктар гістарычных навук, прафесар Л.М.Лыч. Ён паведаміу, што газета "Савецкая Беларусь" 31 кастрычніка 1925 г. пісала, што у час Курлоускага расстрэлу 1905 г. у Менску загінуу Аляксандровіч Сюлейман Ібрагімавіч, а у газеце "Навіны Беларускай Акадэміі" 9 сакавіка 1993 г. паведамлялася, што у генерала Булак-Балаховіча з верасня 1915 г. быу ардынарцам яго зямляк татарын Якуб Гесенга. Прафесар Л.М.Лыч падрыхтавау грунтоуны агляд квартальніка "Байрам" за 1991 — 1993 гг., які мы , калі дазволіць Аллаh, змесцім у чарговым нумары "Байрама".

Добрым знакам стала і тое, што нашы госці, якія пабывалі у Менску і пазнаёміліся з беларускімі татарамі, пішуць пра свае уражанні у часопісы і газеты. Была публікацыя у венгерскім часопісе "Keletkutatas" нашага дауняга прыяцеля Г.Янкоускага, прафесара-цюрколага, у швейцарскім друку артыкула П.Сутара, прафесара, у Злучаных Штатах у газеце "Беларус" прафесар Я.Запруднік, у шматтыражнай газеце "Нур" ( "Прамень" ) Камскага аутамабільнага завода артыкул "Менскія татары" М.Мапшына.

Журналісты радыё і тэлебачання многа разоу перадавалі пра жыццё беларускіх татар. Відэазапіс і гуказапіс зберагаюцца у архіве Беларускага згуртавання татарау-мусульман "Аль-Кітаб".

З М Е С Т